ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

17 кастрычніка 1997 г. № 42/3918 Кошт 3 000 руб.





*Удзельніца конкурсу майстроў саломапляцення Наталля ТАРАНКА (Гродна) пляце дзівосную птушку.*
*Фота А. АСІПОВІЧА*

# Залатое свята

"Калі з палеткаў сабрана ўсё, што вырасцілі, то можна і свята зладзіць", — казаў Яўген Сахута, адкрываючы Першы рэспубліканскі конкурс майстроў саломапляцення. Ён перарэзаў сярпом сімвалічны снапок, а потым на сцэну паклікалі пачынальнікаў — тых, хто праславіў Беларусь сваімі таленавітымі рукамі. Сярод іх Таіса Агафоненка, Лідзія Главацкая, Галіна Саламянка, Ларыса Лось. Зала вітала іх стоячы, і гэта быў адзін з самых кранальных момантаў свята.

Салома — яна залатая, і вырабы з яе свіцяцца, як сонечныя промні. У руках умельцаў яна ператвараецца ў музыку, у твор мастацтва, у цуд. Праз залатую саламяную браму прайшлі ўдзельнікі конкурсу. Па добрым

*(Працяг на стар. 4)*

# КОЛА ДЗЁН

**_Нельга не заўважыць, што "беларуская тэма" паступова сыходзіць з навін і іншых праграм расійскіх тэлеканалаў. Журналістаў краіны-саюзніцы нібыта не цікавіць далейшы лёс П. Шарамета, яны не заўважаюць новыя ініцыятывы і шчырыя выказванні А. Лукашэнкі і зусім забыліся, што на Беларусі ёсць сякая-такая апазіцыя. Прынамсі, на гэтым тыдні расійскія тэлежурналісты не перадалі пакуль што з Беларусі ніводнага рэпартажу. Маўчанне дзіўнае і амаль невытлумачальнае: такога даўно не было. Тым болей, што нешта цікавае і вартае ўвагі ў нас усё-ткі адбываецца (мяркуйце хоць бы па гэтым "Коле дзён")... Няўжо журналісты ўсе разам узялі адпачынкі пасля некалькіх "гарачых" тыдняў? А мо яны вырашылі аб'явіць інфармацыйную блакаду Беларусі за рэпрэсіі супраць іх калег? Ці мо "маўчанне" гэтае ёсць адна з умоў вызвалення П. Шарамета? Пэўна, ні першае, ні другое, ні трэцяе. Як і не чацвёртае: у Расіі вырашылі абмежаваць любую "рэкламу" асобы прэзідэнта Беларусі, які выдатна ўмее нават самую адмоўную для сябе інфармацыю ператварыць у станоўчую._**

## ФАКТ ТЫДНЯ

Палата прадстаўнікоў Нацсходу Беларусі 15 кастрычніка прыняла ў другім чытанні Закон аб друку. Праект яго быў падрыхтаваны некалькі месяцаў таму ў Дзяржкамдруку Беларусі пад кіраўніцтвам тагачаснага старшыні У. Замяталіна. Незалежныя аглядальнікі канстатуюць: з прыняццем гэтага закона са свабодай слова на Беларусі могуць узнікнуць істотныя праблемы.

## ЗАГАД ТЫДНЯ

Выступаючы 10 кастрычніка перад дэпутатамі Нацсходу Беларусі, А. Лукашэнка, у сваім стылі, проста з трыбуны аддаў загад зняць з пасады старшыню славуцейшага калгаса, а цяпер акцыянернага таварыства "Рассвет", двойчы героя Сацыялістычнай працы В. Старавойтава. У гэты ж дзень на кватэры В. Старавойтава быў праведзены вобыск, два яго зяці былі арыштаваны, а банк, які ўзначальвала яго дачка, апячатаны... Супраць В. Старавойтава і іншых узбуджана крымінальная справа па артыкуле "злоўжыванне службовымі абавязкамі". Адной з прычын "прэзідэнцкага гневу", лічыць В. Старавойтаў, сталі 11 гектараў жыта з канюшынай, якія засталіся ў гаспадарцы няўбранымі.

## АДМОВА ТЫДНЯ

На мінулым тыдні ў Варшаве адбылася чарговая сесія Канферэнцыі канстытуцыйных судоў краін Еўропы. На ёй было разгледжана пытанне аб прыняцці КС Беларусі ў паўнапраўныя члены гэтай арганізацыі. З дакладам выступіў старшыня КС Беларусі Р. Васілевіч. Члены Канферэнцыі палічылі, што КС нашай краіны пакуль не адпавядае патрабаванням, неабходным для атрымання статуса паўнапраўнага члена... Такім чынам, Беларусі пакуль не ўдаецца адкрыць у Еўропу не толькі дзверы, але і вакно.

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

Па Беларускім тэлебачанні прагучалі дадзеныя сацыялагічнага даследавання, праведзенага сярод магілёўскіх студэнтаў. Паводле іх — кожны дзесяты студэнт гатовы здзейсніць тэрарыстычны акт. На якой глебе: палітычнай ці эканамічнай — не ўдакладнялася. Дадзеныя гэтыя падаюцца ненатуральнымі і жахлівымі, асабліва на фоне нядаўняга забойства ў тым жа Магілёве Я. Мікалуцкага.

## ПРЭЦЭДЭНТ ТЫДНЯ

Мажліва, і варта было б зрабіць выгляд, што мы не заўважылі гэты выпадак: 11 кастрычніка адзіная ў свеце беларускамоўная штодзённая газета "Звязда" ледзь не палову свайго нумара аддала рускамоўнаму тэксту — выступленню прэзідэнта Беларусі ў парламенце "Нет выше долга для политика, чем служить такому замечательному народу, как белорусский" (як і "Звязда", падаём назву на мове арыгінала). Гэты свой крок рэдакцыя "Звязды" патлумачыла тым, што матэрыял паступіў на рускай мове перад самым падпісаннем нумара ў друк... І ўсё было б "добра", калі б іншыя, не менш афіцыйныя, але так званыя двухмоўныя, газеты "Рэспубліка" і "Народная газета" не надрукавалі выступленне прэзідэнта ў наступны аўторак (а не ў суботу, як "Звязда"). Значыць, можна было не спяшацца, не ствараць прэцэдэнт, а спакойна да аўторка перакласці тэкст.

## ПАСПЕШЛІВАСЦЬ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Беларусі ўказам N 502 аб'явіў 1999 год у Рэспубліцы Беларусь "годам А. С. Пушкіна"... Пры ўсёй павазе да вялікага рускага паэта цяжка зразумець, чым было выклікана гэтае паспешлівае рашэнне. Яно паддавалася б логіцы, калі б наступны, 1998 год, быў аб'яўлены раней годам вялікага паэта, што мае беларускія карані — Адама Міцкевіча, 200-годдзе якога, як і А. Пушкіна, будзе адзначаць увесь свет... Што ж, мусібыць, нават з пераходам у апазіцыю вядомага "пушкініста" А. Фядуты, пушкіністы сярод памочнікаў прэзідэнта не перавяліся.

## НЕДАЎМЕННЕ ТЫДНЯ

14 кастрычніка на Беларусі ўпершыню быў адзначаны Дзень маці. "Незанятых" дзён у календары шмат, аднак прызначана чамусьці свята ўсіх маці менавіта на гэты дзень, у які ўжо сотні гадоў адзначаецца адно з найвялікшых царкоўных святаў — Пакроў Божай Маці. Каму і навошта прыйшло ў галаву такое сумяшчэнне? Тым болей, што традыцыйнае, савецкае 8-га Сакавіка ніхто не адмяняў.

## ЛАЎРЭАТ ТЫДНЯ

Уладальнікам Нобелеўскай прэміі па літаратуры за 1996 год стаў нечакана для ўсіх італьянскі драматург Дарыа Фо — ягонае імя ніколі раней не згадвалася нават сярод прэтэндэнтаў на прэмію. Затое ўжо больш за дзесяць гадоў рэальным кандыдатам на лаўрэацтва ад Беларусі называецца Васіль Быкаў, аднак ніяк гэта не ўвасобіцца ў канкрэтную заяўку.

## ЦЫТАТКА ТЫДНЯ

"... Калі б здарыўся цуд і ў друку з'явіўся спіс толькі тых агентаў, якіх грамадзяне ведаюць у твар, у краіне наступіў бы палітычны крызіс. На пытанне, хто нашыя лідэры, хто намі кіруе, быў бы адназначны адказ — агентура спецслужбаў".

*(З кнігі А. Каржакова "Барыс Ельцын: Ад світанку да заходу", якую перадрукоўвае "Знамя юности", нумар за 15 кастрычніка г. г.).*

# Справы не здаюцца

**_Выдае на тое, што зала Акадэмічнага рускага тэатра Беларусі 14 кастрычніка перапаўнялася сябрамі Барыса Луцэнкі — і толькі. Вечарына, прысвечаная ягонаму юбілею, выгукала рэха тэатральнага аншлагу. Кожнае віншаванне, адрас ды букет фільмавала тэлебачанне, каб у хуткім часе нікому не было крыўдна, што не ўдзейснуўся ў залу паглядзець на гэта ўласнымі вачыма..._**

...Канец цэлай тэатральнай эпохі абраў рэжысёра Барыса Луцэнку — каб увасобіцца ў ягоных спектаклях з усёй відавочнасцю. З усёю эклектычнасцю, уласцівай канцу любой мастацкай эпохі. З настальгіяй па ўяўным мінулым. З падступлівасцю цяпершчыны, эстэтызаванай або прыхарошанай. Стылі ды кірункі, падтэксты драматургаў і трэція планы, здадзеныя акцёрамвыканаўцам, хронікі ствараньня й сталення чалавецтвам, вайсковыя гульні апошняга ды цярплівасць Творцы найвышэйшага (пакуль што — усепераможную) — таму вадакруг сцэнічных падзей з уласных спектакляў, такія глыбіні, вышыні й шырыні Барыса Луцэнку не здаволілі. Адзін з самых цікавых, самых абдымных, самых неверагодных ягоных рэжысёрскіх праектаў паслядоўна ўвасабляецца... вакол і па-за сцэнай Акадэмічнага рускага тэатра Беларусі (а мэтр Луцэнка да сёння ўзначальвае яго на пасадзе мастацкага кіраўніка): Барыс Іванавіч замахнуўся, пакваліўся арганізаваць прастору вакол свайго тэатра, утварыць ды ўтрымаць тыя сувязі, тыя дачыненні з наваколлем, якое заўжды й зазвычай уплывае на мастацтва апасродкавана. Праект абдымання неабдымнага. Праект, які спраўджваецца! І, што ўжо зусім неверагодна і нават насуперак кплівым мастацкім класікам, спраўджваецца паспяхова!

...Канец пэўнай мастацкай эпохі ўвасабляе сабою і гэты неверагодны праект: значныя мастацкія падзеі, кшталту прадстаўлення паэтычных "Строфаў стагоддзя" (выдавецтва "Паліфакт" Яўгена Будзінаса) або якога-кольвек адмыслоўца-акцёра, мастака, нават экстрасенса — адбываюцца ў зале Акадэмічнага рускага тэатра. Паслядоўна арганізуючы вакол яе глядацкае віраванне. Значыць — вядомасць. Рэкламу. Што з'яўляецца відавочнаю хітрасцю мэтра Луцэнкі. Толькі на ягонай сцэне можа з годнасцю паказацца Беларускі гуманітарны ліцэй, пазычыўшы строі з тэатральнай касцюмернай. Можа выступіць рэжысёр-рэфарматар з сінхронным перакладам і паказам. Узяць чынны ўдзел у пастаноўцы можа... радца пасольства. Нарэшце, сам спадар рэжысёр можа выйсці на падмосткі ў спектаклі, разлічаным для паказу толькі на адзін раз, толькі на адну вечарыну...

Яму яшчэ няма назову, няма дакладнага тэрміна-вызначэння, гэтаму канцу эпохі мастацкай ды тэатральнай. Ну не ляпіць жа цэтлік "постмадэрнізм" на кожны з ягоных набыткаў? Нават — сямідзесятыя пасля прагляду Луцэнкавых спектакляў можна было разважаць пра экзістэнцыялізм, цытуючы з Сартра, з Камю, — парадокс у тым, што у Рускім тэатры Беларусі іх так і не паставілі. Затое рэжысёры, якія дапамагалі Луцэнку (ёсць такая работа — другога рэжысёра ў спектаклі), паспяхова дайшлі і да згаданых аўтараў, і паставілі іх на іншых сцэнах, і рушылі далей, далей... Нават у драматургі...



Чатырнаццатага верасня Барысу Іванавічу зраўнялася шэсцьдзесят гадоў. Чатырнаццатага кастрычніка ягонае вечарына не выглядала як справаздачная. Бо здаваць справы, пільнуючыся літары, немагчыма, — справы,трэба разумець, творчыя. Яны з тых, што нікому ніколі не здаюцца. Нават пры канцы пэўнай творчай эпохі, якой яшчэ шукаць і назову, і мэты, і падставы...

**Н. К.**

*Фота Аляксея МАЦЮША*

# Фестывальны кактэйль на адзін сезон

Тры міжнародныя фестывалі з чэрвеня па кастрычнік (пасля адметнага поспеху на "Славянскіх тэатральных сустрэчах") каштавалі беларускую "Крывавую Мэры", (вечаровы кактэйль на адну дзею). На "Славянскіх вянцы" ў Маскве Аляксандр Гарцуеў, рэжысёр, пастаноўшчык, сударматург Дзмітрыя Бойкі, быў увянчаны прызам за лепшую рэжысуру.

У Харкаве, на тэатральным фэсце пад назовам "Усходні экспрэс" жылі... траха як не ў экспрэсе, але без святла, без гарачай вады, працавалі на сцэне тэатра лялек. З аншлагамі. Найбольшую папулярнасць "Крывавая Мэры" мела сярод харкаўскіх студэнтаў. Паводле Аляксандра Гарцуева, непаразуменняў на фестывалі было больш за мастацтва, але чаму да іх усходніх таджыкаў, узбекаў і іншых "экспрэсаўцаў" (удзельнікаў) далучылі і беларусаў, для Гарцуева так і засталося загадкаю.

На шыкоўным "Балтыйскім доме" ў Пецярбурзе нашу "Крывавую Мэры" прапаноўвалі 8 кастрычніка пад... "Дзікую качку" Генрыка Ібсена; яе прывёз Нацыянальны тэатр з Осла (Нарвегія). Не разумееце? Проста, пакуль пачаткам спектакляў была ўсяго гадзіна і тэатральныя спецыялісты, якім было "ўжо ўсё зразумела", спяшаліся не прапусціць наступнае паразуменне, з нарвежцамі. "Гэта крыўдзіць, калі ўцякаюць, не дагледзеўшы?" — пытаю ў Аляксандра. "Гэта дзіўна, — адказаў ён, — асабліва дзіўным здалося сцвярджэнне, што калі ў нас у Беларусі не забараняюцца такія спектаклі, як наш, значыць, грамадства ў нас адкрытае, інтэграванае. Асабліва радаваліся выступоўцы таму, што, маўляў, у Беларусі яшчэ інтэлігенцыя ёсць..."

"Крывавая Мэры" была толькі госцяй, але не ўдзельніцай "Балтыйскага дома". Удзельнікаў, як і на кожным фестывалі, складу беларускіх выканаўцаў пабачыць не выпала, — ні Эймунтаса Някрошуса з "Гамлетам", ні Ежы Яроцкага з "Платонавым", ні Антона Адасінскага з "Поўднем. Мяжой"...

З "Балтыйскага дома" гасцей ды ўдзельнікаў адпусцілі 12 кастрычніка. Убачыць "Крывавую Мэры" ў Мінску можна будзе толькі з лістапада.

**Ж. Л.**

# Пасляслоўе да імпрэзы

У памяшканне Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта на "Адкрыццё творчага сезона" ВНУ г. Мінска я трапіў па запрашэнні аргкамітэта гэтага фэста. Запрашэнне было даслана ў рэдакцыю разам з лістом, дзе пералічваліся папярэднія заслугі аўтараў праекта і прысутнічала просьба аб інфармацыйнай падтрымцы. Вечарам 10 кастрычніка ў азначаны час я быў на месцы.

Першае, што кідаецца ў вочы, — гэта неадпаведнасць колькасці жадаючых патрапіць у актавую залу БДЭУ колькасць месцаў у гэтай зале. Як заўсёды бывае ў падобных выпадках, знайшлося шмат людзей, якія пажадалі прыйсці, не маючы білета. І калі, звычайна, кантралёры для іх з'яўляюцца перашкодай, гэтым разам у "зайцаў" не ўзнікала ніякіх праблем. Інакш і быць не магло: сярод ахоўнікаў дзвярэй амаль кожны пазнаваў сваіх аднакурснікаў. У выніку такога "сяброўства" некаторыя маладыя людзі з білетамі вымушаны былі назіраць за відовішчам, стоячы ля сцяны ці седзячы на падлозе. Акрамя таго, некаторыя прадстаўнікі нашага студэнцтва лічаць магчымым падчас выступлення артыстаў піць піва і выкрыкваць абразы ў адрас таго ці іншага выступоўцы. У сувязі з гэтым паўстае пытанне: ці варта аб'ядноўваць у адным канцэрце такія разнажанравыя калектывы, як, напрыклад, струнны квартэт БАМ і тэатр эстраднай песні "Шанц"? Да таго ж, неяк дзіўна бачыць, як класічную музыку ў майстэрскім выкананні змяняюць спевы пад фанаграму поп-спявачкі. Прычым, апошняя займаюць у праграме значна больш часу. Нехта, прачытаўшы гэтыя радкі, залічыць мяне ў рэтраграды, але справа не ў гэтым. Я не разумею, чым, напрыклад, тэатр "Коллизей" БДПА горш за агітбрыгаду "Биолакт" МДМІ і чаму адным адводзіцца для выступлення пяць хвілін, а другім усе дваццаць? Слоў падзякі заслугоўваюць цыркавыя артысты і творчыя людзі з Лінгвістычнага універсітэта. Аднак прымітыўныя жарты студэнтаў-медыкаў псуюць агульнае ўражанне ад гэтага маладзёжнага свята. Увесь час яны імкнуліся сказаць нешта смешнае на палітычныя тэмы, але, відаць, прысутнасць чыноўнікаў з дзяржкамітэта па справах моладзі перашкодзіла ім гэта зрабіць. Увагу дзяржжавы ж трэба адзначыць. Дзяржкамітэт і адміністрацыя Заводскага раёна выступілі арганізатарамі "Адкрыцця творчага сезона" і, спадзяемся, падтрымка іх на гэтым не скончыцца. Але вось такі момант. З усіх выступоўцаў толькі фальклорны калектыў "Горліца" мае дачыненне да нацыянальнага мастацтва, а таму варта было хоць бы вядучым гаварыць па-беларуску. Усё ж у нас двухмоўе!

**В. Д.**

З НАГОДЫ

# Сумная акцыя

Даўно ўжо ў Мінску не праходзілі масавыя мерапрыемствы апазіцыі. З гэтай прычыны чакалася, што першая акцыя "Восені-97" будзе шматлюднай. Тым больш, што арганізатарамі шэсця і мітынгу з'яўляліся не толькі Беларускі народны фронт, але і прафсаюзы. Новы тактычны ход — правядзенне акцыі ў "пралетарскім" раёне — не прывёў у рады апазіцыі новых прыхільнікаў. Правядзенне мерапрыемства ў форме перфоменсу таксама чамусьці "не спрацоўвае". У выніку замест смеху, які, на думку Л. Баршчэўскага, "зброя мацнейшая за кулі і дубінкі", пакуль пануе сум. Прычын таму шмат, вось толькі некалькі з іх.

Дзеянні ўладаў, якія нарэшце пераканаліся, што, забараняючы акцыі, сцягваючы да месца правядзення ўзброены АМАП, яны толькі распальваюць эмоцыі. Моладзь пачынае на сілу адказваць сілай, тэлеканалы тыражуюць "карцінку", ствараючы дрэнны імідж Беларусі і г. д. Зараз жа маладыя людзі ў большасці сваёй сядзяць дома, ведаючы, што "нічога ТАКОГА не будзе", НТБ замоўчвае колькасць удзельнікаў і засяроджвае ўвагу на "дробных" момантах, накшталт працы міліцэйскіх спецаператараў. Дарэчы, апошніх 12 кастрычніка было самае малое — 7, што для тысячнай калоны, здаецца, зашмат. Да таго ж, навошта яны патрэбны ўвогуле? Каб саставіць картатэку "нядобранадзейных"? Але твары ўдзельнікаў зафіксаваны на стужцы ўжо неаднойчы. Калі кіраўнікам МУС не шкада шараговых міліцыянтаў, пашкадавалі б бензін: яго аднойчы можа не хапіць падчас пагоні за сапраўднымі злачынцамі. Арышты ўдзельнікаў мірнага шэсця не дадаюць міліцыі павагі з боку грамадства. Асабліва, калі "хапун" адбываецца пасля акцыі. Да таго ж, дазволенай Мінгарвыканкамам.

Дзеянні апазіцыі. Зразумела, што не памыляецца толькі той, хто нічога не робіць. Аднак і тое, як гэта робіцца, мае значэнне. Ужо не ўпершыню лідэры апазіцыйных партый напярэдадні нейкай падзеі абмяркоўваюць з журналістамі, "як гэта будзе". Пры гэтым не абыходзіцца без лічбаў. Маўляў, удзел у шэсці возьме дзесяць тысяч грамадзян. А прыходзіць у два-тры разы меней. Хутчэй за ўсё гэтую "памылку" заўважаюць каментатары АТН.

Правесці шэсце маршрутам "Трактарны завод — Серабранка" ідэя, безумоўна, арыгінальная. Але што з таго? Падчас руху да калоны ніхто не далучыўся, а прадпрыемства, на працоўных якога арганізатары так спадзяваліся, у той дзень не працавала. Увогуле ўзаемаадносіны апазіцыі з "шырокімі народнымі масамі" — тэма асобнай гаворкі. Адзначым толькі, што пасля "пратэсту прадпрымальнікаў" узімку мінулага года гэта ўжо другі падобны "пракол".

Некалькі слоў пра ролю асобы ў гісторыі. На мітынгу (як і на мінулых) выступаў легітымны старшыня Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Пасля рэферэндуму Сямёну Георгіевічу нічога не застаецца, як выступаць на такіх сходах і пісаць артыкулы ў газеты. Выступленні нагадваюць артыкулы і наадварот. Паказальна, што спікер не ўзначаліў калону, а прыехаў асобна ад усіх. Пасля таго, як Шарэцкі быў аштрафаваны за ўдзел у святкаванні Дня Канстытуцыі, ён больш не ходзіць па дарозе. Памятаеце, як А. Лукашэнка ў размове з журналістам М. Маркелавым сказаў: "Любы кіраўнік дзяржавы быў бы шчаслівы, маючы такую апазіцыю"? Калі чытаеш інтэрв'ю Сямёна Георгіевіча "Белорусской деловой газете", разумееш, што меў на ўвазе Аляксандр Рыгоравіч.

Надвор'е. Ужо сёння відаць: ніякай "гарачай восені" не будзе. Бо ў нашай краіне, на жаль, актыўнасць мас самым непасрэдным чынам залежыць ад надвор'я. Тых, каго не запалохаў дэкрэт N 58, спыніў дождж.

Тыя ж, хто выйшаў сказаць сваё "Не холаду і голаду", пасля мітынгу грэліся ля вогнішча з пудзілаў павука-дыктатара і хлуслівага пеўня. Адразу прыехалі "пажарныя" і затушылі гэтую "не санкцыянаваную крыніцу цяпла". Пасля пад сумным восеньскім небам пачаўся традыцыйны "хапун".

**Вадзім ДОЎНАР**

АДГАЛОСКІ

# "Сцяна" за сценамі

Адной з выразных праяў крызісу ў духоўным жыцці нашай дзяржавы з'яўляецца стан сучаснай беларускай літаратуры. Праз недастатковае пісьменніцка-чытацкае стасункаванне яна ператвараецца ў штучна-элітарнае, закрытае з'явішча. Хтосьці наракае на народ, што не цікавіцца належным чынам роднай літаратурай, іншыя вінавацяць цяперашнія нашы ўлады. Тым часам выданне беларускамоўных кніжак значна запаволілася (альбо, калі заўгодна, яго запаволілі).

Напрыканцы ліпеня на Другім з'ездзе беларусаў свету на пытанне з залы пра далейшы лёс кнігі Васіля Быкава "Сцяна" дырэктар выдавецтва "Мастац-кая літаратура" Георгій Марчук паабяцаў, што праз тры месяцы кніга выйдзе. Было відаць, што ён сапраўды пра гэта клапоціцца, аднак не пакідала думка, што захады дзяржаўнага выдавецтва наўрад ці суцэльна вызначае яго кіраўніцтва. Гэтак урэшце і сталася.

І ўсё ж кніга празаічных твораў В. Быкава пабачыць свет. Газета "Наша Ніва" і аднайменнае выдавецтва абвясцілі акцыю — "Народная Кніга" — па выданні "Сцяны" за грошы простых людзей. Ды ёсць вялікі сумнеў, што запланаванае будзе здзейснена належным чынам, бо сабраць патрэбную суму вельмі складана, а наклад выдання наўрад ці будзе вялікім. Сам аўтар кнігі таксама ставіцца да задумы "Нашай Нівы" скептычна, хаця і даў сваю згоду на выданне. Здаецца, гэтай акцыяй можна дасягнуць адно што сімвалічнага эфекту, як даводзяць ейныя ініцыятары, "насуперак цынічнаму да нашае мовы й культуры рэжыму сцвердзіць, што беларускія кнігі мусяць выходзіць за грошы і дзеля патрэб беларускага грамадства". Але няма чамусьці ў гэтым самым грамадстве адпаведнага рэзанансу на варункі вакол кнігі самага вядомага ў краіне пісьменніка. А тым часам лёс "Сцяны" спасцігнуў ужо і кнігі іншых нашых творцаў (Л. Галубовіча, А. Асташонка і г.д.) .

Разважаючы над падобнай праблемай, міжволі задумваешся, як адчувае сябе праз такія турботы аўтар, асоба. Адчуваючы далікатнасць рэчаў, я ўсё ж звярнуўся да Васіля Уладзіміравіча з пытаннем, якім чынам адбіваюцца на ім узгаданыя падзеі. Спадар В. Быкаў распавёў, што няма анічога дзіўнага, што ягоную кнігу "зарэзалі", бо папросту змянілася дзяржаўная палітыка. Паводле слоў Васіля Уладзіміравіча, ён не дужа засмучаны з таго, што ягоная кніга пакуль не дайшла да чытача, бо, маўляў, у краіне дзеюцца куды больш небяспечныя рэчы, а занядбанне "Сцяны", будзем спадзявацца, часовае, папросту "адно з расчараванняў". Адно, на што наракае В. Быкаў, — кніга не была выдадзена своечасова і праляжала два гады марна, страціўшы пэўным чы нам у актуальнасці. Таму, калі кніга нават выйдзе, то не ў тым складзе, як яна планавалася спярша Быкавым. Некаторыя рэчы пісьменнік ужо выкінуў са збору. Такім чынам, тыя, хто прыпыніў выданне кнігі "Сцяна", у некаторай ступені дамагліся свайго: калі была вельмі вялікая неабходнасць, грамадства не пачула СЛОВА. І сталася гэта праз заядлае непрыманне дзяржаўнымі структурамі пазіцыі вядомага ва ўсім свеце беларускага пісьменніка. Ці ж гэта нармальна, хіба так павінна быць?

**Кірыла ПАЗНЯК**

## Ордэн — Уладзіміру Ліпскаму

Вядомы пісьменнік, прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду, галоўны рэдактар часопіса "Вясёлка" Уладзімір Ліпскі ўзнагароджаны ордэнам "За справы міласэрнасці". Заснаваны гэты ордэн Маскоўскім патрыярхатам і Расійскім дзіцячым фондам і мае такую поўную назву: "Ордэн святога Благавернага царэвіча Дзмітрыя Маскоўскага і Угліцкага "За справы міласэрнасці", а прысуджаецца тым, хто ўнёс "асабліва вялікі ўклад у справу апекі і абароны пакутных дзяцей". А Уладзімір Сцяпанавіч, як вядома, вельмі шмат робіць у гэтым кірунку і як грамадскі дзеяч, і як пісьменнік. Узнагароду У. Ліпскаму ўручыў патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II.

### У РЭДАКЦЫЮ "ЛіМа"

Дазвольце выказаць глыбокую падзяку праз Вашу газету ўсім сябрам, асобам, установам і арганізацыям, якія павіншавалі мяне з шасцідзесяціголдзем.

**Андрэй МДЗІВАНІ**

ЧЫТАННІ

# Прысутнасць Алеся Адамовіча

***У верасні ў нацыянальнай акадэміі навук Беларусі прайшлі навуковыя чытанні, прысвечаныя 70-годдзю Алеся Адамовіча — выдатнага празаіка, глыбокага, таленавітага даследчыка літаратуры, крытыка, публіцыста... Распачала свае старонкі навука Адамовічазнаўства. Час выразна паказаў, што значыла ягоная прысутнасць у нашым культурным і грамадскім жыцці.***

Прысутнасць Алеся Адамовіча — заўсёдная наяўнасць грамадзянскай пазіцыі, абароненасць праўды, ісціны — жыццёвай і мастацкай. І заўсёдная ягоная радасць, калі побач з ім людзі становіліся аднадумцамі, пазбаўляліся нядобрага пачуцця прагматычнай засцярожлівай "агляцкі назад", становіліся здольнымі напачатку хаця б у ягонай прысутнасці сказаць шчырае слова падтрымкі беззабароннай праўды.

Пра аблічча пісьменніка, грамадзяніна, навукоўца гаварылася ў дакладах акадэміка І. Навуменкі ("Постаць Алеся Адамовіча"), кандыдата філалагічных навук М. Тычыны ("Алесь Адамовіч: жыццё як творчасць"), доктара філалогіі з Германіі Д. Шпрынгман ("Алесь Адамовіч і гуманістычная традыцыя"), прафесара І. Штэйнера ("Л. Талстой і А. Адамовіч: урокі жыцця і творчасці"). З цікавасцю было ўспрынята меркаванне акадэміка В. Каваленкі, што "ў "Запісных кніжках" Адамовіча (як, дарэчы, і ва ўсёй астатняй яго творчасці) ставіцца і вырашаецца па вельмі складаных аўтарскіх маральна-філасофскіх асновах адна з самых важных задач, зададзеных чалавецтву жорсткім, антычалавечым і крывавым XX стагоддзем: "Можа ці не можа чалавек, павінен ён ці не павінен, трапіўшы ў нечалавечыя безвыходныя абставіны, здацца ці не здацца перад імі, і ў выпадку, калі яны вышэй чалавечых магчымасцяў, лёгка ахвяраваць сваім жыццём? І галоўнае — ці абавязаны?"

Бясспрэчнай стала думка, што развіццё жанру рамана, асабліва рамана філасофскага, — сведчанне сталасці нацыянальнай літаратуры. Пакаленні філолагаў выхаваны на кнігах "Шлях да майстэрства: станаўленне мастацкага стылю К. Чорнага", "Культура творчасці", "Здалёк і зблізку"... Адамовіч-мастак не баяўся сам і вучыў іншых "дадумваць да канца", не заставацца ў баку ад спасціжэння пісьменнікам самых патаемных глыбінь чалавечай псіхікі. Звышзадачу літаратуры бачыў у дагаворванні ўсёй праўды. Заканамерна, што Адамовіч-даследчык вялікую ўвагу на пэўным гістарычным этапе надаваў развіццю раманнай формы. Але маю рацыю М. Мушынскі, калі гаворыць: "У цэнтры ўвагі Адамовіча 70—80-х гадоў аказаліся не раман, а мастацкая, а затым і мастацка-дакументальная проза... Справядліва крытыкуючы апісальныя, расцягнутыя трылогіі, малазмястоўныя эпапеі, аўтар учарашняй дылогіі "Партызаны" адкідае манументальныя формы як непрыдатныя для ўвасаблення тагачасных канфліктаў, сацыяльных супярэчнасцяў".

Разам з Адамовічам-сцэнарыстам мы ішлі і глядзелі жахлівую "эстэтыку" вайны і чалавека ў ваенных абставінах у фільме "Ідзі і глядзі". І... выходзілі з хрысціянскім пачуццём "не забі", "не рабі другому чалавеку таго, чаго не хацеў бы сабе". І як бы нямелі ад духоўнай моцы Адамовіча, які, знясільваючы сябе, вучыў працаваць нашы душы. Разумна, шчыра, з вялікай адказнасцю ладзіў з намі, чытачамі і гледачамі, мост ад нянавісці да любові. Пра пачуццё самапавагі літаратуры, пра зацікаўленасць Адамовіча аналізаваць айчыннае мастацкае слова ў кантэксце сусветнай класікі ішла размова ў выступленнях Г. Адамовіч і В. Шынкарэнкі. Адамовіч-літаратуразнаўца і крытык умеў страсна, зацікаўлена, глыбока пранікаць у творчыя лабараторыі многіх пісьменнікаў, умеў вылучыць галоўны пафас, стрыжань іх творчасці. Гэты аспект спадчыны пісьменніка аналізавалі Т. Тарасава і У. Лебедзеў.

Творчыя здабыткі Алеся Адамовіча яшчэ чакаюць навуковага асваення. Першыя Адамовічаўскія чытанні — першыя крокі ў гэтым напрамку. Хацелася б, каб наступныя чытанні сталі не толькі чарговымі старонкамі ўшанавання памяці Алеся Міхайлавіча, але адначасна працягам яго традыцый крытыка, аналітыка станаўлення і руху наперад прыгожага нацыянальнага пісьменства. Узор служэння літаратуры, народу, Бацькаўшчыне — перад намі.

**Вольга КОЗІЧ**

ЭКСЛІБРЫС

# "Авантурнік Сімпліцысімус"

*Ганс Якаб Крыстофэль фон Грымельсгаўзен. Апісанне жыцця аднаго дзіўнага шалапута... "Мастацкая літаратура", Мінск, 1997.*

**Калі літаратурная праца ў Беларусі зараз справа няўдзячная, бо ў цане толькі прыдворныя пісьменнікі, ды і тых не надта каб лашчылі, то што ўжо тады казаць пра перакладчыкаў. Яны, на погляд некаторых "аматараў" беларушчыны, што дарваліся да дзяржаўнага стырна, увогуле займаюцца варожай дзейнасцю. Не каб прывучаць беларусаў да думкі, што без "великого и могучего" нам нікуды, як гэта робяць, напрыклад, тыя з беларускіх пісьменнікаў, што працуюць у наваствораным часопісе "Всемирная литература", дык гэтыя яшчэ і перакладаюць на беларускую творы сусветнай літаратуры.**

**Вось да такіх "дзівакоў" адносіцца і перакладчык Васіль Сёмуха, які ўласным прыкладам паказвае, <u>ш т о</u> трэба рабіць у сённяшняе бясчассе: працаваць, не сядзець склаўшы рукі, каб, калі загляне сонца і ў нашае ваконца, найбольшы і найтрывалейшы быў той падмурак, на якім узнімецца будынак беларушчыны.**

**В. Сёмуха перастварыў па-беларуску вядомы нямецкі сярэднявяковы раман Г. Грымельсгаўзена. Я недарма ўжыў гэтае слова — перастварыў, таму што пераклад В. Сёмухі нешта большае за звычайны літаратурны пераказ. Перакладчык літаральна пераапрануў складаны па структуры і моўнай матэрыі барокавы твор у беларускую вопратку. Можа, таму даўнія падзеі трыццацігадовай вайны ў Нямеччыне, як і лёс галоўнага героя твора Сімпліцысімуса, падаюцца нам, прынамсі, не чужымі.**

**Вёску прастадушнага хлопчыка Сімпліцыя паліць банда жаўнераў-валацугаў, сам ён трапляе на пэўны час на выхаванне да пустэльніка, які закладае ў ім хрысціянскія дабрадзействы, а потым жыццё выносіць яго ў вялікі свет, дзе, па канонах тагачаснага еўрапейскага барокавага рамана, надзвычай хутка мяняецца жыццёвая сітуацыя. Лёс перакідвае Сімпліцыя з аднаго варожага стану ў другі, то даючы яму нечаканае багацце, то імгненна адбіраючы яго. Сімпліцый мяняе прафесіі, знаёмых, сяброў і ворагаў, жонак і каханак, аказваецца то ў цёплай Францыі, то ў дрымучай Расіі.**

**Усе гэтыя прыгоды, тым не менш, не прыносяць шчасця герою рамана і ён, паспытаўшы ў гэтым свеце ўсяго, чаго можна, вырашыў адысці ад ягоных вабаў у пустэльню дзеля спазнання самога сябе. І сапраўдным прысудам штодзённай мітусні гэтага свету, які і сёння гэтаксама не выпускае душу чалавека са сваіх абдымкаў, гучыць развітанне Сімпліцыя са светам, пачатак якога не ўтрымліваюся не працытаваць: "Бывай, свеце! бо нельга на цябе ні спадзявацца, ні абаперціся; у доме тваім ужо знікла мінулае, з рук сплывае цяперашняе, а будучае не прыходзіць ніколі, самае трывалае валіцца, самае моцнае рассыпаецца пылам, і самае вечнае канчаецца, і ты — мёртвы сярод мёртвых, і за ўсе стагоддзі не дасі нам ані хвіліны жыцця. Бывай, свеце! бо ты бярэш нас у палон і не вызваляеш; ты вяжаш нас і не развязваеш, ты засмучаеш і не суцяшаеш, ты рабуеш і не аддаеш нарабаванага; ... І няма ў цябе радасці без маркоты, міру без нязгоды, любові без злосці, спакою без страху, паўнаты без нястачы, гонару без заганы, маёмасці без нячыстага сумлення, стану без незадаволенасці і дружбы без фальшу".**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## На міжнароднай арэне

**Кніга У. Снапкоўскага "Знешнепалітычная дзейнасць Беларускай ССР", якую выпусціла выдавецтва "Беларуская навука", прысвечана другому ў нашым стагоддзі выхаду Беларусі на міжнародную арэну і яе знешнепалітычнай дзейнасці ў 1944—1953 гадах. Храналагічна рамкі даследавання пазначаны наданнем рэспубліцы знешнепалітычных паўнамоцтваў і смерцю Сталіна, пасля чаго ў 1953 годзе пачаўся новы этап у гісторыі не толькі беларускай, а і савецкай замежнай палітыкі і дыпламатыі ў цэлым. Расказваецца пра ўдзел БССР у Сан-Францыскай канферэнцыі, першых сесіях Генеральнай Асамблеі ААН, Парыжскай мірнай канферэнцыі, развіцці беларуска-польскіх адносін, не абыдзена ўвагай і дапамога Беларусі па лініі ЮНРРА.**

## Традыцыйная ярмарка



**Шматлюдна было на вуліцах і плошчах тысячагадовага Віцебска, калі на традыцыйны восеньскі кірмаш прывезлі сваю прадукцыю працаўнікі калгасных палёў і прысядзібных участкаў Прыдзвінскага краю. Розныя вырабы прапаноўвалі народныя ўмельцы, а ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці весялілі прысутных.**

*На здымку: кіраўнік клуба народных рамёстваў з Гарадка Людміла Гаравая прапаноўвае пакупнікам вырабы членаў клуба.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Мастак з глыбінкі



**Самабытнаму мастаку з Брагінскага раёна Васілю Мінавічу Шаўчэнку 72 гады. Захапляцца жывапісам ён пачаў яшчэ да вайны. У час акупацыі маляваў у падполлі партызанскія лістоўкі, быў сувязным. Любімыя тэмы Васіля Мінавіча цяпер — родная прырода, брагінскія мясціны. Верыць, што зямля залечыць хутка раны, нанесеныя чарнобыльскай бядой.**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## Запрашае "Змена"

**Мінскі кінатэатр "Змена" 21 кастрычніка а 17 гадзіне прапануе кінапраграму дакументальных фільмаў студыі "Летапіс", якая прысвячаецца Першаму нацыянальнаму фестывалю беларускага кіно. Будуць паказаны фільмы "Евангелле ад мамы", "Край перакуленых нябёсаў" і "Засталася душа яго тут". Перад гледачамі выступяць народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, мастацкі кіраўнік студыі "Летапіс" Уладзімір Халіп, кінарэжысёр Сяргей Пятроўскі.**

# Залатое свята

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

звычаі іх абсыпалі зярнятамі — каб удаліся задуманыя творы, каб не абмінуў поспех. Умовы спаборніцтва былі наступныя: за дзве гадзіны, маючы пад рукамі адно дапаможны матэрыял, належала сплесці той ці іншы выраб. Конкурс адкрыты: уся работа на віду, каля сталоў стаяць гледачы-назіральнікі, побач спяваюць і скачуць самадзейныя артысты (што, дарэчы, стамляла і адцягвала ўвагу). І пакуль удзельнікі падбіралі, рэзалі саламяныя сцябліны, я пагутарыла з прызнанаю майстрыхай **Лідзіяй Рыгораўнай Главацкай.** Вось пра што яна распавяла.



*Яўген Сахута адкрывае свята.*

Сямёра ўнукаў падрастала ў сям'і царкоўнага старасты са Смалявіцкага раёна. Дзед плёў з лазы кашы, лапці, чаяны, а яшчэ любіў упрыгожваць старыя абразы. З дзяцінства запомнілася, што на куце ў хаце віселі тры абразы, залатыя ад саломы. Малых ён вучыў плесці павучкоў на навагоднюю ёлку, рабіць кветкі з пучочкаў саломы. Пасучы кароў, Ліда пляла пярсцёнкі, пацеркі з адмысловых каленцаў. Цацак тады дзеці не мелі, а салома заўсёды пад рукамі — пляці што хочаш, выдумляй забаўку.

16 гадоў яна адпрацавала на велазаводзе, 4 — на мастацкім камбінаце, дзе займалася мастацкім вязаннем. І каб не выпадак, можа, яна і не ўспомніла б пра сваё дзіцячае захапленне. Здарылася так, што вязальны ўчастак перавялі ў Барысаў, думала ўжо звальняцца, а майстар кажа: "Паспрабуй з саломкай працаваць, ты здольная"...

Так Лідзія Рыгораўна пазнаёмілася са сваёй настаўніцай — Таісай Паўлаўнай Агафоненкай, пайшла да яе ў навучанне. Першую сваю няўдалую пляцёнку яна закінула пад канапу, каб пазней дастаць і зноў узяцца за працу. "Як гэта — не атрымаецца?" — пыталася яна ў сябе. З цягам часу навучылася выбіраць гатунак саломы, правільна намочваць яе, распрацавала ўласную тэхніку — тонкасці ювелірнай. Саломай дасюль карыстаецца толькі бліскучай, бялюткай. Пляце кветкі, фігуркі жывёл і птушак. Конь, падараваны нашым урадам Клінтану, — адзін з дасканалейшых яе вырабаў. Яшчэ аднаго каня ўзялі на сусветную выставу. У 1985-ым годзе ў Італію яна павезла дзівоснага павука: там былі сонца, зоры, зямля — цэлы сусвет. Павук круціўся ад ветрыку, і яго бясконца здымалі фотакарэспандэнты.



*Народныя майстры са сваімі вырабамі.*

Праца саломапляцення — карпатлівая, марудная. На адзін выраб можа пайсці паўгода. І калі плесці можа ў прынцыпе кожны, то прыдумваць сваё, адухоўліваць матэрыял — гэта ўжо дадзена творцам. "Я ніколі не думала пра грошы. Тое, што ў нас прадаюць за 150 тысяч, за мяжой каштуе сама меней 40 доларaў, але там мы нічога не прадавалі: усё раздавалі, раздарвалі. Міхась Раманюк калісьці жартаваў:

— Ты даўно на сваёй машыне павінна ездзіць.

Шкада вельмі, што яго не стала. Ён цаніў усё, што створана рукамі, у што ўкладзена душа..."

Але тут Лідзію Рыгораўну паклікаў сын (ён таксама разам з нявесткай займаецца гэтай справай), і я выходжу ў фае. Хтосьці з канкурсантаў ужо скончыў працу, хтосьці засяроджана прыладжвае апошнія элементы. У аднаго дудар з дудкай, у другога — ладны певень, у трэцяга пано на льняной аснове ці на дрэве. Марыя Расланоўская заканчвае павука. Тэхніку гэтую, расказвае, яна асвоіла па кніжцы. Мяркуючы па тым, што павукоў толькі два, — тэхніка складаная.

Сярод майстроў пераважаюць жанчыны. Ёсць вопытныя, са стажам майстрыхі, ёсць зусім маладзенькія. Зінаіда Казлова, напрыклад, даўно працуе ў цэнтры "Адраджэнне" (пазашкольная ўстанова "Золак"), у яе праходзяць стажыроўку навучэнкі педкаледжа. Таня Мягкова нядаўна скончыла адзін з філіялаў "Золака", атрымала дыплом майстра па аплікацыі.

Між тым члены журы разам са старшынёй Саюза майстроў народнай творчасці робяць паметкі ў блакнотах, рыхтуюцца падводзіць вынікі. У кулуарах давялося пачуць такое:

— Сахута не любіць творчасці. Сахута любіць толькі традыцыю.

Што гэта не зусім так, я пераканалася пры абмеркаванні гатовых вырабаў. Яўген Міхайлавіч сапраўды аддаваў перавагу традыцыйным прыёмам саломапляцення, але як старшыня журы не быў аўтарытарным, прыслухоўваўся да меркаванняў іншых мастацтвазнаўцаў. В. Лабчэўская і Л. Вакар, прынамсі, спрабавалі давесці, што традыцыя — толькі аснова, "узор" жа ў кожнага павінен быць свой, адпаведны часу. Ёсць прастата, якая "напрацавана", у ёй няма творчага пачатку. Вось чаму, заўважу ад сябе, я не лічу абавязковым конкурс простай пляцёнкі — ён чыста тэхналагічны і не дае майстру выявіць сваю індывідуальнасць.

А вынікі конкурсу наступныя: першыя месцы ўзялі Т. Худзякова (Лукомль) — за пляцёнку, Т. Хадановіч (Магілёў) — за фігурнае пляценне, Т. Раманенка (Салігорск) — за аплікацыю. Спецыяльныя прызы атрымалі: А. Блудаў (Гродна) — за арыгінальнасць мыслення, Л. Валеева (Мінск) — за дасканаласць аўтарскай тэхнікі. Прызамі ўзнагароджаны найбагацейшыя выставы хатніх работ — Г. Сапун з Мінска і В. Дзмітрук з Мар'інай Горкі, а таксама сямейны калектыў (а іх было некалькі) — маці, сын і нявестка Аль з Валожына. За дэбют адзначана Л. Вераб'ёва з Віцебска. У традыцыю "не ўлез" толькі выдатны насценны анёл В. Салдатавай ды некаторыя вытанчаныя пано.

Першы рэспубліканскі конкурс не стаў бы святам без шматлікіх фальклорных калектываў, якія арганічна ўпісаліся ў невялікую актавую залу Палаца ветэранаў. Сярод іх і дзіцячыя ("Зубраня", "Пацешнік"), і дарослыя ("Валачобнікі", "Пухаўчанка", "Вечарына"). Трэба аддаць належнае ўдалай рэжысуры (дыпломная работа студэнта Універсітэта культуры У. Бабошына пад кіраўніцтвам П. Гуда), а таксама цудоўнай вядучай Антаніне Хатэнцы, якая ўмее прыўзняць, удыхнуць паэзію ў любую імпрэзу.

Старшыня Упраўлення ўстаноў культуры Т. Стружэцкі паведаміў на заканчэнне, што адбудзецца вялікая рэспубліканская выстава народнага мастацтва і што час рыхтаваць лазу — бо ганчары спаборнічалі летась, а наступнымі будуць майстры па дрэве.

... Дасюль бачацца мне залатыя кветкі ў дзявочых прычосках, залатыя куфэркі і птушкі, а два залатыя званочкі застануцца ў мяне дома — на памяць.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*Фота А. АСІПОВІЧА*




# Зоркі свецяць і ў цемры

У нашай рэспубліцы 20 з паловай тысяч чалавек стаяць на ўліку, як інваліды па зроку. Сярод гэтай колькасці людзей ёсць прадстаўнікі самых розных прафесій, таленавітыя і менш таленавітыя — гэтакі працэнт, як і сярод людзей "звычайных". Бяру апошняе слова ў двукоссе, бо, мабыць, толькі ў постсавецкіх краінах інваліды — гэта людзі, якіх нельга назваць звычайнымі. Надта ж нізкі ўзровень рэабілітацыі іх у нашым грамадстве! А між тым беларускія спартсмены-інваліды рэгулярна перамагаюць на "паралельных" Алімпійскіх гульнях. А да стагоддзя школы сляпых на Беларусі выйшаў зборнік твораў пісьменнікаў-інвалідаў па зроку "Зоркі на далонях". Выдадзены ён пры дапамозе Беларускага таварыства інвалідаў па зроку накладам 2 тысячы асобнікаў. У зборніку прадстаўлены творы сямі сяброў Саюза пісьменнікаў. Цудоўнае эсэ "Беларусь і беларусы" слыннага гісторыка Міколы Ермаловіча расказвае ў сціслай форме пра мінулае і сучаснае нашай краіны. Празаік Хведар Конышаў прапанаваў для зборніка сваю маленькую аповесць "Пісталет". Надрукаваны таксама творы Гаўрылы Шутэнкі, Мікалая Лук'янава, Віктара Кудлачова, журналіста з Гародні Мікалая Каралёва. Зборнік выдадзены на вельмі добрым паліграфічным узроўні, на трох мовах — беларускай, рускай і англійскай. Рэдактар зборніка — В. Тодараў.

На прэс-канферэнцыі, прысвечанай выхаду зборніка "Зоркі на далонях" у свет, якая адбылася 9 кастрычніка ў мінскім "Доме прэсы", аўтары зборніка дзякавалі старшыні праўлення Беларускага таварыства інвалідаў па зроку Анатолю Нятылькіну і галоўнаму рэдактару часопіса "Маладосць" Генрыху Далідовічу, які прысутнічаў на прэс-канферэнцыі, за падтрымку і заўсёдную ўвагу.

**Н. К.**

ШЛЯХІ

# "Я ненавіджу палітыку..."

## З НАМЕСНІКАМ ДЫРЭКТАРА БЕЛАРУСКАГА ГУМАНІТАРНАГА ЛІЦЭЯ, ПЕРАКЛАДЧЫКАМ І ГРАМАДСКІМ ДЗЕЯЧАМ ЛЯВОНАМ БАРШЧЭЎСКІМ ГУТАРЫЦЬ ЭРНЕСТ ЯЛУГІН

**— ШАНОЎНЫ Лявон Пятровіч, перш-наперш віншую: Беларускі гуманітарны ліцэй усё ж застаўся ва унікальным будынку на Кірава, 21, што ёсць перамогай здаровага сэнсу і проста такі гераічных намаганняў і выкладчыкаў, і ліцэістаў з іх самаахвярнымі бацькамі. Хачу ў вас, як аднаго са стваральнікаў і кіраўніка навукова-метадычнай працы ў ліцэі, запытацца: а колькі магла б урэшце каштаваць беларускаму народу ды і дзяржаве страта гэтай унікальнай навучальнай установы? Бо, па чутках, пагроза яе ліквідацыі (скажам, пад выглядам "зліцця" з якой рускамоўнай школай) усё ж застаецца.**

— Звесткі, якія мы маем, сведчаць, што гэта, на жаль, так. А кошт страты... Мяркуйце самі: для Беларусі гэты ліцэй не менш важны, чымся ў свой час быў Царскасельскі ліцэй для Расійскай дзяржавы, адкуль выйшлі не толькі Пушкін, але і шмат хто з самых выдатных дзяржаўных дзеячаў. Тут адбываецца станаўленне новага пакалення нацыянальнай інтэлігенцыі Беларусі. Думаю, гэтым усё сказана.

**— Натуральна для моцы дзяржавы было б асабліва падтрымліваць навучальныя ўстановы, якія даюць найбольш падрыхтаваных выпускнікоў. А менавіта ж гадаванцы Беларускага гуманітарнага ліцэя, па звестках, набываюць такія грунтоўныя веды, што амаль усе потым вытрымліваюць конкурсы пры здачы ўступных экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Я чуў, такіх ажно каля 95 працэнтаў — неверагодна высокі паказчык. Ён дакладны?**

— Вядома, дакладны. Хоць з году ў год крыху вагаецца ў той ці іншы бок, таму што бывае больш моцны паток вучняў, а бывае крыху слабейшы. Але ў цэлым усе ліцэісты, з якімі не адбываецца псіхалагічных зрываў ці нейкіх незвычайных здарэнняў у дзень экзаменаў, сапраўды паспяхова вытрымліваюць конкурсы ў самыя прэстыжныя вышэйшыя навучальныя ўстановы.

**— Вы ўдзельнічалі ў распрацоўцы, а затым ажыццяўленні стратэгіі навучальнага працэсу ў ліцэі. Як бы вы яго ахарактарызавалі?**

— Гэта стандарты самых лепшых еўрапейскіх навучальных устаноў такога класа. Мы грунтуем нашу працу на педагагічным партнёрстве. Выхаванцы нашы, мяркую, не адчуваюць, нібыта іх тут вучаць нечаму зусім інакш, чымся дзе. Нярэдка яны прыходзяць да нас таксама з добрых школ, гімназій з высокападрыхтаванымі выкладчыкамі і г. д. Іншая рэч, што з першых жа заняткаў у ліцэі яны трапляюць у атмасферу дружалюбных чалавечых адносін. Ліцэісты адчуваюць сапраўдную павагу да сябе як да асоб, дэмакратызм і спрыянне ўсіх, хто тут працуе, таму, каб яны набылі грунтоўныя веды самастойна, без нейкага прыкметнага ўціску дарослых, настаўнікаў. Асабіста я, як педагог з семнаццацігадовым стажам, перакананы, што добра навучыць нечаму прымусам нікога ніколі і нікому не ўдавалася. Таму мы намагаемся стварыць такую атмасферу, каб вучні самі імкнуліся развіваць свае прыродныя здольнасці і набываць веды.

**— У савецкі час іншым разам занадта "ідэйныя" дырэктары школ і завучы спрабавалі падбіраць настаўнікаў па прынцыпе членства ў КПСС. Пра ліцэй той-сёй распаўсюджвае чуткі, нібыта сюды бяруць у залежнасці ад членства ў БНФ.**

— Такога ў нас не толькі няма, але не можа быць у прынцыпе. Ліцэісты, само сабою, залічаюцца паводле балаў, якія яны атрымалі ў спаборніцтве за права тут вучыцца. Сёлета, напрыклад, паступалі да нас некалькі дзяцей франтаўскіх актывістаў — добрых беларускіх патрыётаў, якія шмат зрабілі дзеля Айчыны, годных людзей. Але ж гэтыя дзеці не змаглі прайсці конкурс. З другога боку, у нас вучыцца пэўная колькасць дзяцей высокапастаўленых чыноўнікаў, якія хто насцярожана, а хто і непрыязна ставіцца да БНФ. Ніякіх праблем. Мы на гэта не зважаем, да ўсіх дзяцей ставімся аднолькава. А што да настаўнікаў, дык, зноў жа, кадры падбіраліся не па нейкай там партыйнай прыкмеце, а на конкурснай аснове, згодна з кваліфікацыяй кожнага. Выкладчыкі ў нас ёсць і палітычна пасіўныя, і з рознымі поглядамі на пабудову грамадства, але ўсе яны маюць аднолькавыя погляды на неабходнасць нацыянальнага адраджэння і прыярытэту беларускай мовы, на якой можна даваць сапраўдную еўрапейскую адукацыю. І ўсе разам яны выдатныя спецыялісты па сваіх прадметах. Ніякіх анкет адносна партыйнай арыентацыі ці прыналежнасці ў нас няма. Скажам, у 1991 годзе пасля сумнавядомага жнівеньскага путчу і прыпынення затым дзейнасці КПСС адным з першых настаўнікаў, залічаных на працу ў ліцэй, быў выкладчык Вышэйшай партыйнай школы, дацэнт Віктар Кісель, які потым перайшоў у выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя". Ён у нас некалькі гадоў выкладаў геаграфію, і мы былі ім вельмі задаволены як добрым спецыялістам.

**— У канцы лета, калі была пагроза, што ліцэй можа пазбавіцца свайго будынка, каля яго сноўдаліся актывісты з так званага Беларускага патрыятычнага саюза моладзі з рознымі плакатамі, у тым ліку з такім: "Борщевский, руки прочь от детских душ!" Але ж я ведаю, што вашы паказваюць грунтоўныя веды па літаратуры, і іншых дысцыплінах, якія вы выкладаеце; яны высока цэняць вас як настаўніка і старэйшага таварыша. Скажыце, дзе мяжа ва ўзаемаадносінах настаўніка і вучня?**



*Фота К. Дробава*

— Гэта ў многім залежыць ад узросту вучняў. Безумоўна, з васьмікласнікамі трэба сябе паводзіць адным чынам, а з адзінаццацікласнікамі — інакш. Але аснова ўсё роўна застаецца: безумоўная павага да вучня як да асобы і — партнёрства. Гэта не простая фармальнасць, што мы заўсёды ў ліцэі звяртаемся да вучняў на "вы"; мы і размаўляем з імі так, каб яны адчувалі, што іх паважаюць. Узаемаадносіны паміж настаўнікам і вучнем — рэч псіхалагічна вельмі тонкая, шмат што грунтуецца, як я пераканаўся, на ўласным досведзе, залежыць ад канкрэтыкі, ад індывідуальных асаблівасцей кожнай асобы, але аснова, паўтаруся, адна — стварэнне атмасферы нязмушанасці і ўзаемапавагі.

**— Безумоўна, чалавек усё жыццё займаецца самавыхаваннем, вучыцца на ўласным вопыце, хоць і тое, што атрымана ў дзяцінстве, многае значыць. А якім яно было ў вас? Чым цікавіліся, калі адчулі сваю беларускасць, дарэчы?**

— Рос у звычайнай працоўнай сям'і, жыў у прыгарадзе Полацка. Куміры мае былі, відаць, звычайныя для падлеткаў тых часоў — Акуджава, Высоцкі... У восьмым класе да іх далучыўся Максім Багдановіч. Вось тады неяк я і адчуў сваю беларускасць. А спярша ўвогуле пачаў задумвацца над тым, хто я такі, бо маці ў мяне руская, а бацька беларус, абодва вельмі цанілі менавіта сваю культуру, і мне была выразна бачная іх розніца. З малога ўзросту я адчуў, што гэта не адно і тое ж. А дзе было маё? Паколькі мы жылі ў асяродку палачан і ніяк ад іх не адмяжоўваліся, то і я паступова адчуў сваю моцную духоўную сувязь менавіта з гэтымі людзьмі, а не нейкімі іншымі. У бальшыні палачанаў нацыянальная самасвядомасць у пэўнай ступені заўжды існавала, і таму і я не знаходзіўся ў гэтым сэнсе ў нейкім вакууме. Але сапраўды карэнным, пераломным у маёй самасвядомасці стала знаёмства з навапалацкім літаратурным аб'яднаннем "Крыніцы" ў пачатку васьмідзесятых гадоў.

**— Калі там быў Уладзімір Арлоў?**

— І ён, і Сяржук Сокалаў-Воюш, і Навум Гальпяровіч, і Ірына Жарнасек, і Вінцэсь Мудроў... Высветлілася, што я ў іхнім асяродку зусім не белая варона. Гэта сузор'е яркіх, таленавітых, адукаваных і высокамаральных асоб, дзе можна было абмеркаваць усе свае праблемы — і літаратурныя, і жыццёвыя, і знайсці паразуменне, безумоўную падтрымку. Мы ўсяляк дапамагалі адзін аднаму і разам сталелі.

**— Эсэ, надрукаванае нядаўна ў газеце "Свабода", Уладзімір Арлоў пачынае так: "Бог, як вядома, няроўна дзеліць. Хтосьці, быццам семкі лузгае дыферэнцыяльныя ўраўненні. Хтосьці, як, напрыклад, палітык і перакладчык Лявон Баршчэўскі — на васьмі мовах гаворыць і яшчэ на дваццаці васьмі чытае"... Можна дадаць, што вы бліскуча скончылі Мінскі інстытут замежных моў, які цяпер стаў лінгвістычным універсітэтам, абаранілі вучоную ступень па філалогіі. А што б вы параілі звычайнаму чалавеку, які вырашыў самастойна авалодаць замежнай мовай?**

— Параіў бы набрацца цярпення. Упэўнены, што кожны сярэдніх здольнасцей чалавек можа, прыкладна, за лета вывучыць адну замежную мову на ўзроўні, дастатковым, каб яна прыносіла асалоду, а не пакуты пры карыстанні. Адно толькі трэба: штодзённы абавязковы занятак. Нельга рабіць пропускі. Калі вы ўзяліся за вывучэнне мовы, не рабіце гэта толькі раз ці два на тыдзень. Штодня абавязкова аддавайце гэтаму нейкую частку свайго часу. Паўтары, дзве гадзіны ці болей — меней, але абавязкова рэгулярна. Калі вы так з любым падручнікам папрацуеце месяцы тры, то к канцу адчуеце, што зможаце больш-менш прыстойна чытаць літаратуру на гэтай мове і выказвацца. Гэтак, прыкладна, я і рабіў у часе летніх настаўніцкіх водпускаў. Недзе к канцу жніўня меў прыстойны вынік.

**— Ну, а як настаўнік, што б вы параілі бацькам у іх адносінах з дзецьмі, у тым ліку са школьнікамі?**

— Самая галоўная парада — быць для дзяцей асабістым прыкладам. Хто хоча ўзгадаваць добрых дзяцей, павінен перш за ўсё мець мужнасць удасканальвацца сам. Нельга думаць, што школа навучыць добрым манерам, калі іх няма ў сям'і. Нельга чакаць, што дзеці будуць размаўляць, як Купала ці Адам Міцкевіч, калі дома чуюць адно абразлівую лаянку і мацюкі.

**— Вы прызнаны перакладчык самых выбітных паэтаў свету. А нядаўна я сустракаю кнігу прозы Кафкі "Прысуд" у вашым перакладзе. Гэта пераход на прозу ці вы адмыслова зацікавіліся творчасцю Кафкі — як своеасаблівага філосафа, даследчыка змрочных таямніц чалавечай душы ў сувязі з сучасным станам нашага духоўна хворага грамадства?**

— Спрэчнае пытанне — празаік Кафка ці паэт. Гэта чалавек вельмі тонкай душы, я яго лічу лірыкам, а не эпікам, а значыць, хутчэй паэтам. Што да майго адыходу ў прозу, то я ж спярша выдаў кнігу прозы Генрыха Бёля. Пісьменніка, якога я выключна паважаў не толькі за літаратурнае майстэрства, але і маральнасць. Вось чаму ў мяне было вялікае імкненне, каб Бёль прагучаў і па-беларуску. А Кафка... Мяне зацікавіла ягоная безабароннасць перад жорсткасцю свету, тое, што гэта было за асяроддзе, як мог узнікнуць псіхалагічны клімат, у якім чалавек пачынае адчуваць сябе невядома чым, нейкай кузюркай.

**— У часе публічных выступленняў на палітычных мітынгах вы выглядаеце вельмі суровым, амаль як Зянон Пазняк. У той жа час, даўно назіраючы за вамі, я пераканаўся, што вы ўмееце быць далікатным з чалавекам, нават калі ён рашуча не падзяляе вашы погляды, прыслухоўваецеся да крытыкі, хоць часам бачна, што вам даводзіцца стрымліваць свой тэмперамент. Якім, на вашу думку, павінен быць кіраўнік, асабліва той, хто прэтэндуе на дзяржаўныя ролі?**

— Кіраўнік павінен быць, у рэшце рэшт, добрым арганізатарам. Па сённяшнім часе адчуваецца відавочны недахоп арганізатараў, якія б добра разумелі псіхалагічныя асаблівасці тых, з кім яны маюць справу. Калі мы пераадолеем гэты недахоп, то пераадолеем і шмат якія іншыя. А што да мяне асабіста, то я ніколі не ўяўляў сябе нейкім харызматычным палітычным лідэрам і не імкнуўся "свяціцца" перад тэлекамерамі і фотааб'ектывамі журналістаў. Проста адчуваў патрэбу добрасумленна рабіць неабходнае дзеля агульнай мэты, імкнуўся арганізаваць працу так, каб людзі, якія мне даверыліся, у кожны момант разумелі, што рабіць, калі, як і дзеля чаго, а не былі нейкімі пешкамі.

**— Як бы вы ахарактарызавалі два словы-паняцці — фанатызм і нацыяналізм, якімі зараз модна палохаць людзей?**

— Фанатыкаў нам якраз не хапае.

**— Увогуле не хапае?**

— Тых, хто, нягледзячы ні на якія перашкоды, упарта і якасна імкнецца рабіць сваю справу. Не прымаю такіх фанатыкаў, якія выкарыстоўваюць усе сілы дзеля падаўлення іншых, каб запанавала толькі ўласнае ўяўленне пра парадак рэчаў. А калі чалавек — фанат сваёй справы... Толькі такія і дасягаюць выдатных вынікаў. Узяць хоць мастацтва, хоць шахматы, хоць матэматыку — і гэтак далей. На жаль, іх у нас вельмі мала. Што да нацыяналізму, то ўвесь мой уласны досвед жыцця, пачынаючы з дзяцінства, мне падказвае: без выразнай нацыянальнай акрэсленасці добрай асобы ды грамадзяніна не бывае. У нашым жа выпадку калі ў каго няма беларускага нацыяналізму, то ёсць рускі нацыяналізм альбо і шавінізм. Усё роўна чалавек прывязаны да нейкай культуры, сістэмы жыццёвых каардынатаў. Ёсць сістэма куміраў, аўтарытэтаў. На жаль, у нас гэта ўсё нярэдка перакручанае. Мне казалі сацыёлагі пра такі тэст: вазьміце знянацку каго-небудзь за рукаў на вуліцы і папрасіце назваць прозвішча пісьменніка. Працэнтаў дзевяноста з апытаных назавуць Пушкіна. Гэта, безумоўна, вялікі паэт, але ж у Беларусі тым не менш будзе нармальнай псіхалагічная сітуацыя, калі большасць усё ж адразу зможа ўспомніць Купалу. Ці Багдановіча, Гарэцкага, Быкава, каго іншага з гэтага шэрагу. Даможамся такога — тады можна сказаць, што ў нас псіхалагічная сітуацыя ўнармавалася, і нацыянальнае адраджэнне адбылося. Калі хаця б прыкметная большасць людзей займее такую падсвядомасць, што самымі аўтарытэтнымі для іх стануць перш-наперш свае майстры культуры, значыць, грамадства ў нас будзе здольнае паспяхова развівацца.

**— Вы сказалі, што не дамагаецеся палітычнага лідэрства. Тым не меней аказаліся ў самай гушчыні палітычных страсцей апошняга часу. Былі адным з самых яркіх дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання, апынуліся ў гурце апазіцыянераў, каго збілі і сілком выцягнулі з Авальнай залы Дома ўрада, цяпер вось адзін з лідэраў такой моцнай і баявой апазіцыйнай арганізацыі, як Беларускі народны фронт...**

— А што ж застаецца, калі склалася такое палітычнае становішча, што нармальна нават філалогіяй ужо немагчыма займацца! На краю пагібелі беларуская мова, культура, парушаюцца асноўныя правы чалавека на свабоднае і годнае жыццё. Мой удзел у палітыцы — гэта проста сродак абароны магчымасці спакойна займацца тымі ж літаратурнымі справамі. Вядома, я хацеў бы, каб у Беларусі як найхутчэй сфармаваўся кантынгент прафесійных палітыкаў, якія працуюць па пэўных цывілізаваных правілах, якіх бы сапраўды свабодна выбіралі людзі, падтрымлівалі пэўныя партыі, электарат, і якія б сваёй дзейнасцю ўжо ніякім чынам не разбуралі Беларусь.

*(Працяг на стар. 12)*

## Экзамены — рэч сур'ёзная

**На жаль, даволі часта атрымліваецца так, што пра ўступныя экзамены выпускнікі школ успамінаюць толькі тады, калі прыходзіць час саміх іспытаў. А куды ж лепш падрыхтавацца загадзя. Тым больш, што цяпер выдаецца дастаткова самых розных дапаможнікаў. Нам жа хацелася б звярнуць увагу на гэты — "Экзамен па беларускай літаратуры", выпушчаны выдавецтвам "Сучаснае слова". Ён адрасаваны як навучэнцам, так і абітурыентам. Матэрыялы, што сабраны ў гэтым дапаможніку, адпавядаюць экзаменацыйным білетам за курс сярэдняй школы. Даюцца парады, якія творы лепш выбраць для аналізу, як правільней і лагічней выказваць сваю думку... Кніга "Экзамен па беларускай літаратуры" вартая, каб набыць яе цяпер ужо, хоць да экзаменаў, як выпускных, так і ўступных, яшчэ далёка.**

**В. ЗУШЧЫК**

## Першая персанальная



**Каля паўсотні жывапісных палотнаў прадставіла на суд гледачоў віцяблянка Ліля Тарасава на выставе, якая адкрылася ў цэнтры народных рамёстваў і мастацтва "Задзвінне" ў абласным цэнтры. Гэта першая персанальная выстава мастачкі. Ліля — член гарадскога клуба самадзейных мастакоў "Контур".**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Вясёлыя гісторыі Чапека

**Выдавецтва "Полымя" ў перакладзе на беларускую мову выпусціла кнігу вядомага пісьменніка Карэла Чапека, адрасаваную дзецям. Пра змест твораў, што трапілі пад адну вокладку, яскрава сведчыць назва зборніка — "Казкі і вясёлыя гісторыі". А пераклалі іх Яўген Курто і Анатоль Чаркасаў.**

## У свет прыгодаў з... Муркай

**Што найперш важна ў творах для дзяцей? Відаць, займальнасць, доціп, нечаканасць сітуацый. Усё гэта ёсць у новай аповесці-казцы Алеся Савіцкага "Прыгоды Муркі", якая нядаўна выйшла ў выдавецтве "Юнацтва". Тыя, хто пакуль не прачытаў новы твор вядомага пісьменніка, насумненна, зробяць гэта ў бліжэйшы час. У першую чаргу, безумоўна, дзеці, што прысутнічалі на прэзентацыі кнігі, якая праходзіла ў Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы Мінска. У госці да дзятвы прыйшлі не толькі сам аўтар, а і дырэктар выдавецтва "Юнацтва", лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Валянцін Лукша, рэдактар кнігі Міхась Зарэмба.**

**Усім было хораша, весела — і дзякуючы знакамітым гасцям, і дзякуючы выступленням юных акцёраў, якія падрыхтавалі паводле "Прыгод Муркі" тэатральнае прадстаўленне.**

КРЫТЫКА

# На мяжы дабра і зла

ЗНАК Скарпіёна пануе на небе і зямлі з 24 кастрычніка па 22 лістапада. Як засведчана ў астралагічным календары, "асоба Скарпіёна — гэта зменлівае яднанне антаганістычных сіл. Душа і плоць заўсёды ў барацьбе паміж сабой". Кім жа, у якой іпастасі прадстае лірычная гераіня першага паэтычнага зборніка Аксаны Данільчык, пад загадкавай назвай "Абрыс скарпіёна"?

*Жахліва? У гэтым і цуд,*
*У гэтым і абаяльнасць.*
*Людзі баяцца пакут,*
*А мараць пра геніяльнасць.*

на пазіцыі чакання: "ёсць на свеце мой мужчына. Ёсць кароль. Хоць без кароны...". Магчыма, толькі ён, які ўжо недзе жыве і абавязкова прыйдзе, зможа пераўтварыць мармур у жывую прывабную жанчыну.

Стваральная жыццёвая актыўнасць гераіні ўвасобілася ў самаазначэнні "Я — дождж". Дождж — гэта ачышчэнне, выратаванне, дар, малітва ад згрызот, чорнай гразі і пекла — "Пранізлівым ранкам Ледзьледзь да шкла дакрануся, Вымыю вокны старанна, Знікну і зноў вярнуся...". Дождж праходзіць скразным вобразам праз зборнік А. Данільчык, напаўняючыся новымі адценнямі. Яго прышэсце — як споведзь,

*Чалавек пакутуе ў сутарэннях*
*Уласнай душы.*
*І толькі адно існуе выратаванне —*
*Пацалунак Кобры.*

Верш, напісаны пад уплывам "Маленькага прынца" Сент-Экзюперы (дарэчы, па словах аўтаркі, гэта яе любімы твор) адстойвае ідэю выжывання Велічнай Адзінкі сярод пустога Мноства.

Як захаваць тонкую, ранімую душу, калі "свет і жорсткі і прывабны, свет бязлістасны і мілы..."? Свет падзелены на дзве палавінкі, за кожнай з іх "замацаваны" свой спектр дазволенага, сваё кола абавязкаў ("Там святары. Тут — вар'ят на вар'яце..."), прычым усё лепшае засталося "там", тут жа "калецтва, пачварнасць, Тут не адводзяць вачэй ад зямлі..." Такога роду жорсткі падзел абумоўлены ўпэўненасцю, што ў свеце пануе Дождж, і ён "няўмольна зацерушыў Дамоў Старыя дахі, і пыл, і плач, і вецер..."

Лірычная гераіня разумее сваю недастатковасць у даручанай ёй Небам ролі быць "свет нясучай", таму адмаўляецца — "Я не хачу быць дажджом, але Неба ідзе на паклон..." Зноў узнікае ў вобразе дажджу вобраз прарока.

Святло не прыходзіць без намаганняў, як не можа збалелая душа гераіні дапамагаць іншым, быць чырвоным вінам, калі самой патрабуюцца лекі:

*Прайшла пара чырвонага віна*
*І зараз льецца белае віно.*

Белае віно становіцца ўвасабленнем не толькі новага стану лірычнай гераіні і яе часу, але і ўспрымання ёю акаляючай рэчаіснасці. Белае віно — гэта "не чуць, не бачыць, шкоды не рабіць, Не адчуваць, а можа, і не быць...", а значыць яно ў некаторай ступені ўвасабленне раўнадушша, якое страшней за праявы зла. Зло адкрытае, раўнадушша ж не займае ніякі бок, яно нейтральнае.

Душа скараецца з тым, што дом становіцца халодным, свет — бязлітасным, з'яўляюцца чорныя думкі, "можа, таму, што жыць не хацелася, Памяць знішчала ўспышак мільёны...". Магчыма, слабасць жаночай душы, блытаніна думак прывялі да падобнага стану: "І аб смерці спыняюцца словы Пад бурштынавым сонцам вясновым..." Песімістычныя настроі нараджаюць вырашэнне, што "над жыццём пахаванне ўладарыць..." Але гэта толькі часовая ўлада сіл цемры, бо:

*Як толькі зара абвясціла,*
*Што скончыўся цемры праклён,*
*Сабраўшы апошнія сілы,*
*Паранены знік скарпіён.*

"Цемры праклён" навісае над кожным чалавекам і нярэдка вельмі балюча раніць душу, але трэба мець вялікі ўнутраны патэнцыял, веру, як і ў гераіні А. Данільчык, што ў любых непрыемнасцях "Скарпіён і з попелу ўваскрэсне". Знак Скарпіёна стаў для паэткі і яе гераіні "маім зверам, цудам і абаронцай", аднак душа чалавека, дадзеная пры нараджэнні Небам (зорным знакам) і Богам, напаўняецца на працягу сваёго існавання гукамі, пахамі, колерамі рэчаіснасці, і становіцца яшчэ багацейшай: "І зоркі ўпадуць іскрыстыя На чысты аркуш паперы..."

Не вясковая прырода, а гарадская становіцца "вызначальнікам" настрою гераіні. Яе горад жыве адным жыццём з ёю. Знаходзяцца незвычайныя параўнанні, адмысловыя асацыяцыі, лаканічныя вобразы пры стварэнні аблічча горада: "Перавітыя стужкай агнёў, Гарады расціскалі далоні...", "І дрогкі горад цягне рукі без пальчаткаў белых...", "На клавішах лагодных адрынутай душы, Імправізуе горад і пясціць подых нечы..."

Нягледзячы на тое, што "пад цяжарам бясколерных нябёс Згінае спіну горад састарэлы..." і што не раз яму прыходзілася падымацца з руін, усё ж тэма горада застаецца светлай старонкай жыцця гераіні, яе надзеяй і будучыняй. Толькі любячы родныя мясціны, можна напісаць:

*...зоркі пакідаюць свет,*
*Каб на асфальце рассыпацца.*

Такімі радкамі пачынаецца зборнік. У іх ключ да разгадкі таямніцы скарпіёнавай душы, якая існуе на мяжы дабра і зла, чорнай і белай магіі. З кантэксту верша "Чорная магія" паўстае азартная натура гераіні, якая прапануе — "рызыкні. Хай рука не дрыжыць. Нават калі атрута. Якая розніца — жыць ці не жыць? — Калі не зведаў чароўных путаў..." Гераіня кнігі, як і прамаці Ева гатова ахвяраваць усім дзеля спазнання. Так праяўляецца адвечная цяга Чалавека да Абсалюту, да авалодання Вышэйшай Гармоніяй. І на такім шляху гераіні А. Данільчык пакуль што ўсе сродкі даспадобы — нават Чорная Магія.

Паэтка верыць, што прыйшла ў гэты свет, каб стаць "белай кропляй" на фоне змрочных фарбаў. І тады "вакол жыццё пачнецца з новым імем незвычайным". Аднак жахлівасць неспазнанага, але прыцягальнага свету ахінае душу неспакоем і трывогай, бо дзень "Прыйдзе і пойдзе", а "бясконцасць — імгненне", і немагчыма ўгнацца за гэтай хуткаплыннасцю часу. "Думка ўладарыць" і патрабуе асэнсавання адвечнага супрацьстаяння ў прыродзе і лёсе чалавека чорнага і белага.

Белае — рай, створаны марамі і жаданнямі. Гэта былы рай Адама і Евы, у якім "для мяне шчэ яблык не даспеў", у якім добра натхнёна сузіраць зямныя прасторы. Аднак рэальнасць спакушае адкусіць ад яблыка спазнання — адсюль пакуты ў самавызначэнні, бо "і не згаджуся з раем развітаца..." Лірычная гераіня яшчэ не ведае, што рэальнасць не любіць няпэўнасці, дваістасці, а таму наступіць час, калі прыйдзецца вызначыцца.

*Зрабі мяне, Госпадзь, віном чырвоным.*
*Хай дапаможа тым, хто не пасмеў*
*Пачуць свой крок і вырвацца з палону.*

Шлях Евы наканаваны лірычнай гераіні. Чырвонае віно, якім яна хоча зрабіцца, сімвалізуе сілу духа.

Пасля выхаду з раю кантрастам паўстае "чорным колерам свет. За сцяною сцяна. За каменнем каменне, І слова за словам...", белае пераўтвараецца ў чорнае, грахоўнае — і ў такім дысанансе рэзка абмалёўваецца тое, што не бачылася на белым фоне. Думкамі рухае трывожны песімізм, адчай ад немагчымасці вызначыцца — "не ўпляташся ў прозу ты, А паэтычнасць праходзіць...", таму і адбываюцца нечаканыя пераходы з белага (раю) — у чорнае. Рай — выверaны, празрысты, ясны, а рэчаіснасць, што ўпала на граіню пераважна цёмнымі, чорнымі колерамі, "раздзёрта да крыві палётам птушкі дзікай...".

Узнікае вобраз кроплі — як пераменнасці чалавечага лёсу: "кроплямі з бакала Па часе разлятаецца жыццё...". Нягледзячы на незваротныя, цяжкія душэўныя страты, на тое, што яе духоўная моц — чырвонае віно не заўсёды паспявае выратоўваць іншых і губляе свае сілы з дня ў дзень лірычная гераіня ўсё ж адчувае сваю жыццесцвярджальнасць.

*Падобны свет вялікай цяжкай глыбе,*
*Дзе пасярод ку ўмуравана я.*

Слова "пасяродку" выклікае асацыяцыі: "я — цэнтр зямлі", "цэнтр Сусвету", і заканамерная з'ява — чалавек, імкнучыся да выразнага асэнсавання сваёй самасці, свайго "эга", адчуваючы рэальныя і нерэалізаваныя сілы, прыходзіць да завышанай самаадзнакі. Супярэчлівая скарпіёнава натура дае аб сабе знаць у акрэсленні жыццёвых установак. Ад дзейснага, неўтаймаванага жадання быць карысным, дапамагаць гераіня пераходзіць

як абнаўленне душы.

Стан "завісання" паміж рознымі падзеямі, сітуацыямі — звычайны, арганічны для няроўнага характару гераіні Аксаны Данільчык: "За пяць хвілін да адкрыцця, хвіліну да сустрэчы. Ужо не тут, яшчэ не там — між цемрай і святлом". У хаосе самавыяўлення неспадзявана ўзнікаюць карціны з пазарэальнасці, падсвядома пераасэнсаваныя старонкі паўсядзённых клопатаў.

Біблейскія вобразы неадназова ўзнікаюць у тканіне вершаў, аднак гэтая цяга да сувязі з Небам, не набывае яшчэ ўстойлівага асэнсавання. Хутчэй гэта зварот да Неба з просьбамі ў хвіліны адчаю і падзякай у моманты душэўнай акрыленасці: "Я вокны, быццам Новы Запавет, Пакуль не згасла вера, адчыніла..."

Незразумелымі, пакручастымі шляхамі ідзе лірычная гераіня да самапасціжэння. І песімізм усё часцей уваходзіць у яе роздумы аб будучым: "З люстэрка цьмяна бляск вачэй ступіць у восень клікаў...", "І немагчыма ўжо праспяваць Лепшыя песні ў свеце...", бо дзяўчына (адкуль здавалася б, узнікаюць падобныя думкі ў 20 гадоў) упэўнена ў пакутлівым наканаванні свайго лёсу — "Чужых пакут і слёз тканіна Тваім жыццём знайшла працяг..."

Другая частка паэтычнай кнігі адкрываецца вершам "Балеро" Равеля". У творы вядомага аўтара А. Данільчык адчувае суяднанасць "сюжэтных ліній": яе цяперашняга стану і натхняльнага настрою балетнага спектакля.

У рытме танца ствараецца верш, набіраючы моц ад самаўнушэння "ты зможаш, ты зможаш, ты зможаш...", Паўтор нібы замацоўвае ўстаноўку гераіні самой сабе на новы штуршок, новы крок у жыцці. І як у кульмінацыі балета, у вершы акордам неўміручасці чалавечага духу, яго непазнаным да канца сілам, гучаць радкі:

*Я змагу, я змагу, я змагу...*
*Так прачнуўся зняволены дух.*
*Так праравуўся знясілены голас...*

Гераіня асэнсоўвае "спосабы руху" ў заўтрашні дзень. Прычым рух — не абстрактная катэгорыя для маладой паэткі, а хутчэй праблема сэнсу быцця, прызначэння асобы. Гераіня губляецца ў мностве спосабаў самавыяўлення: "Крок назад. Блуканне... Што ж, таксама гэта спосаб руху..." Дзеянне, хай сабе і не мэтанакіраванае, усё роўна прыносіць свае вынікі: "Пусціш з горкі кола і ўтрымаць не зможаш, Кацішся са смехам сам за ім услед". Сама гераіня ператварылася ў кола, якое коціцца да разумення сэнсу існавання, і ўжо не можа спыніцца ў "балоце" шэрай паўсядзённасці, бо цяпер яе істота належыць не толькі ёй, а і часу — "У цябе ўпусціла прагнае карэнне Ці імгненнасць часу, ці імгненнасць сну...".

Імгненнасць часу — вызначэнне, дадзенае А. Данільчык, дастасуецца да мудрых выказванняў філосафаў даўніны, што жыццё ўсяго толькі міг, а таму неспакойна, трывожна гучаць разгубленыя ўсплёскі эмоцый:

*І шляхоў не знайсці,*
*І пайсці — не пайсці...*
*...Я ж — дык нават дарогі не ведаю.*
*...Пазмажы... падкажы...*
*Не пакінь мяне перад нязведаным.*

Да каго звяртаецца А. Данільчык з просьбай аб дапамозе? Раней, у памкненнях стаць "чырвоным віном", ратаванне бачылася ў Богу. Адзін Бог можа асвятліць шлях, на якім "толькі крок — і бясконцасць намераў". З-за няўпэўненасці, нявызначанасці сваіх магчымасцяў і здольнасцяў у барацьбе з жыццёвымі цяжкасцямі гераіня думае, што "адзіны рух — на шлях да нябыцця".

Таму ёсць надзея на далейшае самапазнанне — самастварэнне паэтэсы Аксаны Данільчык, якое выявіцца ў яе паэзіі, а значыць — у новых цікавых кніжках. Будзем чакаць.

**Святлана КАЛЯДКА**

*Аксана Данільчык. "Абрыс Скарпіёна". Вершы. Мінск, "Мастацкая літаратура", 1996.*

ВІНШУЕМ!

# Іншага не дадзена

## Мікалаю ЧАРГІНЦУ — 60

Здзіўляючае спалучэнне ў адной асобе — пісьменнік, генерал міліцыі, сенатар, старшыня Камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Савета рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі. І што характэрна, ва ўсіх гэтых іпастасях Мікалай Іванавіч адчувае сябе годна. Так упэўнена, быццам самім лёсам было загадзя наканавана яму стаць пісьменнікам, генералам, сенатарам... І далёка не ўсе ведаюць, наколькі няпростым быў у яго шлях да падобнага самасцвярджэння. Не здагадваюцца, што Мікалай Чаргінец, каб дамагчыся нечага істотнага ў жыцці, мусіў заўсёды разлічваць толькі на сябе, на свае сілы, разумеючы — іншага не дадзена.

Інакш жыццё магло б распарадзіцца пасвойму, выбраўшы далёка не лепшы варыянт.

Сталенне М. Чаргінца адбывалася ў цяжкі пасляваенны час, і не дзе-небудзь, а ў раёне мінскай Камароўкі, дзе пастаянна хапала розных крымінальных элементаў.

Наўкола разруха, да ўсяго яшчэ нішчымніца: бацька вярнуўся з фронту бязногім, а ў сям'і сямёра дзяцей... Тады нярэдка надаралася, што хлапчукі-падлеткі траплялі пад уплыў вуліцы. І калечыліся лёсы, ламаліся, так і не паспеўшы сфарміравацца. Лёс М. Чаргінца мог бы зламацца, калі б адразу не ўзяў сябе ў рукі, не знайшоў занятак па душы. А ім стала — любоў да спорту.

Дарэчы, і ў спорце Мікалай Іванавіч таксама дасягнуў многага. Спачатку займаўся ў дзіцячай спартыўнай школе, пазней — у футбольшай школе майстроў. Іграў у камандах Мінска, Вінніцы, Кішынёва... А яшчэ была вышэйшая школа трэнераў, пасля якой атрымаў так званы "чырвоны дыплом" — першым з футбалістаў-прафесіяналаў.

Здавалася б, далейшы лёс прадвызначаны, а ён — дыплом у "кішэню" і... і рабочым на завод. Стаў зборшчыкам і рэгуліроўшчыкам дазіметрычнай апаратуры. Нечаканасць такога ўчынку сёння вытлумачвае коратка: "Проста захацелася". Але, калі б не гэта, хутчэй за ўсё ніколі б не трапіў ён у міліцыю. Справа ў тым, што пры заводзе існаваў спецатрад, а М. Чаргінца прызначылі ў ім камісарам. У райкаме партыі, з ведама якога тады, як вядома, падбіраліся і кандыдаты для службы ў міліцыі, не маглі не звярнуць увагі на яго, бо падстаў было больш чым дастаткова. Цудоўна працуе — да таго дасканала авалодаў новай прафесіяй, што прыборы, сабраныя ім, прымаліся без далейшай праверкі. У барацьбе са злачынцамі паказвае прыклад... У 1964 годзе М. Чаргінцу прапанавалі пайсці ў крымінальны вышук...

Гэта на доўгія гады і вызначыла яго лёс. У службовай кар'еры авалодваў прыступкай за прыступкай. Быў намеснікам начальніка Першамайскага раённага аддзела ўнутраных спраў г. Мінска, начальнікам Ленінскага аддзела, намеснікам начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў Мінскага гарвыканкама, начальнікам Упраўлення крымінальнага вышуку Міністэрства ўнутраных спраў БССР.



За гэты час скончыў юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, абараніў кандыдацкую дысертацыю. Давялося і ў Афганістан трапіць, дзе прымаў непасрэдны ўдзел у баявых аперацыях, быў паранены, а вярнуўшыся на радзіму, працаваў начальнікам Беларускага ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце...

Галоўнае — праца ў органах унутраных спраў спрыяла нараджэнню М. Чаргінца-пісьменніка. Праўда, у друку ён пачаў выступаць яшчэ ў 1963 годзе, але гэта былі звычайныя нататкі, артыкулы на спартыўныя тэмы. А падчас працы ў міліцыі пад рукой апынуўся іншы матэрыял, прытым вельмі багаты фактурай. А яшчэ, што таксама немалаважна, асобныя прачытаныя кнігі пра міліцыю, яго не задавальнялі. У іх сустракалася шмат надуманага, прысутнічала псеўдарамантыка, далёкая ад рэчаіснасці. Адразу было відочна, што напісана гэта людзьмі выпадковымі. Захацелася пра многае расказаць самому — праўдзіва, аб'ектыўна, непрадузята, належным чынам раскрыўшы характары, — як тых, хто стаіць на ахове законаў, так і парушальнікаў іх.

Паступова нарадзілася задума аповесці "Чацвёрты след". Галоўнымі героямі гэтага твора — а некаторыя іх з цягам часу перайшлі ў іншыя кнігі — М. Чаргінец абраў людзей апантаных, чыстых душой і гарачых сэрцам, няўрымслівых і неспакойных. Асноўнае месца сярод іх заняў Ветраў — чалавек крыштальнай чысціні і надзвычайнай адданасці справе. Услед за "Чацвёртым следам" з'явіліся аповесці "Трывожная служба", "Следства працягваецца"... Калі першая прыйшла да чытача не без дапамогі сябра М. Чаргінца, журналіста Эльдара Найдзёнава, якому давялося папрацаваць над рукапісам, дык наступныя засведчылі, наколькі пісьменнік хутка і лёгка засвоіў законы жанру.

Аповесць жа "Фінал Краба" — гэта ўжо тая вышыня майстэрства, якое падуладна толькі сапраўднаму таленту. На гэтую акалічнасць у прадмове да кнігі звярнуў увагу Васіль Быкаў, які адзначыў, што "для мастацтва, як і для гісторыі, асаблівую каштоўнасць маюць сведчанні відавочцы, удзельніка, чалавека бывалага, які ведае ўсё аб прадмеце свайго апавядання і нават трошкі болей".

А "трошкі болей" М. Чаргінец ведаў не толькі ў "Фінале Краба". Апошняе і паспрыяла таму, што ў хуткім часе ён стаў адным з самых вядомых пісьменнікаў у рэспубліцы. Кнігі яго немагчыма было ўзяць у бібліятэках, па выхаду іх выстройваліся чэргі ля кнігарань...

Падобная папулярнасць многім сярод калег літаратараў не падабалася. Знаходзіліся ахвотнікі (а хіба іх сёння няма?) вытлумачваць усё нізкімі эстэтычнымі густамі чытачоў. Густы і на самай справе трэба выхоўваць, але ж не ў апошнюю чаргу і высокамастацкімі прыгодніцкімі творамі. І не трэба баяцца дэтэктываў, бо дэтэктыў дэтэктыву розніцца. Як і ў іншых жанрах тут сустракаецца нямала звычайнага "лёгкого чтива", але ж ёсць і тое, у мастацкіх вартасцях чаго сумнявацца не даводзіцца. Відаць, ніхто не стане аспрэчваць, што пэўныя элементы дэтэктыву ёсць у знакамітых "Злачынстве і пакаранні" Фёдара Дастаеўскага, не кажучы ўжо пра "Дзікае паляванне караля Стаха" і "Чорны замак Альшанскі" Уладзіміра Караткевіча.

Напісанае М. Чаргінцом у прыгодніцкім жанры, з'яўляецца сапраўднай прозай. А што ён мае яркі талент, пацвярджае і тое, як паспяхова спраўляецца і з матэрыялам, які вымагае даследчыцкага пошуку. Менавіта так атрымалася, калі пісаў аповесць "Загад N 1", у якой праўдзіва расказаў пра дзейнасць у рэвалюцыйным Мінску Фрунзе, пра тое, як ён арганізаваў народную міліцыю і павёў наступальную барацьбу са злачыннасцю. Давялося карыстацца архіўнымі матэрыяламі, нешта "мадэліраваць" інтуітыўна.

А наколькі новы матэрыял у раманах "Тайна Чорных гор", "Сыны"! Праўда, акурат гэтыя творы і выклікалі ў адрас М. Чаргінца ці не шквал крытыкі. А ўсё з-за таго, што ў яго ёсць свой погляд на трагедыю Афганістана, на ўдзел у баявых аперацыях савецкіх салдат і афіцэраў.

Каб жа былі гэта звычайныя літаратурныя спрэчкі! У рэшце рэшт, каб даводзілася толькі ўласная пазіцыя! Ды дзе там?! Пачаліся неабгрунтаваныя закіды, з'явіліся ледзь не сумненні і наконт таго, як сам М. Чаргінец там ваяваў.

Няма асаблівага жадання адказваць на ўсё гэта. Адно хочацца сказаць: чалавек, які быў там, чалавек, які вярнуўся адтуль, чалавек, які неаднойчы глядзеў смерці ў вочы, чалавек, які, дарэчы, асобныя старонкі рамана "Тайна Чорных гор" (першапачатковая назва "Таргор — Чорныя горы") пісаў у перапынку паміж баямі і ноччу — такі чалавек мае права, на ўласны погляд адносна ўсяго, што адбывалася ў Афганістане. І гэтым правам М. Чаргінец, хочацца таго камунебудзь ці не хочацца, карыстаўся, пішучы свае "рэпартажы" з пярэдняга краю. І працягвае карыстацца сёння, аб чым, у прыватнасці, сведчыць яго раман "Ілоты вар'яцтва", у якім востра ставяцца праблемы барацьбы з міжнародным тэрарызмам.

Сёння на рабочым стале Мікалая Іванавіча старонкі новай кнігі, пішацца сцэнарый і будучага фільма, а фільм "Бегства ад смерці" нядаўна з поспехам прайшоў у кінатэатрах сталіцы.

Літаратуры, кіно яму даводзіцца ахвяраваць толькі вольным часам, якога пастаянна катастрафічна не стае. Падумаць толькі: дзевяць гадоў не быў у адпачынку! Ды як жа інакш, калі даводзіцца спалучаць у адной асобе пісьменніка, генерала, сенатара...

І нічога не зробіш — іншага не дадзена.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

КНІГАРНЯ

# Займальна і дасціпна

Была ў Алеся Пісьмянкова кніжка для дзяцей "Заўзятары", цяпер выйшла чарговая — "Ласуны-веселуны". Абедзве з'явіліся ў выдавецтве "Юнацтва" і абедзве невялікія па аб'ёме (у "Ласунках-веселунах", напрыклад, толькі 28 твораў). Ды вылучаюцца зборнікі не гэтым, а ўменнем паэта гаварыць з малечай нароўных і тонка спасцігаць унутраны свет хлопчыкаў і дзяўчынак, глядзець на жыццё іхнімі вачыма — даверлівымі, адкрытымі, прагавітымі да пазнання. А яшчэ А. Пісьмянкоў разумее, што там, дзе маленства, заўсёды ёсць месца досціпу, займальнасці і, зразумела, багатай фантазіі.

Пісаць пра "чамучак" паэт умее не проста непаўторна, а нярэдка з той выдумкай, на якую здатны толькі творцы, што сталі дзіцячымі пісьменнікамі па прызванні. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова згадаць верш "Кот-мушкецёр" — падобны твор не ў многіх сустрэнеш. Вядома, гаворка не толькі пра змест — тут увогуле А. Пісьмянкоў нікога не паўтарае. Маю на ўвазе кампазіцыйную стройнасць, узважанасць радка і настрой — сакрэты стварэння яго тлумачэнню наўрад ці паддаюцца, — што перадаецца чытачу ад аўтара.

*Пацукбург — мышэй сталіца —*
*Стаў часцей ён Ваську сніцца.*
*Чуў калісьці ён ад дзеда,*
*Што там слаўныя абеды,*
*Але сам не быў ні разу —*
*Не хапае ў Ваські часу:*
*То мультфільмы, то камп'ютэр,*
*То Барбос ганяе люты.*
*А было б, відаць, няблага*
*Адшукаць старую шпагу,*
*Ды ў мышыную сталіцу*
*Мушкецёрам заявіцца,*
*Пазнаёміцца з чароўнай*
*Каралеўнай Пацукоўнай.*

А яшчэ А. Пісьмянкову ў гэтым творы ўдалося ўдала спалучыць самыя розныя "пласты". З аднаго боку — традыцыйны матыў Ката як персанажа, які заўсёды палюе, каб здабыць сабе спажыву. Поруч жа элементы сучаснасці — Васька не абы-хто, а кот "вучоны": і мультфільм любіць паглядзець, і за камп'ютэрам бавіць час... Нарэшце, паколькі ён хоча стаць мушкецёрам, відаць, і кнігі чытае, пра "Трох мушкецёраў" А. Дзюма чуў.

Невялікі верш, а як шмат асацыяцый выклікае! Калі ў дарослага чалавека, дык у дзяцей — тым больш, а гэта яшчэ адно яскравае сведчанне, наколькі А. Пісьмянкоў уважліва ставіцца да напісання твораў для дзяцей: ён іх не "выдумляе", а старанна ўзважвае загадзя, як тая ці іншая сітуацыя можа, павінна ўспрымацца дзецьмі. Калі гэта прадумаць своечасова, перш чым узяцца за пяро, "праколаў" не будзе. І ў правільнасці падобнага шляху пераконвае пераважная большасць твораў, што ўвайшлі ў зборнік, незалежна ад таго, кампазіцыйна яны больш разгорнутыя, ці літаральна ў некалькі радкоў, хоць А. Пісьмянкоў увогуле не прыхільнік доўгіх вершаў, і не толькі ў дзіцячай, а і ў паэзіі "дарослай".

Для прыкладу, верш "Хлус у доктара" — надзіва лаканічны:

*...І сказаў мне: "Ну-с"*
*Вухагорланос,*
*І дыягназ ХЛУС*
*Мне ў квіток занёс*
*Вухагорланос.*

А "Скорагаворка" — тым больш:

*Басака*
*Зусім не кусака.*
*Басака*
*Зусім не бяка:*
*Басака —*
*Вясёлы сабака.*

Не пакінуць дзетак абыякавымі і вершы "Добры певень", "Антон Батонавіч", "Бабчыны дранікі", "Невучоны кот", "На канцэрце"... А побач не менш цікавыя — "Зайцаў хлеб", "Ласуны", "Цымбалы", "Ляснік"... Дык, па праўдзе кажучы, у А. Пісьмянкова слабых твораў няма, але гэта, калі падыходзіць да напісанага ім з пункту гледжання літаратурнага майстэрства як катэгорыі ацэначнай. Калі ж зірнуць на іх вачыма дзяцей, дык сёе-тое ім падасца ўскладнёным для ўспрымання і разумення, хоць у мастацкіх адносінах і бездакорнае.

Найперш гэта тычыцца верша "Азяблая Мядзведзіца":

*Азябла неба ад зімы,*
*Прылегла неба на дымы.*
*Вялікая Мядзведзіца*
*Ад радасці аж свеціцца:*
*На дзедавай хароміне*
*Прыгрэлася ля коміна.*

Мастачка Алена Лось афармленне "Ласуноў-веселуноў" выканала таксама бездакорна.

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

ВЕЧАРЫНЫ

# А паэзія ўсё ж жыве

У гэтым можна было лішні раз упэўніцца, завітаўшы ў Дом літаратара, дзе праходзіла вечарына, прысвечаная 80-годдзю з дня нараджэння Пімена Панчанкі. Дарэчы, гэтай вечарынай адкрыўся ў Доме літаратара чарговы сезон. У такім разе можна спадзявацца, што пройдзе ён належным чынам, бо пачатак добры. Зала была настолькі перапоўнена, што не ставала вольнага месца нават у праходах. І што ўсцешна, дык тое, што на вечарыну прыйшло шмат моладзі.

Адкрыў вечар Генадзь Бураўкін. І Генадзь Мікалаевіч, і іншыя выступоўцы — народны паэт Ніл Гілевіч, а таксама Мікола Аўрамчык, Сяргей Грахоўскі, Аляксей Слесарэнка — гаварылі пра П. Панчанку не толькі як пра творцу, а і як пра чалавека. І гэта невыпадкова, бо ён так хараша жыў як і тварыў, і цудоўна тварыў, як і жыў. А што такое паэзія Пімена Емяльянавіча прысутныя і змаглі пераканацца ў гэты вечар. І дапамаглі ім у гэтым народны артыст СССР Ігар Лучанок, народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, спявак Іван Краснадубскі, піяністка Элеанора Тумас...

**Н. К.**

## Семнаццаць кніг у... адной

Выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі выпусціла ў серыі "Школьная бібліятэка" кнігу паэзіі "Семнаццаць песень", складзеную Янкам Сіпаковым. У прадмове да яе Міхась Кенька піша, што "гэта анталогія твораў беларускіх паэтаў першай паловы дваццатага стагоддзя. Паэтаў, якія нарадзіліся, гадаваліся, сталі творцамі менавіта ў дваццатым стагоддзі... Цяпер, калі стагоддзе гэтае завяршаецца, як не азірнуцца, не згадаць, што за паэтычныя зоркі свяцілі на яго небасхіле, водблеск пачуццяў, думак, перажыванняў якіх сягае і да нашых дзён. Як тут не згадаць і пра само дваццатае стагоддзе — бурнае, густа насычанае самымі разнастайнымі падзеямі — ад высакародных, светлых, якімі чалавецтва будзе ганарыцца, да ганебных, брыдкіх, на якія хацелася б найхутчэй забыцца".

У адной кнізе па сутнасці прадстаўлена 17 самастойных зборнікаў, аўтарамі якіх з'яўляюцца такія непадобныя між сабой творцы, як Уладзімір Дубоўка, Пятро Глебка, Алесь Звонак, Сяргей Дзяргай, Максім Лужанін, Аляксей Зарыцкі, Васіль Вітка, Анатоль Астрэйка, Аляксей Русецкі, Сяргей Грахоўскі, Міхась Калачынскі, Алесь Бачыла, Кастусь Кірэнка, Мікола Аўрамчык, Пятро Прыходзька, Аляксей Пысін, Анатоль Вялюгін.

## "Беларускі гістарычны агляд"

Выйшаў з друку чарговы, шосты за тры гады, сшытак часопіса "Беларускі гістарычны агляд" — адзінага ў краіне прыватнага гістарычнага перыёдыка.

Нумар адкрывае артыкул Святланы Марозавай "Берасцейская унія і этнічная свядомасць беларусаў". Ён — адна з нешматлікіх публікацыяў, што з'явіліся ў беларускім друку з нагоды 400-годдзя падпісання уніі.

Малараспрацаваную тэму абраў і аўтар артыкула "Базыліяне на землях Вялікага княства Літоўскага" Сяргей Клімаў. Гісторык даследуе ролю ордэна і каталіцкай царквы ў фарміраванні беларускай інтэлектуальнай эліты ў XVIII—XIX стагоддзях.

Раздзел артыкулаў замыкае праца Бернгарда К'яры "Гісторыя як паслядоўнасць катастроф. Беларускі рэгіён як акупаванае грамадства 1939—1944/47". "...зону акупаванага грамадства нельга асвяціць ні савецкімі чорна-белымі выявамі ды атаясамленнем складаных стратэгій выжывання са здрадаю радзіме, ні з'яўленнем у гістарыяграфіі новых нацыяналізмаў". Гэтая фраза, якой нямецкі даследнік канчае сваю працу, найхутчэй будзе, як і ўвесь яго́ны твор, без захаплення ўспрынята часткаю чытачоў. Але тым больш цікавым падаецца артыкул іншым.

"Прычыннасць у гісторыі" і "Марксісцкая гістарыяграфія: ад гістарычнага матэрыялізму да крытычнай антрапалогіі" — гэтыя працы нямецкага і англійскага гісторыкаў яднае жаданне іх аўтараў вызначыць ролю аб'ектыўнага і суб'ектыўнага як у сусветнай гісторыі, так і ў справе яе даследавання.

Гісторыю нашай краіны вывучаюць не толькі айчынныя, але і замежныя навукоўцы. З асобаю аднаго з іх — прафесара гісторыі Пітсбургскага (ЗША) універсітэта Міхаіла Чарняўскага і з яго працамі — чытачоў знаёміць Міраслаў Філіповіч (Польшча) у артыкуле "Міхаіл Чарняўскі і яго канцэпцыя гісторыі Русі і Расіі".

Наступныя дзесяць матэрыялаў нумара — агляды і рэцэнзіі новых гістарычных выданняў Беларусі, Вялікай Брытаніі, Літвы, Польшчы, Нямеччыны.

Апошні раздзел "Беларускага гістарычнага агляду" складаецца з паведамленняў аб канферэнцыях гісторыкаў, што летась адбыліся ў Беларусі, Нямеччыне і Польшчы.

**У. П.**

*Больш падрабязную інфармацыю аб выданні чытачы могуць атрымаць у рэдакцыі "БГА", адрас якой: 220072, Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, тэлефоны (017) 268-54-21, 268-48-93.*

ПАЭЗІЯ

Эдуард АКУЛІН



# "Памяць дзяцінства майго..."

## Парог

*Ад пачатку — пачатак. Бог,*
*што на кожнай зямной дарозе*
*папярочкі усклаў Парог —*
*крыж для ўсіх, хто спачыў у змозе.*
*На парозе чужым — не грозяць.*
*За парогам сваім — не спяць...*
*У парозе — качэргаў шоргат,*
*што ля печы павек стаяць.*
*Аб парог спатыкнуцца — значыць*
*недажыцьмеш наступны год...*
*Сніць парог — прычакаць удачу.*
*Мыць парог — шанаваць свой Род.*
*Перад тым, як пакінуць хату,*
*па вяртанні з усіх дарог,*
*пакланіся яму, ён варты —*
*ён пачатак і скон — Парог.*

## Сітнік

*Пагрозны выгляд падводных вояў*
*здалёў разгледзець адзін ракітнік,*
*таму на бераг таропка выбег —*
*далей ад дзідаў, што выгнаў сітнік.*
*Тут сойм саміны са снамі ў сонме.*
*Для сома сітнік — рачны асіннік...*
*Абкруціць вусам камель у стоме*
*і спіць да ночы — варушыць сітнік.*
*Лілея млее — як плёс змялее,*
*хто вызваляцьме яе з няславы?..*
*Без страху выйдзе на бітву з Глеем*
*адважны рыцар рачной дзяржавы.*
*Усюдыісны віровы Пільнік.*
*Радысць "зялёных" — азёрны Сітнік.*

## Нерат

*Дзе твой зад, мабыць, там дзе перад...*
*Знаць не марна сярод людзей*
*кажуць: "Трапіў, ну, як у нерат —*
*на ратунак няма надзей.*
*Твой лазова-драцяны верад*
*быў турмой акунёвых зграй.*
*Рак-турэмшчык дарэмна верыў,*
*што знайшоў тут жаданы рай...*
*У цябе не ўваходзяць двойчы.*
*Ты — бермудфіліял ракі...*
*Нораў твой — згаладала-воўчы.*
*А віноўцы, што ты такі, —*
*рыбакі.*

## Пачына

*Плыткі човен з ракой лучыла.*
*Мазалямі смылела ў снах...*
*Падпаветны прамень — Пачына,*
*недасяжна-віровы страх.*
*Ты — драўляны плыўнік для лодкі.*
*Ты — крыло для маёй душы...*
*Пах аеравы, дух салодкі,*
*вадамер залатых вышынь.*
*Стан твой тонкі — амаль дзявочы.*
*Строй твой — ясеневы, густы.*
*Помніш поўню купальскай ночы,*
*што разбіла на яскі ты?*
*Не вяслом — а пачынай лёгкай*
*праўлю човен свайго жыцця...*
*Ці уздых, ці узмах высокі —*
*прага новага — адкрыцця!*

## Лівень

*Летні лівень спаймаў дзяўчо*
*у палон неспатольных ліній.*
*Па-мастацку абвёў плячо,*
*грудзі, клубы, бутон юргіні...*
*На ружовых пялёстках вуш*
*запаліў завушніцаў зоркі.*
*Лівень — ён не лянівец-муж —*
*лашчыць зранку да адвячорку...*
*Выцалоўвае кожны рух.*
*Выпрабоўвае ўсё на спотык...*
*Лівень — Вішня з мільёнам рук —*
*далікатны, як першадотык.*
*Лівень — знаўца найрайскіх зон*
*і гатовы разбіцца вобзем*
*за прызнанне, што толькі ён —*
*Дон Жуан да апошняй кроплі.*

## Дзябла

*Пэўна ёсць нешта ў ім ад д'ябла...*
*Яго сутнасць — схавана ў сець.*
*Дзед дзяўбе, нібы дзяцел, дзябла.*
*Дух ліпнёвы — на ўсю павець.*
*Дзябла — золак ад рос азяблы.*
*Дзябла — дзень, як змялелы Сож.*
*Дзябла — вечар ашчэрыў жабры —*
*акунём на рыбацкі нож...*

*Часам — дах ад дурной хмурыны.*
*Назаўсёдны — аерны пах.*
*Патаемны азарт звярыны.*
*Рыбнагладны дзіцячы страх.*
*З дзяблам, быццам з надзейным сябрам,*
*скрозь з уловам вяртаць дамоў...*
*Без яго — не злавіць і жабы —*
*нат на сподзе рыбацкіх сноў.*

## Зугаліна

*Лета бабіна навальніцай*
*трызніць поўднем, што спёкай мгліцца...*
*Сцежка. Ровар. Зіхцеюць спіцы —*
*на багажніку — мех з іглiцай.*
*Для зугаліны — ад завеяў,*
*ад калядных вятроў і сцюжы.*
*Я — дашкольнік, а разумею —*
*без зугаліны хата — нужнік...*
*Эх зугаліна! З лесу Сталіна.*
*"Петачкі" пад гармонь да раніцы.*
*Хата дзедава — як прыталена.*
*На зугаліне — лепш кахаецца...*
*Ані шышкі ў прыпол, ні шыгалі —*
*змураваны падмурак муліцца...*
*Скрозь зугаліну вёска дыхала.*
*Без яе — ссірацела вуліца.*

## Гужы

*Гожая назва у іх — гужы...*
*Скажаш — і засмяешся.*
*Нібы з лаўжоў прыпаўзлі вужы,*
*леглі ў разорах грэшча...*
*Гуж у руках — падмануты муж.*
*Гуж разарваны — сварка.*
*Стомлены, потны ад працы гуж —*
*бульба, дакопкі, чарка.*
*Гожая назва — спрабуй, кажы —*
*рот без зубоў здаецца...*
*Памяць дзяцінства майго — гужы.*
*Памяць — яна не рвецца.*



*Фота К. Дробава*

ПРОЗА

ЯНЫ ВЯРНУЛІСЯ пад вечар, загарэлыя, радасныя. Адпачынак на Браслаўскіх азёрах, відавочна, пайшоў ім на карысць. Дачка, крутнуўшыся туд-сюд, адразу пабегла да сябровак хваліцца загарам. Сын засеў за тэлефон... А муж пачаў распакоўваць чамаданы: гэта — памыць, гэта — у шафу. Пачыналася звыклая будзённасць.

— Ну, усё!.. Чамаданы можна на балкон.

— А гэта? — яна позіркам паказала на нешта груваcткае, абгорнутае шчыльнай шэрай паперай, перавязанае тоўстым шпагатам. — Што ў цябе там?

Муж марудзіў з адказам, потым нешта мармытнуў невыразнае, пачаў развязваць шпагат.

— Ты толькі не смейся, Надзя, — сказаў ён. — Я зусім нечакана адкрыў у сабе талент.

— Цікава? Што ж гэта за талент такі? Ёй сапраўды стала весела. Ейны муж, Аляксандр Сямёнавіч Вячорка, быў даволі звычайным сухаватым чалавекам. Праўда, гэта не замінала яму загадваць аддзелам у даследчым інстытуце, своечасова абараніць дысертацыю на нейкіх рэдкіх мінералах, і вось на табе... талент!

— Угу-у... На самай справе, — Аляксандр Сямёнавіч, нібыта ў нечым апраўдваўся. — Нейкі ген ува мне ўзяў і выбухнуў! — ён усё разгортваў і разгортваў паперу. — І ўяўляеш, атрымалася! Першы раз узяўся за пэндзаль, а такое адчуванне, быццам усё жыццё толькі гэтым і займаўся! Адным словам, глядзі і ацэньвай.

Ад нечаканасці яна адхiнулася. З грудкі папер вытыркалася бліскучая жоўтая рама, а ў раме... Так, гэта быў партрэт незнаёмага ёй чалавека на фоне невыразнага кустоўя, у поўны рост. І першае, што ёй кінулася, — вясёлы, нават гарэзлівы позірк незнаёмца, які, нібыта казаў: "Ну вось ён, я... Такі, які ёсць. Будзем знаёмы!"

А муж удакладніў:

— У пансіянаце нашыя нумары былі побач. Ён, можна сказаць, мяне і падбухторыў паспрабаваць. Нават пагадзіўся пазіраваць! — і дадаў. — Табе гэта спадабалася? — ён не адважыўся тое, што было ў раме, назваць партрэтам. Хаця, партрэт, як ні дзіўна, атрымаўся, і яна не пакрывіла душою.

— Вельмі сімпатычны твар... Думаю, гэтую раму трэба некуды павесіць.

— Давай, у тваім пакоі, — радасна прапанаваў муж. — Калі табе спадабалася, хай гэта будзе маім падарункам.

... І вось ужо рама прымацавана да сцяны ў яе маленькім пакойчыку. Яна ўпісалася ў агульны інтэр'ер. Нават у позірку незнаёмца, які, нібыта толькі што вылашаў з-за кустоўя, як ёй здалося, заіграла штосьці ўхвальнае: "А нішто... Нішто.. Мне тут, увавіце, вельмі падабаецца!" Але на раме асабліва не засяроджваліся: павесілі, дый павесілі! Да таленту Аляксандра Сямёнавіча, які так нечакана раскрыўся ў ім, таксама больш не вярталіся. У іхняй кватэры запанавау звычайны душны вечар яшчэ спякотнага жніўня, размешаны з радасцю вяртання, сустрэчы, тых дробных прыемнасцей, якія ўсе спяшаліся выліць з сябе.

Надзея Паўлаўна Вячорка любіла сваю сям'ю, ганарылася дзецьмі і была даволі-такі прывязана да мужа. Таму, калі, нарэшце, апынулася ў сваім пакоі, адчувала сябе шчасліва-прытомленай. Першае ад таго, што ўсе сабраліся дома, а другое... Прытомленасць нярэдка бывае прыемнай, тым больш, калі ведаеш, што хутка забярэшся пад лёгкую коўдру, перагорнеш старонку-другую нейкага інтрыгуючага чытання. У іх з Аляксандрам Сямёнавічам ужо даўно не было той ранняй маладой страсці, што ўкінула іх аднойчы ў гарачую бездань, з якой яны паступова вынырвалі. Пасля вячэры разыходзіліся па сваіх пакоях. І ўжо толькі час ад часу, звычайна пад раніцу, ён прыходзіў да яе. Без асаблівага палу цалаваў шчокі, плечы... Напэўна, так будзе і гэтай ноччу.

Яна нетаропка расшпільвала гузікі камізэлькі і ў нейкі момант рука замерла... Ззаду пачуўся выразны шоргат і адразу лёгенькі стук, быццам хтосьці знекуль саскочыў. Потым — крокі: адзін, другі.. Хутка азірнулася. Ёй хацелася закрычаць дзіка, на ўвесь голас, але дух заняло. Павяла позіркам у бок рамы... Невыразнае кустоўе нагадвала пляму, якая выцягнулася, расплылася, а той, хто быў намаляваны на яго фоне, стаяў перад ёю. Ёй чамусьці схацелася ўпасці, уціснуцца ў мяккі пушысты дыванок на падлозе, толькі б не бачыць гэтай збянтэжанай усмешкі. Але яна не ўпала, по-

Раіса БАРАВІКОВА

# ТЫ, Я І ВАЛОДЗЯ

АПАВЯДАННЕ



зіркі іх сустрэліся... Ну, вось зараз... Зараз ягонае абліччa зменіцца і яна пабачыць штосьці такое, што можа ўявіць толькі нездаровая псіхіка. Але з псіхікай да гэтага моманту ў яе ўсё было нармальна, і ў абліччы незнаёмца нічога не мянялася. Ён толькі злёгку пасміхнуўся, як ёй здалося, вінаватай усмешкай.

— Я вас напалохаў? Далібог, не хацеў гэтага, — ён гаварыў пранікнёна, прыемным мужчынскім голасам. — Не трэба мяне баяцца, вам нічога не пагражае. Мне чамусьці захацелася прадставіцца, — і ён зрабіў яшчэ адзін крок. — Валодзя... Для вас проста Валодзя.

У яе не было слоў. Але першае здранцвенне прайшло і яна захінула твар рукамі. Ну, вось зараз... Зараз... ён накінецца на яе. У тым, што пад гэтым прыемным абліччам была пачвара, монстр не з гэтага свету, яна не сумнявалася. Ён лёгенька ўздыхнуў:

— Даруйце... Мне не трэба было сыходзіць з рамы... Я... Я... Добрай ночы.

Калі яна адняла далоні ад твару, яго ўжо не было перад ёю. Хутка зірнула на раму... Незнаёмец быў там на фоне невыразнага кустоўя, як і некалькі хвілін да гэтага. І тут яна закрычала, на злом галавы кінулася з пакоя і, калі ўжо ляжала побач з мужам, думала... думала... “А, можа, яно і добра, што Саша не пачуў гэтага ейнага крыку. Што б яна сказала яму?! Хіба можна паверыць у такое? І ўсё ж гэта было не насланнё. Пакуль я тут, з Сашам, ён, той, у раме, зусім не страшны, — запэўнівала яна сябе. — Ён не пасмее з’явіцца сюды. Ну, а заўтра... Заўтра яны з Сашам выкінуць гэтую раму, раструшчаць, парвуць на часткі...”

І вось прыйшло тое заўтра. Яшчэ палетняму ясна заднела ў акне. Яны трошкі заспалі, а ў Аляксандра Сямёнавіча быў першы пасля адпачынку працоўны дзень. Ён мітусіўся, насіўся з пакоя ў пакой, ляпаў нейкімі дзверцамі, шумеў, патрабаваў: “Дзе дэзадарант? Падай кашулю ў сінюю палоску! Чаму так кепска адпрасаваны каўнерык?! Не бачу свайго сіняга гальштука! Занадта многа цукру ў каве! Колькі разоў казаць, не рабі бутэрбродаў з сырам!” А ў ейнай галаве ўсё круцілася і круцілася злашчасная рама. І, нарэшце, яна ўсё-такі вынайшла паўзу:

— Саша, а Саш... Учора кінула вокам... Далібог, не ўпісваецца гэтая рама ў маім пакоі. Муляе позірк.

Аляксандр Сямёнавіч зморшчыўся, адмахнуўся:

— Бач, рама ёй муляе! Ды кінь ты... Мяне распірае талент! І першае, што паспрабаваў зрабіць, я падарыў табе... — Падумаў. — Ты сёння ў якую змену?

— У другую.

Надзея Паўлаўна працавала пазменна тэхнолагам на заводзе медыцынскіх прэпаратаў.

— Тады пакуль! Пабег... Хацеў цябе падвезці.

Яна прысела да століка на кухні. Па целе ўжо блукаў страх, а, калі раздумацца, чаго яна баіцца? Магчыма, гэта была проста гульня ўяўлення?! Нейкая падсвядомая фантазія. Зусім побач, у сваім пакоі спяць дзеці. За акном — людзі. Вось спыніўся на іхнім паверсе ліфт. Усё нармальна, а яна штосьці сабе прыдумала. Трэба паставіць чайнік, ды нечым заняцца. Устала, падышла да пліты, але за чайнік узяцца не паспела. Па спіне прабег халадок. Яна выразна чула лёгкія, асцярожныя крокі. Вось яны зусім побач. Патыліцай адчула гарачае дыханне. Адхінулася. Божа, які кашмар! Зноў ён... з рамы, і ўжо ставіў на пліту чайнік, паварочваўся да яе:

— Будзеце каву ці чай? Даўно не падносіў жанчыне кавы. Ну, ідзіце... Сядайце за стол.

Яна не магла выцiснуць з сябе ні слоўка, толькі, калі пачула ад яго: “І, як вы яму такое дазваляеце?! Ён тут усю раніцу раздаваў свае загады, быццам вы за наймічку ў яго! Проста не муж, монстр нейкі. Я ледзь сябе стрымліваў! Хацелася выскачыць з рамы і даць яму па мордзе!”. Ну, ці ж магчыма гэта?! Ёй захацелася разрагатацца вар’яцкім смехам, ці наадварот, зайсціся ў плачы, адчайным і нястрымным. Але такая ўжо істота чалавек, ён вельмі хутка да ўсяго прывыкае, з усім звыкаецца. Больш таго...

Праз некалькі тыдняў Надзея Паўлаўна не зайшла, а ўляцела ў свой пакой і не паверыла вачам: на тумбе ў агромністай керамічнай вазе стаялі астры. Колькі ж іх, гэтых махрыстых цудаў ужо прывялага верасня?! У позірку іграла такая радасць, што яна й не пачула лёгкага шоргату. А потым быў дотык, бы хтосьці цалаваў закручаную ў завіток пасмачку. “Валодзя!” — затрапятала дыханне.

— Адкуль астры? — яна павярнулася да яго.

— Гэта ўсё, пра што табе хочацца запытацца? — ён узяў яе рукі ў свае. — Я сумаваў... Чакаў і чакаў цябе.

— Надзя-я-я! Надзя-я-я!

Гэта быў голас Аляксандра Сямёнавіча і, калі б Валодзя імкліва не адскочыў за дзверы, Аляксандр Сямёнавіч перажыў бы не лепшы момант свайго жыцця.

— Чым тут можна займацца?! Няўжо нельга пачуць?

Яна міжволі заступіла яму дарогу.

— Ты некуды сабраўся? Зноў нацягнуў гэты жахлівы берэт!

Выгляд у Аляксандра Сямёнавіча быў няшчасны. І чорны берэт, які бліном трымаўся на ягонай галаве, толькі падкрэсліваў гэта.

— Паспрабую заняцца пейзажам... Трэба ўзяць некалькі ўрокаў. Мяне пазнаёмілі з мастаком-прафесіяналам. — І дадаў кісла. — З партрэтам Міхейчыка ў мяне нічога не атрымалася.

Міхейчык быў супрацоўнікам аддзела, якім загадваў Аляксандр Сямёнавіч. У той дзень, калі муж сказаў ёй, што бярэцца за ягоны партрэт, яна не без іроніі падумала, “Што будзе, калі яшчэ адна рама з’явіцца ў іхняй кватэры?!” І вось, дзякуй Богу, партрэта не атрымалася, ад чаго Аляксандр Сямёнавіч і пакутаваў цяпер.

— Вярнуся позна, — сказаў ён. — На вячэру згатуй што-небудзь, каб было лёгка разагрэць.

Яна згодна кіўнула і ён пайшоў. Крокі Аляксандра Сямёнавіча былі цяжкімі і нервовымі. Надзея Паўлаўна з радасцю павярнулася да Валодзі.

— Ніякай яму вячэры! — у Валодзевым голасе трымцела раздражненне. — Мы таксама куды-небудзь сыдзем. У нас вольны вечар!

Яна сама падумала пра гэта, як толькі за Аляксандрам Сямёнавічам зачыніліся дзверы.

— Мастак ...уеў! — Валодзя не мог супакоіцца. — Ты паглядзі на мае рукі. У мяне ж пальцы піяніста! А ён, што намаляваў? Сасіскі нейкія. Калі я залажу ў гэтую раму, у мяне такое адчуванне, быццам нацягваю на рукі баксёрскія пальчаткі!

Надзея Паўлаўна засмяялася, бо й сама не верыла ў здольнасці Аляксандра Сямёнавіча. Ну, а што да Валодзі, да ягонага партрэта... тут проста, што называецца, шчаслівая выпадковасць.

— Дык я пайшоў?

— Куды? — здзівілася яна.

— У раму! Ты ж будзеш займацца макіяжам, будзеш пераапранацца... Потым вырашым, куды нам з’ехаць.

А яна ўжо вырашыла. Яны паедуць да ейнай сяброўкі. Вось толькі б не заспелі іх на выхадзе дзеці, што разышліся пасля школы па нейкіх сваіх справах.

Праз якую гадзіну яны ўжо ехалі ў гарадскім таксі. Надзея Паўлаўна пазірала на прыгожыя Валодзевы рукі і думала пра мужа. “Які ўсё-ткі ён няўважлівы! Зазірнуў у пакой і нават не заўважыў букета астраў. Ды што астры? Ужо колькі часу яна матыльком лётае па кватэры ў кароценькім шаўковым самым што ні ёсць сапраўдным японскім кімано з жоўценькім дракончыкам на спіне, а ён нават не запытаўся, дзеля чаго такі экстравагантны ўбор?! А мяккія атласныя пантофлікі на абцасіках? А гэтая прычоска “пад хлопчыка”, што так удала падкрэслівае прыгажосць плячэй і шыі? Не, Аляксандр Сямёнавіч ніколі не зможа стаць мастаком, — заключыла яна. — Поўная адсутнасць усялякай назіральнасці!” І больш да думак пра мужа яна ўжо не вярталася ўвесь вечар. А вось пра Валодзю думала... Сяброўка адразу ж у першы зручны момант шапнула ёй на вушка: “Дзе ты яго падчапіла? Такі абаяльны і рэспектабельны!”...

Валодзя сядзеў у крэсле, час ад часу браў у рукі тонкі кілішак, адпіваў маленькімі глыточкамі духмяны напой. “Яму можна даць і трыццаць, і сорак пяць гадоў, — думала яна. — Выключна няпэўны ўзрост. І чымсьці няўлоўным нагадвае ён Дзіна Рыда, калісьці вядомага спевака, якога яшчэ памятае яе пакаленне. А ўвогуле, у ім штосьці ёсць ад мексіканца”. Яна ўпершыню бачыла, каб так грацыёзна на адлёце мужчына трымаў руку з цыгарэтай, над якой у лёгкія кольцы згортваўся дым. Яна сачыла за гэтым дымком, прымружвала вочы, і, бы выстрэльвала даль з бясконцасцю апаленых сонцам прэрый. З іржаннем наравістых гарачых скакуноў, дзе грывы пераблытваліся з фалдамі чагосьці паветрана-празрыстага. Ідыётка! Як ні старалася, позірк увесь час цягнуўся да Валодзі. Згадалася ягонае частае: “Ну, я пайшоў!..” “Куды?” “У раму!”.

Яна абагаўляла і разам з тым ненавідзела гэтую раму. З часоў егіпецкіх пірамід фараоны, цэзары, князі, паны, align рознага роду падпанкі ды простыя рабацягі, увесь гэты, так званы, дужы пол... Як яны здзекаваліся, у які шалёны вір укідвалі жанчыну, якія неймаверныя пакуты... Слёзы, бяссонныя ночы, адчай, рэўнасць, а то і халодная палонка, ці кропелька атруты. А ўсё аказваецца так проста... Узяць у раму! Хм-м... Цэзар у раме! А разам з тым... Ну, рама... Бліштачая, жоўтая вісіць у яе на сцяне, а потым лёгенькі шоргат... Пацалунак крадком... І кожны раз боязь, што вось-вось пачуецца ненавісна-патрабавальнае: “Надзея-я!” І Аляксандр Сямёнавіч нагадае аб сваёй прысутнасці цяжкімі нервовымі крокамі. “Божа, хоць бы яго захапіў “пейзаж”, хаця б у яго штосьці атрымалася, каб ён цалюткімі вечарамі карпеў над нейкімі там сваімі накідамі!”

...Яны вярталіся дадому позна. Валодзя нячутна праслізнуў у яе пакой, а яна, ужо распрануўшыся, мімаходзь зазірнула да мужа. З густога змроку цягнула такім жа густым пахам алейных фарбаў і ацэтону. Ляснула дзвярыма, а за акном дзесьці ўжо зусім блізка завязваліся дні кароткага і асляпляльна-бліскучага бабінага лета. Яна купіла дачцэ ролікі, сына ўладкавала на нейкія камп’ютэрныя курсы, а Аляксандр Сямёнавіч, сапраўды не на жарт захапіўшыся пейзажам, адразу ж пасля працы ехаў за горад з эцюднікам на “эцюды”. А яна з Валодзем... О, гэтыя дзве-тры гадзіны на ўтульным балкончыку, дзе яшчэ не адвялі, пасаджаныя вясною настуркі і чарнабрыўцы. Далёка ўнізе ў нейкай здранцвелай нерухомасці дрэвы дазвалялі сонцу кранаць свае кроны вясёлымі блікамі, магчыма, яны лавілі і пах кавы, што расплываўся па балконе. Надзея Паўлаўна церлася шчакою аб Валодзева плячо, расшпільвала верхні гузік ягонай кашулі, губамі прыціскалася да ледзь прыкметнай пульсуючай жылкі на ягонай шыі... Ён любіў падстаўляць ёй свае каленка. Яна садзілася на яго, сціскалася ў камячок і замірала...

Там, унізе, напружваўся, дыхаў жыццёвы хаос... Левыя, правыя, камуністы, цэнтрысты, лібералы, радыкалы, народны фронт, пікеты, мітынгі... А ў яе — Валодзя! Маленечкая радасць маленькай жанчыны ў кароценькім шаўковым кімано. Аўторак змяняла серада, сераду — чацвер... Дні наскоквалі адзін на адзін, пакуль нечакана не ўперліся ў дажджыстыя ветраны адвячорак. Надзея Паўлаўна, у які ўжо раз, натхнёна заварвала каву на кухні, звінела посудам...

— Ну, колькі можна заварваць гэтую каву! — Аляксандр Сямёнавіч выглянуў са свайго пакоя. — Ты што там, аппіваешся ёю ў сваім пакоі?!

— Ты... Ты дома? — яна, нібыта толькі цяпер успомніла пра існаванне мужа і пайшла на ягоны голас, дзеля цікавасці зазірнула ў пакой. — А, як жа твае эцюды?

— Ага-а, эцюды! Ты паглядзі, што ўсчалося ў прыродзе! У мяне рукі калеюць...

Ёй здалося, што ён вось-вось расплачацца. Але Аляксандр Сямёнавіч не расплакаўся, наадварот, падхапіў з падлогі нейкі мазаны-перамазаны ватман і пачаў з ярасцю рваць яго на дробныя кавалачкі, шпурляючы іх проста ў ейны твар...

— На!.. На!.. Мае эцюды!... Любуйся!..

У іншы момант яна, несумненна, пакрыўдзілася б на яго, цяпер жа, наадварот, схацелася суцешыць, і гэтае суцяшэнне з’явілася вельмі хутка, бы хтосьці падказаў ёй.

— Саша... Што ты так распаляешся! — нават ласкава сказала яна. — Бывае... Не атрымаўся ў цябе пейзаж, паспрабуй узяцца за нацюрморт!.. І нікуды ехаць не трэба з эцюднікам, галоўнае, скампанаваць удалую кампазіцыю.

Твар Аляксандра Сямёнавіча засвяціўся.

— А, што ты думаеш... — з радасцю ўхапіўся ён за ідэю.

І вось прайшло некалькі дзён. Надзея Паўлаўна вярталася з першай змены і адна-адзіная думка трывожыла яе. Тое, што Аляксандр Сямёнавіч возьмецца за нацюрморты, яна не сумнявалася, а вось дзе ён засядзе за іх? Хоць ты вазьмі, ды здымі яму нейкі пакойчык, каб ён і начаваў там!” З гэтай сваёй трывогай яна і ўвайшла ў кватэру і, як жа была здзіўлена, пабачыўшы Аляксандра Сямёнавіча, які з ліхаманкавым бляскам у вачах, кінуўся да яе.

— Узяў адгул! — на вялікім пад’ёме паведаміў ён. — Ты мела рацыю... Цудоўны нацюрморт атрымаўся!

— Ну і дзе ж ён, твой нацюрморт? — яна чамусьці падумала пра Валодзю: “Бедны мой! Калі Аляксандр Сямёнавіч увесь гэты час быў дома, у Валодзі не было ніякай магчымасці вылезці са сваёй рамы...”

Аляксандр Сямёнавіч падхапіў яе плашч:

— Уяўляеш, выпадкова зайшоў у твой пакой. Падышоў да акна, а там сцяна... Сцяна суседняга дома. Астатняе я дадумаў!

— Ты не расказвай! — у ёй закіпела незадаволенасць. — Проста вазьмі і пакажы мне.

— Тады пойдзем... Нацюрморт там... У тваім пакоі.

І яны пайшлі ў яе пакой... Аляксандр Сямёнавіч павёў рукою ў бок рамы:

— Вось... Нічога трапнага не знайшлося, дык я...

Надзея Паўлаўна ашаломлена глядзела на раму, у якой яна раненька пакідала Валодзю. Цяпер жа ў ёй быў шэры квадрат сцяны з мёртвым аранжавым матыльком і нейкім цьмяна-жоўтым акраўкам накшталт кляновага лістка.

— Дзе партрэт?! — яна яшчэ не зусім усвядоміла, што адбылося, але ў горле перасохла да хрыпення і слабасць разлівалася па целе.

— Я... Я замаляваў яго! Ты ж сама казала: “Не ўпісваецца!.. Муляе...”

Надзея Паўлаўна яшчэ раз зірнула на раму... Ёй раптам схацелася накінуцца на Аляксандра Сямёнавіча з кулакамі і біць, біць, біць яго, але замест гэтага яна, як падкошаная, упала на канапу і разрыдалася, па-жаночы, няўцешна і горка.

## Невядомае — у вядомым

**Вечар старадаўняга рускага раманса сабраў амаль поўную залу слухачоў. Нязменную папулярнасць гэтага жанру ў нашай публікі пацвердзіла ва ўступных словах і вядучая канцэрта — музыказнаўца Ала Агаркава. Але, прызнацца, збіраючыся ў залу камернай музыкі, я з сумам чакала пачуць які ўжо раз чутыя "шлягеры", накшталт "Чырвонага сарафана" ці "Салаўя". Я амаль не памылілася. Але даўно знаёмым творам трэба было прагучаць яшчэ раз, каб дзякуючы майстэрству выканаўцы мне адкрылася іх чароўнасць.**

**Мецца-сапрана, тэмбр, звычайна схільны да празмернай пачуццёвасці і перабольшанага вібрата глыбокага груднога гуку, у салісткі Беларускай дзяржаўнай філармоніі Ніны Цішко (у суправаджэнні канцэртмайстра У. Міхневіча) гучаў дзівосна чыста і пранікнёна, уражваючы не меладраматычнай афектацыяй жорсткага рамансa, а высакароднасцю перажыванняў і высокай культурай выказвання пачуцця.**

**Некалі дыскрэдытаваныя цыганскай манерай выканання, што паволі пранікла на канцэртную эстраду, рамансы Н. Харыто ("Отцвели хризантемы"), М. Абухава ("Калитка") ці П. Булахава ("И нет в мире очей") у бездакорным стылі Ніны Цішко вярнулі сабе кранальную інтымнасць сардэчнай споведзі. Асабліва ўразілі астраўкі цішыні і паглыбленасці — рамансы Т. Кірэеўскай "Мираж", П. Булахава "Не пробуждай воспоминаний", — уся выразнасць якіх засяродзілася ў пяшчотных паўтанах прыглушанай дынамікі. А спакойны, з горкай паўсмешкай і без усялякага псіхалагічнага націску выкананы раманс А. Пятрова на вершы М. Цвятаевай "Генералам 1812 года" здаўся ледзьве не вяршыняй трагедыйнасці і амаль выклікаў слёзы на вачах узрушаных слухачоў.**

**У апошні час адраджаецца форма канцэрта з удзелам музыказнаўцаў. Некалі з яе пачыналі сваю асветніцкую дзейнасць Б. Асаф'еў, І. Салярцінскі, але прайшло больш за паўстагоддзе, а неабходнасць у папулярызацыі класічнай музыкі не зменшылася. І хаця нават на канцэрты "лёгкіх" класічных жанраў ходзяць хутчэй адукаваныя музыканты, чым аматары, але Агаркавай удалося не толькі падтрымаць агульную лірычную атмасферу вечара, але і здзівіць музычную эліту невядомымі ёй фактамі з гісторыі музычных твораў ды іхніх аўтараў.**

**Але галоўны цуд, безумоўна, стварала натхненне спявачкі, якая адкрывала невядомае ў даўно вядомым, прыгожае ў пабляклых ад часу і ўстойлівых манерных шаблонах. Ад самых славутых выканальніц бытавых рускіх рамансаў Ніну Цішко адрозніваюць асаблівая элегантнасць стылю спеваў і вытанчаны артыстызм сцэнічных паводзінаў.**

**Захапленне слухачоў, без сумнення, яшчэ не раз прывядзе іх у філарманічную залу.**

**Алена КАЗЛОЎСКАЯ,**
**студэнтка Акадэміі музыкі**

## Рэканструявалі клуб



**На цэнтральнай сядзібе калгаса імя Дзімітрава Драгічанскага раёна — у вёсцы Завершша рэканструявалі клуб. У выніку ён пашырыўся — дадалося яшчэ некалькі памяшканняў. Цяпер тут ёсць "гасцёўныя", танцавальная зала, пакой сялянскага побыту. А галоўнае — па арыгінальным праекце пабудаваны прасторная канцэртная зала.**

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

***Уразіла не тое, што гран-пры фестывалю "Белая вежа" з'ехаў у Вільню: сярод драматычных спектакляў летувіскі "Іванаў" выдаваў на бясспрэчны. Уразіла не тое, што сам тэатр "Вайдзілас" (тэатр акцёраў маладых і вельмі) не спалохаўся на месцы "Белай вежы" заспець вежу вавілонскую: напраўду, "Вайдзіласу" не пагражала непаразуменне! Уразіла іншае.***

***Пасля візіту "Трох сясцёр" Някрошуса на пазалеташні тэатральны фэст у Віцебску, пасля леташняга прыезду "Старэчы" Каршуноваса ў Мінск (спектаклі паводле Чэхава і Хармса), менавіта брэсцкае спатканне з літоўцамі набыло абрысы вызначанасці, пэўнасці, калі хочаце, этапнасці. Падобна, віленскі "Вайдзілас" стаў не пры канцы гэтага этапу, а на пачатку. Бо нават перамовы пра вясеннія гастролі віленскіх адмыслоўцаў у Мінску ўжо адбыліся... Каб жа толькі іх не напаткала кепская доля: за савецкім часам знакаміты маладзёжны тэатр свае мінскія гастролі адклаў назаўжды...***

***З акцёрам, рэжысёрам, а цяпер і мастацкім кіраўніком Маладзёжнага, — але ўжо і як з мастацкім лідэрам нядаўна адроджанага тэатра "Вайдзілас" Альгірдасам ЛАТЭНАСАМ выпадала размаўляць... хіба пра агульную нязбытую любоў да тэатральнай Вільні, якая раптоўна нагадала пра сябе ў Брэсце; хіба пра жаданнне творчых стасункаў; хіба пра адзінае вартае шчасце ў творчасці — паразуменне...***

***"Перад няшчасцем таксама было", — быў усміхнуўся Альгіс. — "Гэта калі сава крычала і самавар гудзеў ды гудзеў?" — "Ну ты малайчына: я так люблю гэта з Чэхава цытаваць!"***

***Калі б я не была такой малайчынай, наш дыялог выглядаў бы класічна, але завершана, як у Фірса з Гаевым: "Перад няшчасцем таксама было: і сава крычала, і самавар гудзеў ды гудзеў". — "Перад якім няшчасцем?" — "Перад воляй".***

***Становішча малайчыны абавязвала працягваць дыялог і папытаць: як жа там, на волі, годна паменаванай літоўскай незалежнасцю?***

# Яшчэ не зоркі, але на фоне волі

— Дзеці, найперш церпяць дзеці. У вас (прынамсі, у Брэсце) не бачыў, каб яны бадзяліся ад слупа да слупа ды выпрошвалі што дасі. У нас цяпер шмат бацькоў, якія спіліся, асабліва ў вёсках, ды з вялікімі сем'ямі. Атрымліваюць на дзяцей грошы, пракручваюць — на гарэлку, а дзяцей у школу не пускаюць. Малыя ўжо мусяць рабіць. Шмат бяздомных дзяцей, — на вуліцах яны "працуюць" ад слупа да слупа, збіраюць грошы з прахожых, але — арганізавана, для дарослых дзядзькоў. З гэтым варта і трэба нармальна змагацца. Інтэрнаты засталіся, дзіцячыя дамы засталіся, але ў іх не засталося і прывіду нейкай улады, нейкага права. Усе адчулі волю. А якую?..

**— У "Вайдзіласе" — учарашнія дзеці...**

— З імі я... для душы. А так паўгода ўжо кірую Маладзёжным тэатрам; Костас Смарыгінас — дырэктар! І калі толькі навучыўся так спрытна справы спраўляць ды грошы лічыць?.. З Маладзёжным проста: надышоў час, калі Эйміс Някрошус пайшоў, калі Даля Тамулявічутэ пайшла, а хтосьці мусіў прыйсці (а мусіў прыйсці Вайткус са сваім акадэмічным кірункам), — мы ж не хацелі ніякіх паўтораў. Так што мастацкім кіраўніком Маладзёжнага я зрабіўся нібы міжволі, але хочацца працаваць... *(Альгіс падшуквае слова і раптам выдае па-беларуску)* Шчырэй. Ёсць такое слова? Па шчырасці... Ды надта цяжка. Цягнуцца за намі шлейфы, хвасты...

**— Шлейфы ад Някрошуса? Хвасты ад савецкай улады?**

— Не. Не! Мы чымсьці былі (я пра ўзровень, прызнанне, творчасць). І акцёрам здаецца, што гэтае штосьці проста права не мае скончыцца. Ніколі. А яно, гэтае зорнае штосьці, канчаецца. Мы размаўлялі на гэты конт з Костасам, — каб толькі нас не раскідалі! Усё-такі Маладзёжны мы стваралі разам. І яшчэ разумеем: каб вытрымаць і жыць, нам трэба рабіць спектаклі, якія называю тэатральным хлебам. Каб у тэатра былі зборы. Фактычна, Маладзёжны ізноў пачынаецца, — хочацца вытрымаць ды захаваць людзей. Не так, як у нас у Літве шабляй махалі: разагналі калгасы, грамадскія структуры парушылі, — тая самая рэвалюцыя. Пра якую ўсё штудавалі пры савецкай уладзе. І яе памылкі паўтарылі рыхт у рыхт.

**— А што з сябе ўяўляе "Вайдзілас"?**

— Ён існаваў яшчэ да вайны. І пасля няшчасця... ну... волі, дзве трупы змяніліся, толькі памяшканне засталося. Затое знайшоўся чалавек, якому рупіў "Вайдзілас"... Тым часам у мяне з маім насампершым курсам кансерваторскім быў тэатр "Паўночныя Афіны"; у раз'ездах мы пратрымаліся два гады, памяшканне нам нават не абяцалі. Пакуль я рабіў "Паўночныя Афіны", ён рабіў "Вайдзілас". Да кансерваторыі ён скончыў будаўнічы інстытут, дык яму лягчэй было... з будаўнічымі спецыяльнасцямі. Адбудаваў памяшканне, пражэктары з Украіны прывёз і... упадабаў мой курс, але не паўночнаафінскі, а наступны, які цяпер і зрабіўся "Вайдзіласам". Такім прыватным тэатрам...

**— А на якія грошы вы жывяце?**

— Спачатку зусім на грашы. Потым з'явіўся банк "Снорас". Там, дзякаваць Богу, працуюць маладыя людзі, яўрэі, беларусы, рускія, яны сёе-тое па-свойму разумеюць, не так, як сённяшнія нашы ўлады. Летувіскія прадпрымальнікі не даюць нічога. "Снорас" ужо трэці год лічыць тэатр сваёй крэўнай справай. Квіток у тэатр каштуе чатыры даляры. Заробкі акцёраў — ля трохсот літаў, каля сямідзесяці даляраў (у дзяржаўных тэатрах акцёры маюць удвая больш). Я ім кажу: маўляў, калі не разбяжыцеся, у вас ёсць адзіная магчымасць выбіцца — працаваць. У нас ёсць добрая зала, а ўжо са сваім першым выпускам я зразумеў, што без памяшкання тэатру не адбыцца. Так, дарэчы, меркавала і Даля Тамулявічутэ.

**— Яшчэ калі кіравала вашым курсам у кансерваторыі?**

— Так, праклятай нашай дзесяткай.

**— Праклятай?!**

— Ты хочаш сказаць, што нашаму поспеху зайздросцілі? Затое як цяжка цяпер несці яго, памятаць пра яго...

**— Эймунтас Някрошус вучыўся ў Вільні, вучыўся ў Маскве; шмат хто атаясамляе адметную тэатральную мову Маладзёжнага з ім і толькі з ім. Для мяне рэжысура Някрошуса раздзялілася — на час Маладзёжнага тэатра і фестывалю LIFE, дзе перадусім вядзе рэй камерцыя. Мяркую па тваім "Іванаве" — "Вайдзілас" тэатр творчы, кірунку надзіва адметнага, тэатральнага ў лепшым сэнсе. Можна было б меркаваць пра рэжысёра Латэнаса, як пра эпігона Някрошуса, але гэта было б няпраўдаю (надта ўжо свежы, жывы спектакль).**



— Ты пра школу? Мы з Эймісам шмат працавалі яшчэ ў кансерваторыі (яго б, напэўна, выкінулі б адтуль, калі б Даля ім так не апекавалася; надта ўжо дзівіла некаторых ягонае мысленне ды няпоспехі па пэўных прадметах). Калі Даля выправіла яго ў Маскву да Ганчарова, памятаю, мне нават крыўдна было (і я хацеў). Бо ёсць акцёрскія натуры, якім заўжды мала сваёй прафесіі. Дай Даля казала, што вучэбныя акцёрскія ўрыўкі трэба афармляць нейкай рэжысурай. І Смарыгінас, і Вілкайціс (вядомыя акцёры тэатра.— **Ж. Л.**) рабілі гэта вельмі дакладна. Дарэчы, яны і цяпер ставяць, і Крысціна Казлаўскайтэ пра нешта падобнае рупіцца, а яна сур'ёзна можа. Я даўно сказаў сабе, што рэжысураю займуся, — у нас усе спектаклі ў Маладзёжным ад пачатку былі... як гэта — самаробнымі? Акцёры збіраліся, распачыналі, а потым падключалася Даля і нешта атрымлівалася. Разумею, часам не адным акцёрам, але і крытыкам карціць высветліць, хто прыдумаў сцэну, хто колькі чаго ўклаў у спектакль, але я гэтае разбіральніцтва не вітаю. Якім бы ні быў унёсак — спектакль даражэй за ўсё. Мы са студэнцкай лаўкі, паўтараю, працавалі разам. Збіралі, абмяркоўвалі тэатральныя плыні, раіліся, сварыліся, бо рупіла зрабіць і цікава, і зразумела, і нетрадыцыйна, свежа. Вырашалі кожную драбніцу... Эйміс гэта першым прыняў у сябе, перастрававаў, калі хочаш. У яго ўвайшоў і Шальцяніс (адметны драматург. — **Ж. Л.**), і школа Тамулявічутэ, і Масква, і тое, што прыносілі акцёры... Мы заўжды працавалі нароўні, толькі ён... выконваў ролю рэжысёра. Не сакрэт, што акцёры няроўныя ўнёскі даюць у спектакль; дай Бог, каб у кожнага рэжысёра былі такія акцёры-сябры, як у Эйміса. Каб неслі тое, што варта прымаць. Дарэчы, мне асабіста было цяжка асвойтацца з тым, што прыношу сцэну, а яе канчатковае вырашэнне прапускаецца праз іншага чалавека (Эйміса), што — не маё ўжо, або партнёрам не тымі словаміператлумачваецца, і я проста не магу вытрымаць у зале, таму што мы зусім пра іншае дамаўляліся... У мяне была доўгая рэжысёрская вучоба.



**— І адзіная школа...**

— Маладзёжнага тэатра. Мы ад пачатку ўсе размаўлялі на такой тэатральнай мове, якая акаляючых дзівіла; першы спектакль, які я рабіў, крытыкі да сёння не ведаюць, на якую паліцу пакласці. То былі параўноўвалі з Рымасам Тумінасам ("У вас такія гуманістычныя спектаклі"), то маўчалі...

**— Калі па шчырасці, дык мяне дзівіць (шчасліва дзівіць), што ты наважыўся прыехаць і прыехаў на беларускі фестываль менавіта цяпер. Нам пасля... пасля няшчасця на імя свабода, здаецца, што Літва тэатральная не надта імкнецца да паразу-**

мення з тэатральнай Беларуссю. Усе яшчэ памятаюць, што з ласкі Вільні "Балтыйскія тэатральныя вёсны" не надыходзяць ужо колькі гадоў...

— Дай веры, я нават Руце Ванагайтэ (LIFE) заўжды казаў, мабыць, няхай улады глядзяць выключна на Захад, мы ж не ўлады, нам вочы не запарушыла. Уяві, што першыя выезды са спектаклямі таго самага LIFE — былі ў Піцер, "на "Балтыйскі дом"; як нас прымалі! А потым, на Пушкінскім фестывалі ў Пскове! Калі не надта запрашаюць туды, куды рупіць LIFE, дык ёсць выбітныя прапановы, скажам, вандроўкі па чэхаўскіх месцах, ажно да Сахаліна. І нашы гастролі ў Мінску абсалютна рэальныя. І я тлумачу сваім артыстам: не зарывайцеся, не прагніце адразу вялікіх ганарараў, цяпер паўсюль цяжка. Дзякаваць Богу, цяпер нават LIFE зьмяніўся. А што да мяне, дык я ніколі сваіх перакананняў не мяняў, нават пасля няшчасця: нам з вамі трэба грамадаваць, зносіцца, сустракацца па-ранейшаму. Калі хтосьці гэтага не хоча разумець, дык варта ім дапамагчы... Дарэчы, літоўскія прадстаўнікі да сёння вучацца ў Маскве (мой вучань нядаўна паступіў да Фаменкі), а што да Парыжа або Лондана, дык я не чуў, каб хтосьці там займаўся. У нашай кансерваторыі кафедрай акцёрскага майстэрства цяпер загадвае Уладас Багдонас. Але мае дыпломныя работы, акрамя сваіх майстроў, падпісвала і Кнэбель, — я гэтым ганаруся. Курс, які пэатварыўся ў "Паўночныя Афіны", я вёў разам з Даляй Тамулявічутэ: падчас навучання нас, як выкладчыкаў, запрасілі ў нью-йоркскі "Джуліярд" (прэстыжная амерыканская тэатральная школа. — **Ж. Л.**). Амерыканцы месяц выкладалі ў Вільні нашым дзецям. Пасля абмену, вяртання ды натуральнага параўнання мне было прыемна пачуць ад студэнтаў пра вартасці нашага з Даляй выкладання. Яго перадусім назвалі... жывым! Праўда, уціск Галівуда ў Амерыцы вельмі моцны, патрабаванні да прафесійніка як дакладныя, так і стандартныя, а першасныя, існыя акцёрскія карані — у адрознасці, у непаўторнасці. Але праз адметны стандарт да адметнай адрознасці цяжка скочыць.

**— Альгіс, мы ўсё круцімся вакол школы, але ў Беларусі рэжысёрскай школы так і не склалася; адметныя спектаклі апошняга часу належаць рэжысёрам з акцёрскай адукацыяй...**

— Памятаю, пастаўіў "Докішкіс" Шальцяніса, — а гэта быў мой першы спектакль, — і нібы падбухторыў калегаў-акцёраў на пастаноўкі. І яны ставілі столькі, што нашы крытыкі ўжо амаль як тэрмінам пачалі карыстацца вызначэннем "акцёрская рэжысура", — з такой ледзь улоўнаю пагардаю, хоць, напрыклад, тое, што рабіў Шынкарукас у Каўнасе, варта і доследу, і ўвагі; цікава працаваў Вілкайціс... Але іншая рэч, што чалавеку пры творчай уладзе трэба быць вельмі мудрым і памяркоўным, не ўладарным над людзьмі... У нас цяпер ставіць Ванцявічус, рэжысёр акадэмічнага тэатра. І я шчыра раю сваім маладым артыстам — вучыцца, бо тое, што яны могуць атрымаць ад дзеда, я ім ніколі не дам. Гэта ў адказ на пытанне, мабыць, што ён зможа, гэты стары? А чалавек паставіў на ногі Адамайціса, і ён гэтымі нагамі па ўсім свеце пакрочыў. Тое, што Даля прывучыла нашу дзесятку працаваць толькі з ёю, было не зусім слушна. Часам мая работа нагадвае працу псіхолага, бо на сцэне партнёры часам рэагуюць... як людзі, а не як персанажы, якіх яны ўвасабляюць. Рэжысёрскі паказ у нашай справе — ці не самае лёгкае, ведаеш, каб тынкоўку прыгладзіць. Акцёры, з якімі колькі гадоў працуеш, імгненна здымаюць з цябе, што трэба, але... ненадоўга. І таму старыя тэатральны прыклад пра пункт А і пункт Б я паўтараю, і нагадваю, што самае цікавае — працэс руху. Увогуле, ад сваіх маладых у "Вайдзіласе" паслядоўна вымагаю і самастойнасці, і павагі, — да справы, адно да аднаго. Бо калі з тэатра знікае павага, яе месца займае звада. Я ім паўтараю: у вас ёсць дах, ёсць павага адно да аднаго, і пакуль вы яшчэ не зоркі: гэта ваш самы шчаслівы час! Але ён вельмі пэўны, абмежаваны, непрацяглы, таму — ацаніце яго, адчуйце! Нам у свой час такога не казалі. Нібыта Маладзёжны будзе й будзе... Але ўсё мусіць скончыцца. І трэба гэта ўсведамляць. Пасля дыпломаў мае дзеці былі без работы, пакуль не сабраліся ў "Вайдзілас", а цяпер у кожнага з іх вартыя прапановы. Самыя буйныя летувіскія рэжысёры бачылі нашы спектаклі, усе хочуць іх узяць. Так лёгка спакусіцца й разысціся. Але пакуль яны разам, пакуль могуць і мусяць адчуць свой самы дарагі, самы дзівосны — першы самастойны шлях... з пункта А ў пункт Б. І самае цікавае, як яны яго пройдуць...

**З Альгірдасам ЛАТЭНАСАМ сустракалася і гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

*На здымках: А. Латэнас; сцэна са спектакля "Іванаў".*

*Фота Эдуарда КАБЯКА*

*Брэст—Мінск*

ПАМЯЦЬ

# Немагчыма пахаваць вецер...

***Мінула 40 дзён як не стала Міхася Раманюка. Лічыцца, што ў гэты час душа развітваецца з целам, а для блізкіх гэта нагода яшчэ раз успомніць добрым словам нябожчыка.***



Неверагодным у часовым і энергетычным вымярэнні рухам Міхась вырваў з пашчы Часу матэрыяльныя сведчанні аб існаванні самабытнага этнасу — беларусаў. Аб'ездзіўшы ўсю Беларусь, М. Раманюк збіраў, фіксаваў і натаваў не толькі адзенне, а і ўсё тое, што мела дачыненне да быцця этнасу.

Апошнія гады ён усё часцей падкрэсліваў, што ён менавіта **беларускі этнограф**. У пасмяротных выступленнях і публікацыях робіцца спроба вызначыць месца даследчыка ў гісторыі. Яго паставілі ў адзін шэраг з выдатнымі беларусістамі XIX ст. І. Насовічам, М. Федароўскім, Е. Раманавым (С. Дубавец), назвалі "буйнейшы даследчык беларускай культуры XX ст." (М. Яніцкая), "апошнім класічным этнографам..." (С. Харэўскі). Тыпалагічная адметнасць М. Раманюка, як даследчыка-этнографа, на мой погляд, у сузор'і буйнейшых беларусістаў, заключалася ў базавай адукацыі, прафесійным асяроддзі і агульнай беларусазнаўчай дасведчанасцю канца XX ст. Яны, этнографы, папярэднікі і сучаснікі, былі па адукацыі гісторыкі, або філолагі. Міхась быў мастак і мастацтвазнаўца-даследчык, мастацтвазнаўца-выкладчык, які за сваю амаль 30-гадовую выкладчыцкую дзейнасць у Акадэміі мастацтваў чытаў курсы замежнага мастацтва "ад фараонаў да мадэрнізму", гісторыю касцюма народаў свету, гісторыю матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі. М. Раманюк быў сябрам самых разнастайных мастацкіх, метадычных, навуковых, экспертных радаў, камісій пры міністэрствах, ведамствах, установах, галоўным рэдактарам часопіса "Мастацтва Беларусі". Усё гэта, акрамя звыклай мітусні, давала яшчэ фактуру, матэрыял, спрыяла эрудыцыі, фармаванню маштабнага погляду на культуру ў яе гістарычнай плыні, магчымасць у даследчыцкай працы, перш за ўсё ў часе экспедыцый бачыць у "звыклым" этнаграфічным матэрыяле высокае эпічнае мастацтва, эстэтыку і філасофію,- "этнічную адметнасць народа", як ён любіў гаварыць. Нават болей: Беларускі Вобраз Свету.



Вялікія заслугі М. Раманюка перад беларускай мовай. Ён першы сярод выкладчыкаў Акадэміі мастацтваў загаварыў па-беларуску. Ужо на пачатку 70-х гадоў ён чытаў лекцыі, выступаў на вучонай радзе, кафедры, у кулуарах. Распрацоўваў тэрміналогію ў галіне мастацтвазнаўчых дысцыплін і ў першую чаргу беларускага народнага адзення. Быў выдатным лектарам, валодаючы непаўторным тэмбрам голасу — аксамітным барытонам, выдатнай дыкцыяй і тонкім пачуццём аўдыторыі. Як лектар-прапагандыст аб'ехаў усю Беларусь і далучыў да нашай культуры сотні мастакоў, музейных і клубных работнікаў. Быў тонкім калекцыянерам сучаснага выўленчага мастацтва.

Зрэшты, ўсё не перакажаш...

Я гляджу на пахавальны абрад. Я бачу Яго ў труне і мне здаецца, што гэта містыфікацыя, нейкі абсурдны спектакль. Бо немагчыма пахаваць Вецер, Дождж, Ураган — унерухоміць, укласці ў труну... Я не сустракаў больш дынамічных і працаздольных людзей з такімі вялікімі душэўнымі рэсурсамі, з такою незвычайнай прыцягальнай аурай...

**Генадзь СОКАЛАЎ-КУБАЙ**

*Здымкі з архіва сям'і М. Раманюка.*





## У розных жанрах

АЛЕНЕ КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВАЙ — 65



**Нарадзілася Алена Рыгораўна ў сям'і пісьменніка Рыгора Кобеца. Скончыла Мінскую музычную школу-дзесяцігодку, працавала выкладчыцай у музычных школах Мінска, Выбарга, Стаўрапаля. Вучылася ў Ленінградзе ў Музычным вучылішчы імя Рымскага-Корсакава. Некаторы час жыла ў Грэцыі, вучылася ў Афінскай кансерваторыі. У 1969 годзе скончыла Беларускую дзяржаўную кансерваторыю па класу раяля. Працавала рэдактарам на кінастудыі "Беларусьфільм", рэдактарам выдавецтва "Юнацтва".**

**Піша на беларускай і рускай мовах. З першым літаратурным творам выступіла ў 1959 годзе. Выдала зборнікі вершаў для дзяцей "Казка пра месяц" і "Залаты ручнік", аповесці "Жаваранкі над Хатынню", "Блакітны экспрэс", "Агні за пераваламі" (дзве апошнія былі перапрацаваны ў раман "Агні за пераваламі"), казкі "Вянок дзівосаў". На рускай мове ў А. Кобец-Філімонавай выйшлі кнігі "Читайка и гуляйка", "Семь художников", "В королевстве... но не сказочном", "Сказки старого Янниса". Па матывах аповесці "Блакітны экспрэс" у 1978 годзе пастаўлены аднайменны спектакль. Аўтар сцэнарыя мультфільма "Вася Буслік і яго сябры", знятага ў 1974 годзе. Пераклала на беларускую мову з навагрэчаскай зборнік вершаў Я. Рыцаса "Макронісас", з'яўляецца ўкладальнікам зборніка беларускай паэзіі "Земля с лазурными очами".**

**Віншуем Алену Рыгораўну з 65-годдзем! Зычым ёй новых жыццёвых і творчых поспехаў!**

## Погляд з Польшчы

**"Старыя цывілізацыі і новыя адкрыцці" — так называецца выстава, адкрытая ў будынку гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Яна арганізавана Польскім інстытутам у Мінску і прысвечана польскай археалогіі 1989—1997 гадоў, а калі канкрэтней — дзейнасці спецыялістаў Цэнтра археалогіі Сярэднеземнамор'я Варшаўскага універсітэта за межамі сваёй краіны. А навуковыя памкненні польскіх археолагаў у гэтым кірунку самыя шырокія. Гэта і даследаванне пасяленняў грэкаў вакол Чорнага мора, і раскопкі на тэрыторыі Егіпта і Блізкага Усходу, і вывучэнне культуры старажытных інкаў. І што самае важнае — часам рабіліся і сенсацыйныя адкрыцці.**

**Н. К.**

## Жыў Жуковіч Платон...

**А паходзіў ён з сям'і святара, які нёс службу ў Пружанах. У 1881 годзе П. Жуковіч скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію, пасля чаго працаваў выкладчыкам у Полацкім духоўным вучылішчы, у Вільні, нарэшце, у роднай яму акадэміі. Але вядомы П. Жуковіч не толькі як педагог. Ён — адначасова беларускі гісторык, быў выбраны членам-карэспандэнтам Расійскай акадэміі навук. Даследаваў гісторыю другой паловы XVIII стагоддзя. Асноўная праца П. Жуковіча "Сеймавая барацьба праваслаўнага заходнерускага дваранства з царкоўнай уніяй". Напісаў таксама артыкулы "Кіраванне і суд ў Заходняй Расіі падчас царавання Кацярыны II", "Саслоўны склад насельніцтва Заходняй Расіі падчас царавання Кацярыны II", "Заходняя Расія падчас царавання імператара Паўла" і іншыя.**

**8 кастрычніка з дня нараджэння П. Жуковіча споўнілася 140 гадоў (памёр 30 лістапада 1919 года).**

ВІНШУЕМ!

# Юрку ГОЛУБУ — 50



Яму пашанцавала на пачатку творчай дарогі на добрых людзей, вопытных і патрабавальных настаўнікаў. Першыя спробы пяра Ю. Голуба, тады яшчэ школьніка, ухваліла незабыўная Ларыса Геніюш. А яго першая кніга "Гром на зялёнае голле", якая выйшла ў выдавецтве "Беларусь", калі аўтар яшчэ вучыўся на чацвёртым курсе аддзялення беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, была адрэдагавана на грамадскіх пачатках самім Анатолем Вялюгіным, са шчодрага благаславення якога, як вядома, у літаратуру прыйшлі многія, сёння добра вядомыя паэты. Высокую ацэнку атрымалі і наступныя паэтычныя зборнікі Ю. Голуба — "Дрэва навальніцы", "Векапомнае поле", "Помню пра цябе", "Сын небасхілу" На падыходзе да чытача яго чарговая кніга "Брамы зімы". І, канечне ж, пішуцца новыя вершы, у якіх Ю. Голуб усё больш задумваецца над лёсам роднай зямлі, лёсам беларусаў.

Віншуем Юрыя Уладзіміравіча з поўднем веку! Зычым яму доўгіх год жыцця, лёгкага паэтычнага пяра!

Юрка ГОЛУБ

### Родныя сцены

*Не ведаў, вядома, тады*
*Насуперак будучым ценям*
*Надоўга з'явіўся сюды,*
*У родныя сцены.*
*А бацька суседзям наліў,*
*А бабка разглядзела цемя.*
*Пяшчотна люляць прынялі*
*Родныя сцены.*
*І месяц ніколі не спаў*
*У небе, як крыжык нацельны.*
*Выводзілі ў людзі — ступаў —*
*Родныя сцены.*
*Залежна спакусных прычын*
*Учынкі цягнуліся ў цемень.*
*Маўчалі (з дакорам прычым)*
*Родныя сцены.*
*Абрус заклікае за стол.*
*Няўжо па апратцы ацэняць?*
*Саджалі на покуць за што*
*Родныя сцены.*
*Не скажаш, што з гучным плачам,*
*Ды хопіць: сыходжу са сцэны.*
*Панура стаяць за плячом*
*Родныя сцены.*

### Чаромха пад даждэжом

*Маланка ў вока пора*
*Разломанай галінай,*
*Стаялі моўчкі поруч,*
*Дзе колісь гаманілі.*

*Зялёную акругу*
*Залева абкружыла.*
*Хадзілі думкі кругам —*
*То поўнач варажыла.*

*І вечнасць не спяшала,*
*Спяшалася імгненне.*
*А гром выверваў шалі*
*І падаў на калені.*

*На беразе жадання*
*Не ведаў, што спякуся.*
*Была сабе жадная*
*Няясная спакуса.*

*Дзе ў белых вокнах хата,*
*Вярэдзіў сорам трохі.*
*А лівень нёс за свята*
*Імгненны квет чаромхі.*

### Безгалосы лес

*Лес раздабрэў ад інею.*
*І тое я вам скажу,*
*Ён нечакана выменяў*
*Зрэбнае на кажух.*

*Горача стала лесу,*
*Было ж, а зусім хірэў.*
*Толькі не правіць месу*
*Усяптушкавы архірэй.*

*А лесу ў кажусе — класна!*
*Нават і лоб спацеў.*
*Лес, а чаму ты кляўся,*
*Цень навёў на пляцень:*

*Будзеш, маўляў, ты птушак*
*Грэць галасы зімой,*
*Класці сны пад падушку,*
*Выратуеш ад замоў?*

*Вокал маўчанне такое:*
*Ціш асядлала пень.*
*З птушынаю талакою*
*Спеў адляцеў, як дзень.*

*З гнёздаў, нібы з пялюшак,*
*Голас пішчаў бы, лез...*
*Лес павярні нам птушак,*
*Што нарабіў ты, лес?*

### Гурбы снегу

*Зімы пасад*
*Чакаў адлегу.*
*А бацькаў сад*
*У гурбах снегу.*

*На школьны ўрок*
*Праз вечнасць збегаў.*
*Зімы зарок*
*У гурбах снегу.*

*Шукаў бядак*
*Сваю амегу.*
*Знайшоў бадай*
*У гурбах снегу.*

*І зычыў след*
*Другому следу —*
*Не майце бед*
*У гурбах снегу.*

*Пускаю дым*
*Пра час калегу.*
*Зіма, між тым,*
*У гурбах снегу.*

# "Я ненавіджу палітыку..."

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

**— Што сабой уяўляе БНФ як грамадска-палітычны рух, арганізацыя, мне, здаецца, зразумела. А партыя БНФ, якую вашы апаненты называюць права-ліберальнай, а некаторыя — права-радыкальнай?**

— Партыя была створана чыста фармальна, для таго, каб БНФ узяў удзел у вылучэнні сваіх кандыдатаў у дэпутаты, бо законам аб выбарах грамадскія рухі такога права пазбаўляліся. Зменіцца заканадаўства — адпадзе і неабходнасць у існаванні такога, так бы мовіць, юрыдычнага "парасона".

Што да праварадыкальнасці, то я ўспамінаю дыскусію са сваім сябрам, публіцыстам, філосафам, вялікім знаўцам грамадска-палітычных рухаў Анатолем Сідарэвічам, які таксама не-не дый ужыве падобны эпітэт у дачыненні да фронту. Колькі разоў ён казаў пра нас як пра "правых"! І што — я, "правы", жыву багацей за яго, "левага"? А франтаўцы нічога і нікога не збіраюцца мяняць сілай. Усе перамены, па маім перакананні, павінны адбывацца толькі законным, канстытуцыйным шляхам. Сапраўды, у франтаўскім руху бяруць удзел людзі самых розных палітычных поглядаў, але зноў жа — ніхто з іх не заклікае ні да гвалту, ні да іншага падобнага. А яднае ўсіх жаданне зрабіць жыццё нашага народа лепшым, а Беларусь — беларускай, у адпаведнасці з традыцыямі, менталітэтам нашага народа. На такім грунце, лічым, павінна будавацца дзяржава. Павінны запанаваць нарэшце менавіта беларускія адказы на любую палітычную ініцыятыву ці з'яву ў свеце. Павінна быць сфармулявана паняцце менавіта беларускіх, нашых нацыянальных інтарэсаў, і гэта мусіць цвёрда адстойвацца дзяржавай. Інакш якая ад яе карысць народу? Вось наша крэда, вакол гэтага мы будуем усё. У астатнім можам дапускаць самы шырокі спектр меркаванняў.

**— Ну, а чаму да гэтага часу далёка не ўсім добрым людзям у нашай краіне зразумела, што БНФ абараняе менавіта іхнія жыццёвыя інтарэсы? Скажам, на мінулых прэзідэнцкіх выбарах за Зянона Пазняка прагаласаваў недзе мільён чалавек, за Станіслава Шушкевіча, які больш выразна заявіў пра сацыял-дэмакратычны накірунак сваёй палітыкі, — яшчэ ці не мільён. А большыня ж увогуле захацела застацца ў "краіне мрояў", паверыўшы, што нехта зможа вярнуць "светлае мінулае".**

— Мы жывём у эпоху інфармацыйнай цывілізацыі. Яна наступіла зусім нядаўна, у постіндустрыяльны перыяд, і нашы цяжкасці шмат у чым — ад гэтага, паколькі змены для савецкіх беларусаў адбыліся вельмі хутка, у нас, па сутнасці, сышліся ажно чатыры эпохі: яшчэ засталася традыцыйная цывілізацыя, індустрыяльная, постіндустрыяльная і вось — інфармацыйная. Усе яны змяшаліся. І пакуль не скончыцца пераход да апошняй, вялікая частка людзей так і будзе блытацца, асабліва калі сродкі інфармацыйнай цывілізацыі ёсць, але, па-першае, яны абслугоўваюць толькі адну палітычную сілу (тую, што пры ўладзе), а па-другое, менталітэт, самасвядомасць людзей у масавым маштабе не паспелі за зменамі ў матэрыяльнай сферы. Людзі, прасцей, пакуль не навучыліся аддзяляць дабро ад зла, пазнаваць тое, што зжыло сябе ў часе. Даўняя праблема. На сённяшні дзень шмат што залежыць ад таго, калі насельніцтва нарэшце ўсвядоміць свае сапраўдныя інтарэсы ў часе, у якім наканавана жыць: што прынясе дабрабыт і радасць, а што — журботу і беднасць. Гэтую задачу трэба рашаць у першую чаргу і весці адпаведную работу ў народзе. Нягледзячы на ўсе цяжкасці.

**— Адносна асветніцкай работы. Успамінаецца, зноў жа, кампанія па выбарах прэзідэнта. Пазняку, як аднаму з кандыдатаў, прадастаўляецца магчымасць тры, здаецца, разы выступіць па тэлебачанні. Здавалася б: вось ён, выдатны шанц, каб быць пачутым і зразуметым вялікай масай выбаршчыкаў. А Зянон Станіслававіч пачынае практычна чытаць лекцыі пра сутнасць карупцыі, прадажніцтва чыноўніцтва. Гэта быў відавочны пройгрыш на старце, здзейснены ўласнымі намаганнямі кандыдата, шанцы якога тады былі вельмі высокімі. Замест таго, каб простымі і даходлівымі словамі сказаць людзям: вось такім чынам будзе зроблена, каб вы мелі хлеб на стале, вось так дзяржава абароніць вашу сям'ю і блізкіх ад розных прайдзісветаў і бандытаў, а так будзе забяспечана шчаслівая будучыня вашых дзяцей, — распавядаць у асноўным пра ліхвярства савецкіх чыноўнікаў...**

— У прэзідэнцкай кампаніі былі свае поспехі і свае промахі, безумоўна. Але ўлічваць трэба і тое, што мы яшчэ не дараслі да "моцнага" прэзідэнцтва ўвогуле як да сістэмы ўлады. Тое, што адбываецца сёння, — яскравая дэманстрацыя неадпаведнасці рэжыму менталітэту беларусаў. Усё нагадвае ў рэальным выкананні нейкую татара-мангольшчыну. А як вярнуцца да становішча, да механізмаў, якія забяспечылі б эфектыўную дзейнасць дзяржаўнай улады, адпаведнай беларускаму менталітэту, — гэта ўжо пытанне іншага кшталту, над якім трэба працаваць і працаваць. Яно не грунтуецца на тым, каб праводзіць нейкія новыя прэзідэнцкія выбары. Гэта пытанне ўвогуле перабудовы нашага дзяржаўнага ладу. Пра што абсалютна адназначна заяўляе і Зянон Пазняк, якога сілы абставін вымусілі ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах, а ніяк не жаданне захапіць нейкую вялікую ўладу.

**— Вядома, словы ўсіх гімнаў, у тым ліку і палітычных, урэшце складаюць паэты (не будзем казаць пра велічыню іх талентаў). Тым не меней, калі і ў нас наступіць час дзейнасці прафесійных палітыкаў па цывілізаваных правілах паводзін, сапраўдная канкурэнцыя партый за прыхільнасць выбаршчыкаў, дзе будзе тады спадар Лявон Баршчэўскі — у структуры выканаўчай улады, скажам, у Радзе Міністраў, ці ў заканадаўчым вышэйшым органе — парламенце?**

— Ведаеце, я ненавіджу палітыку. Я ўвогуле буду тады за пісьмовым сталом літаратара, перакладчыка і ў аўдыторыі перад вучнямі або студэнтамі.

# Жыве Беларусь!

## З дарожных гутарак

### МАЛЕНЬКАЯ РАДАСЦЬ

У перапоўненым тралейбусе жанчына, якая сядзела ля вакна, звярнулася да суседкі, што займала месца побач з ёю:

— Прабачце, калі ласка, патурбую вас, мне выходзіць на наступным...

— ...прыпыначку, — падхапіла яе зварот суседка, і абедзве "нацыяналісткі" замілавана ўсцешыліся, светла, радасна ўсміхнуліся адна адной, быццам неспадзеўкі наткнуліся на даўно знікшы скарб.

Тыя, што стаялі побач і размаўлялі, як прынята ў нашай Айчыне пад назваю Беларусь сярод абруселых жыхароў яе, на рускай мове, на нейкі момант прыціхлі... Можа, і ў іх душах нешта скранулася? Жыве Беларусь!

### І ЯНА Ж НЕ АДНА

— Што і казаць, заціралі беларусаў, шмат вякоў заціралі. Што было, тое было. І мову на рускую ўсюды замяніць задачу паставілі, але ў горадзе замянілі, а вёска не паддалася. Мужык не паддаўся. Хто ў паны папаў, то адразу забыў, адкуль ён. Я і сама дзецям сваім прыказвала, як ехалі ў горад, каб гаварылі па-руску, каб стрэць лепшую долю. Цяпер, калі мы ўжо можам быць як людзі, самі па сабе, то чаго ўжо гэтак цурацца свае роднае мовы? З нашае вёскі адна нядаўна па радзіве выступала. Як малая была, басаanож бегала, па-беларуску, па-нашаму гаварыла, а гэта тая, што вяла перадачу, пытаецца ў яе па-беларуску, а яна, перш, чым адказваць, па-руску перапытвае, а потым ужо ёй адказвае, шпрэхае па-руску. І яна ж не адна такая...

### ДЗЕЦІ — ВЯЛІКАЯ НЕСПАДЗЯВАНКА

— Запрашалі мяне дзеці да сябе на Новы год, сустракаць разам. А я кажу: "Не падабае мне, старой, гэтая весялосць у пост. І вам, маладым, нядрэнна б было ў пост трохі сябе прыструніць". А ўнучак мой зардзеўся, гэтак харашэнька, сарамяжненька на ўсіх пазірае бліскучымі вочкамі і пытаецца: "А чаму гэта на самае лепшае свята, калі дзед Мароз гасцінцы прыносіць, пост прыдумалі?"...

— Дзіця — вялікая неспадзяванка часам бывае, ці то само прыдумае, ці то ад дарослых сцікуе. Мая ўнучка мне паскардзілася, што іх беларускі клас закрываюць. "А чаму ж вас закрываюць?" — пытаюся я ў яе, і ледзь ні прысела ад таго, што пачула ў адказ (каб яно яшчэ дзе-небудзь гэтак хоць ні сказала, а то і страшна мне, каб жа хоць не помсцілі): "Бабулечка, хіба ж ты не ведаеш хто ўсё вытварае?"...

Што голы кароль, менавіта вуснамі дзіцяці паведаміў казачнік...

### МНОГА ЗЛОСЦІ Ў ДЗЕЦЯХ АСЕЛА ЦЯПЕР

— Іншы плача ад зайздрасці, што яму нечага не хапае, ці крыўдаю развярэдзіў душу сваю. А я плачу ад жалю, часта плачу, так мне шкада людзей цяперашніх, дзетак маленькіх вельмі шкада. Я ў садку працую, душа разрываецца, калі чую, як дзеткі, расінaчкі Божыя, матнымі словамі лаюцца, кулакамі менцяць адно аднаго, нагамі нават дзяўчынак тоўхаюць і ўсе пісталет настаўляюць адно на адно. Толькі і гаворкі, што пра тэлевізар ды баевікі, як там класна б'юцца і страляюцца... Многа злосці ў дзецях асела цяпер... Хай бы злосць тую малітвамі звязвалі, хоць на 10 хвіліначак давалі праз бацюшку па тэлевізары людзям на сон малітоўнае правіла, закон Божы чыталі, каб не саромеліся людзі перахрысціцца...

### НЕ ТАГО, ЧАГО ТРЭБА, САРОМЕЮЦЦА

— Цяперака так усё перакруцілася, што людзі не таго, чаго трэба, саромеюцца. Бедны сваёй беднасці саромеецца, а злодзей яго абдзірае і не думае сароміцца. Сёння гляджу: падыходзіць да прылаўка, дзе прадавалі мандарыны, малады мужчына, худзенькі такі, пальцечка на ім просценькае, як на калочку вісіць. Падае 5 тысяч прадаўшчыцы і, саромеючыся, просіць узважыць, колькі атрымаецца. Бог яго ведае, каму ён купляў іх, пэўна ж, не сабе, мо ў бальніцу каму, а мо ў разводзе (бо вельмі ж нейкі гарэтненькі), то дзіцятку занесці, пабачыцца. Прадавец, як віхла, не паспела пакласці, тут жа скінула: "На 4 600", — кажа і падае яму дзве мандарынкі, здачу адлічвае. А ён мандарынкі ўзяў, а на грошы кажа "не трэба", быццам мільянер доларны (толькі мільянер, наўрад ці будзе раскідвацца), і пайшоў. А потым у хлебным аддзеле мне на вочы папаўся, аж сэрца маё разбалелася, як падлічваў ён свае грошыкі, перш чым узяць паўбохана хлеба...

### УСЯКІХ ЛЮДЗЕЙ ЁСЦЬ НА СВЕЦЕ

— Усякіх людзей ёсць на свеце. Пры мне падыходзіць да прадаўшчыцы жанчына, пытаецца: "У вас ужо танных няма апельсінаў?" — "Няма", — тая адказвае. "А чым яны адрозніваліся ад гэтых, дарагіх? Падгніўшыя і скура тоўстая, рыхлая, так?" — Нестандарт", — адмахнулася тая, мабыць падумала: "Чаго прыстала?" А жанчына і кажа: "Вы, мая любенькая, замест добрых па дарагой цане мне гэты самы нестандарт узважылі". — "Колькі вы бралі?" — схамянулася тая і ўжэ бярэ грошы, каб рэшту выплаціць. — "Кіло брала я, — без усякае злосці пачала гаварыць жанчына, — але ж прыйшла не па грошы я, хоць яны мне не лішнія, прыйшла сказаць вам, любенькая, каб вы больш наўмысна не памыляліся, бо тады грошы на ліха працуюць. Аддайце ад мяне за вас на царкву гэтую рэшту, хай вам Гасподзь дапаможа, прабачце мне". І ціхенька пайшла. Бач, не прадаўшчыца, а яна ізвінілася. Усякіх людзей ёсць на свеце...

### БОЛЬШ ЦЭНТРУ "СПРЫЯЛЬНІЧАЮЦЬ"

— У нас з усяго дома, мабыць, я адна ежджу ў царкву. Каб бліжэй было, то больш людзей хадзіла б. А так едуць толькі пахрысціць дзяцей (і то не ўсе) ды калі памрэ хто. Са мною адна жанчына адзін раз з'ездзіла і больш не паехала: "Далёка", — кажа. Ёсць бліжэй, на ТЭЦ, на сядзібе свяшчэнніка маленькая цэркаўка, але ж далёка ад прыпынку, пакуль дадыбаеш. Старому трэба каб блізка ад транспарту было. Бліжэй было б мне ў Чыжоўку, там вялікі мікраранён, але з царквою нешта там няма разгарнення, загналі ў кут і мала дбаюць, больш цэнтру спрыяльнічаюць, а п'яных на вуліцы там мабыць больш, чым дзе...

### "СЭКАНОМІЛІ"

— Я сваіх сваякоў давяла да ўтратнага. Сказала ім пра царкву, што збіраюць бабы грошы, каб і нам аднавілі. А швагерка (у іх у кожнага дзіцяці па машыне, як з'едуцца — увесь двор застаўлены) кажа мне: "Мы не можем дать, у нас нет денег". Я сама сабе пакруціла галавою, можа грэх на душу ўзяла, але не паверыла. А назаўтра іду, бачу ўсе гуртам корпаюцца ў траве каля дома, у агарод зазіраюць, ўсе нешта шукаюць. Аказваецца, залаты гадзіннік гаспадыня згубіла. Так і не знайшлі, от і сэканомілі...

— Што зробіш, шкада людзей, але я так думаю, што і многім укладчыкам праз тыя банкі, што ад высокіх працэнтаў лопнулі, Бог выратаванне душам паслаў. Іншы чалавек, калі яму ўжо вельмі запахлі грошы, то і есці нават шкадуе і сабе, і сям'і. У нас у аднаго 50 мільёнаў накрыліся ў банку, дык ён цяпер і рыбу і курэй купляе, а раней толькі вымя ды крывяную каўбасу. А кроў жа, наогул, грэх чалавеку ўжываць. Вылечыўся, дзякуй Богу, ад грошай...

### ГРОШЫ ЎЖО НА ЗЯМЛІ ПЕКЛА ВЫМОШЧВАЮЦЬ

— Адны, каб паабедаць, кішэні свае вытрасаюць, нішчымную поліўку вараць, а другія ў рэстаранах шыкуюць. Бач, ужо канцэрт моды "Райскія птушкі" па мільёну за білет ім прывезлі, ды яшчэ граюць на фанабэрыі: здымайцеся, выносныя, на ўспамін, раскашэльвайцеся яшчэ на мільён, перасыпайце свае лёгканажытыя долары мне, спрытнейшаму. Але ж там, дзе кішэні сквапна грашмі распіраюцца, душа ад пакуты сціскаецца. Грошы ўжо на зямлі чалавеку пекла вымошчваюць, хваробамі цела драпежна рвуць на кавалкі...

### САМІ ВІНАВАТЫЯ

— Я, як пачалася эпідэмія грыпу, часцей у царкву хадзіла, падавала спіскі "О здравии", дома больш малілася, каб на нас, убогіх, Гасподзь выказаў сілу і міласць сваю. Але старэйшага сына не дасталі малітвы мае: у яго ўсе перахварэлі, і сам, і жонка, і дзіця. Самі вінаватыя. Жонка яго, нявестка мая, веры не мае, і ён ёй фтуруе, кпяць з маіх мацярынскіх малітваў, з таварыствам сваім усё пагулянкі наладжваюць, у царкву не ходзяць, пост, не пост — усе гасцей зазываюць. Свае ж дзеці, гэта ж не абгавор, але ж нешта прагледзела я, мабыць, грэшная...

### МОЖА, І РАЗВОДАЎ МЕНШ БЫЛО Б

— Уся бяда многіх цяперашніх бацькоў, што дзеці да працы не прывучаны. Там, дзе дзеці, як пчолкі, нароўні з бацькамі, па гаспадарцы шчыруюць, усім добра бывае, і бацькам, і дзецям. А там, дзе толькі адны бацькі пнуцца, надрываюцца, а дзеці адно толькі каб смачна есці ды гуляць, то горкая старасць і бацькоў тых чакае, і дзецям часцей за ўсё выпадае лёс цяжкі. У нас у сяле ў многіх сем'ях гэтак, як папрыязджаюць на выхадныя, ці на ўсё лета, то цэлымі начамі недзе гойсаюць, а потым спяць да абеду, а бацькі без продыху — і так дзень пры дні. Яно б, можа, і разводаў было б менш: каб маладыя прывучаны былі змалку шанаваць блізкіх. Даўней сем'і былі вялікія, дзеці адно аднаго даглядалі, дружна, гуртам бацькам памагалі, свіней штодня пасвілі, і вышывалі, і гафтавалі,



старэйшыя дзеці нават і пралі, і ткалі, а цяпер параспускалі дзяцей, то і гаруюць, колькі крыўды ад іх церпіцца.

### БЫЦЬ САБЕ КАНТРАЛЁРАМ

— Злосць — як той атам. Калі не прыструніць яе, калі пойдзе гэтая ланцуговая рэакцыя, то шмат душ бывае пашкоджана. Асабліва цяжарным жанчынам асцерагацца трэба яе, бо ўсё ж на дзіцятку адаб'ецца. Пра ліхое нават і думаць, не то што зрабіць, нельга, калі хоча жанчына, каб дзіця ліхім не пайшло ў жыццё. Трэба ўвесь час быць самой сабе кантралёрам...

### БОЛЬШ БЯДА, ЧЫМ ВІНА

— Чалавек, які выхоўваўся без бацькоў, рэдка бывае чуллівым, міласэрным сем'янінам, у яго сэрцы больш жорсткасці, чым любові, больш лёду, чым цяпла, і клопат яго аднабокі, найбольш пра сябе, але ж гэта больш бяда яго, чым віна...

### КАМУ СТАРАСЦЬ ДАГЛЕДЗЕЦЬ?

— Што гэтыя сыны, быццам і не было іх. Рэдка які больш да бацькоў туліцца, чым да жаночае спадніцы. Добра ж, калі пападзецца нявестка добрая, чулая, дбайная, то будзе каму старасць дагледзець...

### НІ ЗГУЛЯЕ НІ-НІ

— Дзякуй Богу і бацькам яе за маю нявестачку. Гэта я еду ад дзяцей сваіх. Пагасціла ў іх трохі, і нарадавалася, і натужылася. Цяжка і ім цяпер, маладым, ой як цяжка. І недасыпаюць, і недаядаюць, у каго дзеці малыя, і хто не крадзе і не гандлюе. Дзіцятка, калі дома, дык як ёсць, так і ёсць, можна трохі горш адзець, а ў школку ці ў садок той абыяк не павядзеш. А ў школу пайшоў — ужо і за транспарт плаціць трэба. Нявестачка мая позненька сядзела, усё нешта вывязвала, а раніцою гляджу, як кветачкі, кружочкі-лапічкі на зацыраваныя дзіцячыя калготкі, што ізноў папрарываліся, прымайстравала. Не згуляе ні-ні, такое працавітае дзіця, хай ёй не зашкодзіць і бацькам яе дасць Бог здароўя за такое дзіця...

### ЧУЖОЕ НЕ БАЛІЦЬ

— У серыялах са слабаразвітых краін паказваюць шыкоўныя асобныя спальні для слуг — мужа і жонкі. А ў нас? Не будзем пра тых, што набылі катэджы, ці кватэры, як палацы, хай яны самі перад Богам апраўдваюцца. Колькі сем'яў у нас яшчэ ў аднапакаёўках месцяцца, на паўтарачных ложках труцяць адно аднаго курцы і алкаголікі. Колькі жанчын з раніцы скардзяцца на галаўны боль, нядуства агульнае, разбітасць... Харчаванне для многіх, як для жывёл у заснежаным лесе: што дзе перападзе. А выпраменьванні тэлевізараў у цесных пакоях... Прападаў, гібеў народ і без Чарнобыля, а Чарнобыль яшчэ больш давершвае разбуральную справу, але ж чужое не баліць...

### НЕ ЧАЛАВЕК, А РАСЛІНА

— П'яніца, калі дажывае да старасці, то гэта ўжо болей расліна, чым чалавек. Яго розум вымак увесь у гарэлцы, як тыя вітаміны ў вадзе. Яго розум болей скіраваны на тое, каб выславіцца, ды як мага болей асалоды дабыць самому сабе. Пра блізкіх, тым больш пра грамадства, ён ужо не здольны клапаціцца і думаць, ён ужо не заўсёды ў стане адрозніць, што добра, а што дрэнна...

### ЗАСЦЕРАЖЭШСЯ АД НЕПРЫЕМНАСЦЕЙ

— Іншы, каб памаўчаць, дык усё выхваляецца. Не хваліся, а лепш Богу памаліся, то ад многіх непрыемнасцей, якія выхваляк падпільноўваюць, засцеражэшся...

### КІРАВАЎ НАЎГАД

— Наш старшыня кіраваў, як стары дзед без акуляраў нітку ў іголку зацягваў, ды так і памёр, не пацэліўшы...

### КАЛІ ПЕРАКАЗЧЫКУ БРАКУЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ГОДНАСЦІ

— На палітыку могуць паўплываць нават успаміны сумніўнай праўдзівасці стогадовай бабулі, асабліва калі пераказчыку бракуе нацыянальнай годнасці і ён вялікі аматар корпацца ў чужых грахах, засланіўшыся ад сваіх...

### ЛЮДЗЯМ ПАВУЧЫЦЦА ЎДЗЯЧНАСЦІ

— Вырашылі мы з мужам на вячэру грыбоў сабраць, ды натрапілі не на грыбы, а на здарэнні. Ідзём лесам, я паперадзе, ён крышку збочыў, адстаў. Раптам чую: нешта як рухне, азіраюся — ляжыць муж мой пластом. Я ледзь не самлела, так шкада яго стала, усё жыццё наша сумеснае маланкаю прамільгнула перад вачыма. Падбягаю — варушыцца, дзякуй Богу. Пачаў з нагі нешта сцягваць, раскручваць: "Браканьерскія прычындалы, — кажа, — на казулю паставілі". Раптам чуем: жалобна-залівіста брэша сабака, брэша і брэша, не сціхае, быццам кліча. А тут яшчэ адзін сабака аднекуль узяўся, пачаў бегаць каля нас кругамі, быццам нешта сказаць хоча. "Нешта здарылася, — кажа муж, — пайшлі". Падыходзім, я тузаю за рукаў яго, маўляў, асцярожней, можа сабака шалёны. Ажно ж і сабачка бедненькі папаўся ў гэткую пятлю таксама... Калі яго вызвалілі, то замест таго, каб уцякаць, бегчы па сваёй патрэбе, пачаў церціся аб калені, лашчыцца, як усё роўна дзякаваў, а той, другі, увесь час стаяў побач. Людзям павучыцца б такой удзячнасці...

— А мы наткнуліся ў лесе на распатрошаную легкавушку. Прыехалі ў горад, пазванілі ў міліцыю, дык там нам ні дзякуй не сказалі, не ўдакладнялі, дзе, у якім месцы, няма калі ім займацца злачынствамі, шмат часу на дэманстрантаў патрэбна...

### АМАЛЬ ПА ЭЗОПУ

— Самае паганае на свеце — язык чалавека. Балеў у мяне зуб, дык я спрабавала гарэлкаю боль суцішыць, у роце патрымаю і выплюну, не глытаючы я і ў бяседзе ніколі не п'ю атруты гэтай, усе ведаюць. Зайшла суседка. Я не люблю скардзіцца на хваробы, непрыемнасці свае, цярпі, калі Бог паслаў. Гэта язычнікі ўсё ліхое сваё выгаворваюць, як адкідваюць ад сябе, хай другому прыстане, абы самому добра было, а такое паганства Богу не ўгодна. Ну, я і на гэты раз ёй не сказала, што баліць зуб. А яна ўчула пах гарэлкі і пайшла па сяле малаціць, як малатарня: "Бачыце, прыкідваецца, што не п'е, а дома адна глушыць гарэлку, на мяне як дыхнула, дык мне дух заняло. "Гэта мне ўжо адна баба пераказала. Я не паважаю пераказчыкаў, ганю ад сябе, але той пераказ яе неяк знячэўку атрымаўся...

— Не язык паганы, а сам чалавек бывае паганы. У добрага чалавека і язык на дабро скіраваны...

**Ларыса РАБЦЭВІЧ-БРАНАВІЦКАЯ**

## Свята таленту



**Гэта было сапраўднае свята таленту. Заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар, а цяпер і акадэмік жывапісу Анатоль Бараноўскі адкрываў персанальную выставу сваіх твораў у Светлагорскай карціннай галерэі "Традыцыя" імя Г. Пранішнікава. Урачыстаю песняй вітала аматараў выяўленчага мастацтва харавая капэла "Ліра". Ганаровым госцем быў не толькі А. Бараноўскі. Разам з ім з Мінска прыехаў акадэмік жывапісу, наш зямляк Уладзімір Зінкевіч. А яшчэ — загадчык кафедры жывапісу Акадэміі мастацтваў Віталь Герасімаў, мастачка Алена Герасімава.**

**Так ужо здарылася, што адкрыццё выставы супала з пяцігоддзем карціннай галерэі. Вось чаму з удзячнасцю да славутага мастака, да ганаровых гасцей звярталіся і старшыня райвыканкама У. Палынь, і намеснік старшыні гарвыканкама В. Звягін, і адзін з заснавальнікаў карціннай галерэі, упраўляючы аддзялення "Прамбудбанка" С. Панкавец, і госць з Малдовы, старшыня Кахульскага райвыканкама В. Уладарчук, і госць з Хельмштэдта Юрген Эгештайн...**

**А. Бараноўскі — выдатны майстар жанравых карцін, партрэтаў, але больш за ўсё ён малюе прыроду, якая, па глыбокім перакананні Анатоля Васільевіча, была яго першым настаўнікам.**

**Яшчэ дыпломнай работай у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце, якая называлася "Праводзіны на фронт", Анатоль Васільевіч заявіў аб сабе, як аб майстры сюжэтнай кампазіцыі. Тым не менш лірычны, мяккі, экспрэсіўны пейзаж стаў асноўным жанрам яго творчасці. Вялікай школай была для яго, хаця і не працягла па часе, вучоба ў Ленінградскім інстытуце імя Рэпіна пры Акадэміі мастацтва СССР. Яшчэ ў 70-ых гадах Васіль Шаранговіч адзначаў, што А. Бараноўскі "глыбока па-філасофску разумее каляровы настрой прыроды, для яго колер — вобраз, колер як першаасноўнае памкненне выказаць свае думкі".**

**Тое, што А. Бараноўскі мастак-каларыст, бачна па ўсіх яго творах, выстаўленых у нашай карціннай галерэі. Гарманічныя па кампазіцыі, яны да захаплення здзіўляюць дакладна знойдзенымі каляровымі суадносінамі. Па ўласным прызнанні Анатоля Васільевіча, ён 25 гадоў рэгулярна прыязджаў на адны і тыя ж мясціны Браслаўшчыны, каб спасцігнуць таямніцу прыроды. Мастак наўмысна пазбягае надзвычай яркіх, асляпляльных фарбаў. Хаця многім яго творам уласціва цудоўная экспрэсія. Ён выдатна перадае псіхалагічны настрой, зніťаванасць герояў карціны з прыродай.**

**Геаграфія твораў А. Бараноўскага — самая разнастайная. Гэта і Балгарыя, і Наўгародчына, але больш за ўсё — наша родная Беларусь. Мастак піша яе ў самыя розныя поры года. Вось экспрэсіўная карціна "У навальніцу", вось супакоеная, але таксама прасякнутая трывожным святлом зямлі і неба карціна "Час роздуму". І побач — "Нараджэнне вясны", "Вечар", "Бэзавы май", "Заслаўе" — розныя і такія родныя паміж сабой творы.**

**Па яго пейзажах і сапраўды можна меркаваць не толькі аб беларускай прыродзе, але і аб беларускім характары, аб беларускай душы. Многія творы А. Бараноўскага знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі і іншых музеях Беларусі, у музеях і прыватных калекцыях Англіі, ЗША, Італіі, Германіі, Японіі, Швейцарыі і многіх іншых краін.**

**І. КАТЛЯРОЎ**

*На здымку: А. Бараноўскі ў Светлагорскай карціннай галерэі.*

ЗГАДКІ

# Два радкі розніцы

Упэўнены, гэты верш на памяці ва ўсіх, хто любіць Панчанкаву паэзію. Дасціпна-жартаўлівае і адначасна вельмі сур'ёзнае, ухнёсла-пафаснае прызнанне паэта ў пяшчотнай любові да Бацькаўшчыны. Цудоўны ўзор свабоднага палёту вобразнага мыслення. Верш "Што я думаў, гледзячы на Каспійскае мора".

У далёкім ужо сорак чацвёртым, калі ўсхваляваныя страфы гэтага прызнання ў ім нарадзіліся, Пімена Панчанку занесла на персідскія берагі Каспійскага мора дарога салдата Вялікай Айчыннай. Ён апынуўся ў складзе савецкага воінскага кантынгенту, са стратэгічных матываў уведзенага вярхоўным камандаваннем у Іран. І доўгая адарванасць ад роднай зямлі, кідкія, яркія, але не тыя дарагія, што змалку цешылі вока і сэрца, краявіды вакол, усё мацней настройвалі на выяўленне трапяткога сыноўскага пачуцця да краю, па якім за час расстання — ішоў жа чацвёрты ваенны год! — збалелася душа. Узіраючыся ў бяскрайнасць, прыгажосць, рамантычнасць Каспія, паэт і адчуў нешта, можна сказаць, рэўнасць, можна сказаць, крыўду на несправядлівасць вышэйшай сілы, што ў мільённавекавой пракаветнасці стварала свет. Трэба ж было так няроўна падзяліць: "адным вось такое раскошнае мора, другія ж не маюць мізэрнага морачка", адным горныя вяршыні, Казбек, другім толькі роўнядзь нізін.

Не, Беларусь не ўбачылася яму здзекліва абдзеленай. Што за багацце ў ёй хоць Дняпро і Нёман! Ён шчодры, ён рады, што над сваім багаццем матухна-радзіма не скнарыцца: Дняпром дзеліцца з Украінай, Нёманам з Літвой. Але грэх трохі ёсць, мае такую слабасць: дзе добрае што згледзіцца, адразу карціць тое "загрэбці" ды перадаць найлюбай старане на планеце. Як вось тут, на экзатычнай чужыне, па-над яе зайздросным водным бязмежжам замроілася "каўшом серабрыстым Вялікай Мядзведзіцы паўмора зачэрпнуць і ў Піншчыну выплеснуць". Таму заключны акорд верша — узвышальная мажорная медзь (цытую па шматразовых перапубліквацыях у паэтавых зборніках выбранага, у зборах твораў):

***...Стаю ля Каспійскага мора на беразе***
***І марай уласнае сэрца трывожу —***
***Мая Беларусь у рамонку і верасе,***
***Цябе не на жарты зрабіць я намерыўся***
***БАГАТАЙ, ШЧАСЛІВАЙ,***
***ЯК ПЕСНЯ, ПРЫГОЖАЙ.***

Прызнаюся, маё знаёмства з такім імем у літаратуры — Пімен Панчанка — з гэтага верша і пачалося. Першакурснікам універсітэта гартаў на зыходзе сорак пятага бібліятэчную падшыўку "ЛіМа", натыкнуўся ў адным з летніх нумароў на рыфмаваныя слупкі з дзіўнаватай інтрыгавальнай назвай над імі (помню нават месца, дзе яны былі заверстаныя: на першай старонцы пад абавязковым тады для любой савецкай газеты перадавым артыкулам), прабег іх вачыма, уражаны, прачытаў яшчэ раз, уважліва, і зачараваўся. Божачкі, як жа гэта бліскавічна-дзівосна: "каўшом серабрыстым Вялікай Мядзведзіцы паўмора зачэрпну і ў Піншчыну выплесну!" Якое ў вершы непадробнае пульсаванне высокай узрушанасці! Якая арганічная спалучанасць гумару і патэтыкі!

Фотаэлемент памяці прачытанае-перачытанае адбіў, вось ужо паўстагоддзя адбітае несціральна захоўвае, і сёння верш абуджае ўва мне тое самае, што пры даўнім першым прачытанні. Імя аўтара верша і да сустрэчы са шчаслівa ўбачанай падвёрсткай пад лімаўскай дзяжурнай перадавіцай было ў мяне на слыху — сустракаў у друку, чуў па радыё. Але пры слабенечкай маёй абазнанасці ўспрымалася не дужа вылучным сярод імёнаў іншых вершатворцаў генерацыі, да якой Панчанка належаў. Надалей жа яно мне зоркава засвяцілася.

Воляю лёсу, зялёны, я неўзабаве апынуўся ў штаце "ЛіМа". Якраз сядзеў у адзіным рэдакцыйным пакоі ў хвіліны, калі там аб'явіўся толькі-толькі дэмабілізаваны, толькі-толькі з паўднёвых іранскіх шырынь Пімен Емяльянавіч — шчаслівa-ўсмешлівы, пад хмяльком, у чорным скураным паліто з капітанскімі пагонамі. Дык адчуў я нешта такое, што адчуў бы, мабыць, убачыўшы ў сценах рэдакцыі другога афіцэра са стажам службы на поўдні — паручніка Лермантава. У зорных высях бачу Панчанку ўвесь свой век, хоць гады і гады па-зямному вітаюся з ім, часам здаралася, пачціва размаўляў.

Згадваю ж пра ўсё гэта таму, што фінал верша "Што я думаў...", які адбіты ў маёй памяці, ад прыведзенага вышэй розніцца. Я недарма агаварыўся, што цытую яго па шматразовых пазнейшых перапублікацыях. І недарма два самаапошнія радкі падкрэсліў. Пры з'яўленні ў газеце і ў першым кніжным апублікаванні (у зборніку "Далёкія станцыі", што выйшаў у Мінску ў 1945 годзе, калі аўтар яшчэ сумаваў па Беларусі за светам) верш заканчваўся інакш:

***..Стаю ля Каспійскага мора на беразе***
***І марай уласнае сэрца трывожу —***
***Мая Беларусь у рамонку і верасе,***
***Цябе не на жарты зрабіць я намерыўся***
***І САМАЙ БАГАТАЙ,***
***І САМАЙ ПРЫГОЖАЙ!***

З гэтым меркаваннем можна спрачацца, але па-мойму ранейшы канчатак тэмпературай, энергіяй гучання мацнейшы, лепшы за пазнейшы. Сэнсава ж мацнейшы пагатоў. Вядома, не проста багатай і прыгожай, а САМАЙ багатай, САМАЙ прыгожай марыцца адданаму сыну бачыць сваю маці. Няхай гэта летуценне, прытым нерэальнае, але летуценне натуральнае, вартае толькі ўхвалы. І такое пачуццё ў чалавеку не ў крыўду для мацярок іншых дзяцей. Шануючы матак сяброў, шчыра жадаючы ім дабра, мы найперш цэплыню і клопат аддаём сваёй.

Для Пімена Панчанкі Беларусь была маці, якой ён узгадаваны, якую любіў горача і непадзельна. Пры эмацыйным максімалізме, што быў яму ўласцівы (сведчаннем гэтай уласцівасці ўся яго творчая спадчына), пра святое, запаветнае ён гаварыў на гранічным па вышыні градусе, пры трымценні паэтычнага радка ад хвалявання. Як сказана было галоўнае і ў першай публікацыі верша "Што я думаў, гледзячы на Каспійскае мора".

Што ж спрычыніла выпраўленне лепшага, лічу, фінальнага "стрэлу" верша на слабейшы? А тое, што ў дзяржаве яшчэ тужэй пазакручаны былі гайкі ідэалагічнай пільнасці.

У часе бушавання на тэрыторыі ад Брэста да Курылаў выкрываўчага шалу, спароджанага сумнаслыннай пастановай аб часопісах "Звезда" і "Ленинград", да нашай рэдакцыі, помню, дакацілася пагалоска: верш "Што я думаў..." трапіў у спіс твораў беларускіх пісьменнікаў, аднесеных у ідэйна небездакорныя. У ім выгледжаны хітрапралазлы нацыяналізм. За прадэкляраваным аўтарам намерам зрабіць Беларусь "і самай багатай, і самай прыгожай" прачытана жаданне ўзвялічыць адну савецкую рэспубліку над астатнімі, міжвольнае, а то і асэнсаванае, процістаўленне яе іншым, з якімі разам яна ўваходзіць у СССР. А гэта небяспечна і павінна рашуча выкараняцца.

Мала не ўсе эсэсэсэраўскія дзесяцігоддзі

ПОГЛЯД

# Тэлесерыялы: бізнес, мастацтва ці проста жыццё,

## або Калі мы ўбачым "Санта-Бялынічы"?

Паміж іншых прыкмет посткамуністычнага жыцця ў наш побыт трывала ўвайшлі тэлесерыялы, гэтак званыя "мыльныя оперы". Здзіўляе ўжо сама назва, бо да музычнага мастацтва, тым больш такога сур'ёзнага, як опера, яны не маюць ніякага дачынення. Не назавеш іх ні аперэтай, ні вадэвілем, а эпітэты — "намыленыя", "засаленыя", "прымітыўныя" — тым больш не тлумачаць для нас новую і не зусім простую з'яву.

За савецкім часам таксама ствараліся нешматлікія серыялы. Але, па-першае, яны былі даволі абмежаваныя ў экранным часе (напрыклад, "Семнаццаць імгненняў вясны"), а, па-другое, мелі пераважна ідэйна-прапагандысцкі характар (цэнтральная тэма — "вайна і немцы"). Тыя ж разнастайныя тэле-сагі, што прыйшлі да нас з Захаду, нясуць зусім іншы светапогляд і мастацкі сэнс. Пазбаўленыя палітыкі, яны гадуюцца ля вечных чалавечых інстынктаў — каханне, вернасць, спагада, зайздрасць і г. д. І разам з тым тэлесерыялы — тыповая з'ява сённяшняй культуры, якой цяжка знайсці адпаведнікі ў мінулым. Самыя таленавітыя з іх спалучаюць розныя жанры: псіхалагічную драму і прыгожую казку, класічную трагедыю і дэтэктыў, фільм жахаў і гумарыстычныя рэпрызы. Такі постмадэрновы калаж, бадай, сугучны толькі сучаснаму жыццю, дзе хутка змена сітуацый і сімпатый, куміраў, жаданняў і арыенціраў стварае ўражанне бессэнсоўнага існавання, разбэрсанага руху ў нікуды. Тут, праўда, гаворка ідзе больш пра замежныя краіны, бо для Беларусі зноў вяртаюцца таталітарныя часы, а разам з імі агульная мэта — супраціў рэжыму, жаданне грамадства вырвацца да свабоды і цывілізацыі. Але мэта гэта толькі нараджаецца, яе ўсведамляе невялікая колькасць людзей, а большасць — цешыцца ля сваіх экранаў, "перажываючы" розныя варыянты замежнага тэлежыцця. Для іх гэта не столькі ўпіванне "нянаскай прыгажосцю" (захапленне ад заходніх апранах ды інтэр'ераў даўно прайшло), а своеасаблівая псіхалагічная падзарадка, маральна-энергетычны допінг. Ля экрана ўсе адэкватна рэагуюць на дабро і зло, могуць актыўна судзіць хлусню, подласць, несправядлівасць (каторыя больш чым відавочныя), такім чынам ачышчаючы свае духоўныя каналы і трэніруючы ўяўныя "маральныя мускулы", што вельмі цяжка або немагчыма зрабіць у рэальным, неэкранным і неўразумелым свеце. Асабліва гэта тычыцца асоб, пазбаўленых станоўчых эмоцый і моцных жыццёвых уражанняў, людзей, прыцісн утых шэрай рэчаіснасцю і аднастайным жыццёвым рытмам. Вядома ж, гэта большасць нашых жанчын. Аднак такая "гімнастыка" эмоцый і слёзных залоз калі і становіцца часткай прыватнага жыцця, то мала на яго ўплывае. Яна ператвараецца ў від псіхалагічнага наркотыка і, зацягваючы ў нерат прыдуманых калізій, цікавасць да рэальнага свету падмяняе чаканнем новых паваротаў тэлесюжэта. А што будзе заўтра? Яны пажэняцца, развядуцца ці застрэляцца? Па сведчанні С. Алексіевіч ("Зачараваныя смерцю"), беларускія самагубцы-жанчыны нават напярэдадні суіцыду не губляюць цікавасці да тэлевізійных жарсцяў, што, праўда, не перашкаджае ім здзейсніць свой ракавы крок. Можна сказаць так: калі

ў шматнацыянальнай савецкай літаратуры як дамінантная заахвочвалася тэма, што называлася высакамоўна: "пачуццё сям'і адзінай". Ах, як дагадзіў колісь уладзе сфармуляваннем гэткага азначэння ўкраінец Паўло Тычына — у маладосці бунтоўны сімваліст, у сталасці афіцыёзны трубадур. "Самасць" для Беларусі ў Панчанкавым вершы формуле, зацверджанай прыгожаму пісьменству для правільнай арыентацыі, адпавядала, прыйшлі недзе да высновы, не ў поўнай меры. Паэту было прапанавана прыраўняцца да адпаведнасці поўнай.

Праз два гады ў беларускай паэзіі з'явіцца рэч, з мілай уладзе формулай суладная ідэальна. Бясспрэчна, таленавітая, звонкая, будзе яна доўга ставіцца ў прыклад таго, што ад мастацкага слова пажаданае. Маю на ўвазе "Караблі" Кастуся Кірэенкі з іх зацытаваным, нераўнуючы як напісанае Маякоўскім пра савецкі пашпарт, фрагментам:

*Адкуль жа ж у нас,*
*што ўзраслі на прылессях,*
*На ціхай, няморскай зямлі, —*
*Марацкія мары і флоцкія песні,*
*Жаданне вадзіць караблі?*

*Напэўна, такая душа ўжо ў нас. Мусіць,*
*Ад першай маленства вясны*
***МЫ ЧУЕМ, ШТО МЫ НЕ АДНОЙ***
***БЕЛАРУСІ,***
***А ЎСЁЕ РАДЗІМЫ СЫНЫ.***

*Радзімы, ў якой столькі мораў і даляў*
*І столькі шчаслівых шляхоў...*

Не сумняваюся, атрымалася гэта выпадкова, несвядома, але падкрэсленыя радкі і працяг іх можна ўспрыняць і за апанентныя Панчанку. Аўтар "Што я думаў..." жартаўліва пажурыўся: "Адным вось такое раскошнае мора, другія ж не маюць мізэрнага морачка". Аўтар "Караблёў" нібы запярэчыў: "Мы... сыны... радзімы, ў якой столькі мораў..."

Аднак і раней, праз лічаныя ўжо месяцы пасля першых публікацый задужа "прабеларускага" Панчанкава роздуму ля Каспія, з'явіўся твор, па сутнасці, таксама апанентны гэтай "прабеларускасці". Зноў жа, безумоўна, несвядома, ненаўмысна апанентны.

26 красавіка 1946 года ў "ЛіМе" змешчаны быў грамавіты верш Анатоля Вялюгіна "Маскоўскія куранты". З прысвячэннем Панчанку. Перагартаўшы кніжкі Вялюгіна, на той верш я ні ў адной не натрапіў. Таму мэтазгодна тут прывесці яго ўвесь:

*Былі мы закінуты ў сумны Іран,*
*Нібы у стагоддзі другія.*
*Адменным кактэйлем гасіў рэстаран*
*Хваробу тугі — настальгію.*

*Салдату савецкаму тысячу страў*
*Падносяць з пашанай...*
*Не лезе!*
*Каб вырас я*
*шахам —*
*Іран бы аддаў*
*за бульбу й суніцы ў лесе.*
*А танга мурлыча...*
*Ад подыху спёк*
*Упрэлі у смокінгах франты.*
*І раптам,*
*як светлыя ліўні, —*
*здалёк —*
*Масквы залатыя куранты!*

*І мы узняліся над белым сталом*
*(Не выказаць гэта у вершы),*
*Ракоча па залі крэславы гром:*
*Застыглі брытанцы і персы.*

*Здавалася, ўбачыш за вокнамі ты —*
*ад снежных Бескід*
*да Тыбета,*
*Савецкага гімна пачуўшы матыў,*
*З пашанай*
*Застыгла*
*Планета.*

Іран, настальгія ў гэтым вершы таксама. Але "хвароба тугі" не па мядзведжых кутах, накшталт Піншчыны. Тут яна ў іншым маштабе, імперскім!..

Вялюгін, паўтараю, не ўключаў "Маскоўскія куранты" ў кнігі. Занадта ў вершы гучала "не сваё", Панчанкава — сам жа ў Іране не бываў? Убачыў, што, не меўшы таго на мэце, быццам палемізуе з сябрам, якому верш прысвечаны, і адчуў за тое няёмкасць? Як патрабавальны да сябе майстар, крытычна перачытаўшы надрукаванае ў газеце праз пэўны час, палічыў, што ў кнігах яно быць не вартае?

Панчанкаў жа "Што я думаў...", сказана ўжо, друкаваўся пасля "ЛіМа" і "Далёкіх станцый" у многіх кнігах паэта. З колішнім цэнзурным падрэдагаваннем. Беспадстаўным, спароджаным перастрахоўкай. Бо, глыбока і чулліва любячы Беларусь, паэт жадаў ёй роўнасці сярод роўных, паважанасці сярод паважаных, шчаслівасці сярод шчаслівых — не больш. Аднак, зразумела, і не менш. Што з'яўляецца здаровым патрыятызмам і ні ў якім разе не нацыяналізмам у жупельным сэнсе гэтага слова, уяўную праяву якога вынюхала ідэалагічнае чынавенства ў шчырасці верша — сынавага прызнання Айчыне ў любові.

Рэдкі аўтар у нашым блізкім мінулым не сутыкаўся з хмурай насцярожанасцю і неадольным усеўладдзем цэнзуры. Пімен Панчанка быў любімы народам, шырока прызнаны, уганараваны лаўрамі. Ад цэнзурных прычэпак гэта не ратавала.

**Уладзімір МЕХАЎ**

ў жыцці няма мэты, то сэнсам становіцца сам "працэс", у тым ліку і працэс спажывання бясконцых меладрам і сямейных тэлеэпапей.

Іх бясконцасць, дарэчы, не толькі чыста камерцыйны разлік — жаданне як мага даўжэй затрымаць увагу спажыўцоў і тым зарабіць больш дывідэндаў, — але і сведчанне мастацкай слабасці, страху памерці і беззваротна кануць у моры аналагічных серыялаў аднаразовага карыстання.

Я таксама пэўны час быў "серыйным спажыўцом" — меў неасцярожнасць паглядзець некалькі дзесяткаў серый "Багатых", якія таксама плачуць. Калі звярнуцца да фізіялагічных параўнанняў, то гэта вельмі нагадвала паталагічны, зацягнуты коітус, калі знясіленыя партнёры не атрымліваюць ніякага задавальнення, але выратавальнага канца ўсё няма і няма. З'ява ненатуральная і малапрыемная, бо чалавек устроены так, што канец павінен быць заўсёды: у мастацкага твора — катарсіс, у палавога акта — аргазм, у жыцця — смерць. Ігнаруючы гэтую аксіёму, аўтары бясконцых серыялаў пазбаўляюцца шанцаў на стварэнне шэдэўра, твора, які б праз сваю "канчатковасць" і "смерць" увайшоў у аналы класікі. Тэарэтычна я не выключаю магчымасці фільма працягласцю ў чалавечае жыццё, дзе б акцёры сталелі, старэлі і паміралі разам з рэжысёрам, героямі і гледачамі. Але хто яго ацэніць і ўхваліць, калі і крытыкі памруць задоўга да апошняй серыі? Відаць, гэта будзе ўжо не мастацтва, а само жыццё — будзённае, звыклае, аднастайнае. Вось гэтую грань паміж мастацтвам і не-мастацтвам (экранам і рэчаіснасцю, адкрыццём і руцінай), на маю думку, і спрабуюць пераадолець ці наогул сцерці тэлесерыялы. Хаця па-сапраўднаму здзейсняць гэта, бадай, віртуальна-камп'ютэрныя эпапеі будучых пакаленняў, дзе сюжэт і героі будуць ствараецца самім гледачом.

А пакуль мы не можам разлічваць нават на сціплы беларускі серыял — не столькі з прычыны фінансавых цяжкасцяў дзяржавы ці розніцы эстэтычнага ўзроўню Санта-Барбары і Бялынічаў, а таму што амерыканскае мястэчка дае значна больш сюжэтаў і падстаў для рэфлексій, чым беларускае, бо прыватнае жыццё ў таталітарным грамадстве — гэта жорстка рэгламентаванае, сумнае відовішча. Галоўныя падзеі якога — чарговая бітва за ўраджай, вываз гною на палеткі, выкананне гадавога плана і апошніх пастаноў урада. Такі "серыял" нельга прымусіць "спажываць" нават указам народнага прэзідэнта. Вось чаму наш народ так цягнецца да замежных тэлежарсцяў, спрабуючы хоць на якую гадзіну пабываць у вольным свеце ці ў іхняй "капіталістычнай шкуры". І як бы ні скардзіліся хатнія гаспадыні на бясконцасць і штучную расцягнутасць чарговага опуса, кожны раз зноў і зноў яны прыліпаюць да сваіх экранаў, як зачараваныя, прымаюць штодзённую порцыю "тэле-манкі". Зачараваныя працэсам тэлехарчавання... Што ж, гэта, здаецца, ужо неад'емная частка нашага жыцця і не самы горшы спосаб далучэння да сусветнай маскультуры.

**Васіль АЎРАМЕНКА**

*г. Магілёў*

РЭЗАНАНС

# Не бездакорна, але...

## АДКРЫТЫ ЛІСТ ВЯДУЧАМУ РУБРЫКІ "ЭКСЛІБРЫС" У "ЛіМе" АЛЕСЮ БЯЛЯЦКАМУ

Паважаны спадар А. Бяляцкі!

Звярнуцца да Вас мяне прымусіў Ваш водгук на кнігу М. Багдановіча "Выбраныя творы" ("Беларускі кнігазбор", 1996, газ. "Літ. і мастацтва" ад 25 ліпеня 1997 г.). Гэты водгук выклікаў недаўменне не толькі ў тых навукоўцаў, якія прымалі непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы выдання, але ў многіх іншых, з кім давялося абмяркоўваць Вашы нататкі.

Адразу хачу адзначыць: мы далёкія ад думкі, што ўсё ў названай кнізе зроблена бездакорна. Але здзіўляе катэгарычнасць некаторых Вашых вывадаў і меркаванняў.

Пачну па парадку. Тое, што аднатомнік "занадта падобны па сваёй структуры укладання на папярэдні акадэмічны трохтомнік" зусім не адпавядае рэальнаму становішчу. Можна толькі пашкадаваць таго "аматара паэзіі М. Багдановіча", які не заўважыў, што ў акадэмічным выданні ўпершыню ў нацыянальнай выдавецкай практыцы зборнік "Вянок" рэканструяваны па волі аўтара, якая дакладна выяўлена ў лісце М. Багдановіча ў "Нашу ніву" ад 29 ліпеня 1912 г.: "Надумаўся я памясціць у зборнічак і пераклады з Верлена... Прыйдзецца трохі змяніць і план кнігі. Усе пераклады (калі Верлена Вам аддадуць) трэба памясціць у канцы кнігі як чацвёрты аддзел з іменем "З чужой глебы: 1. З Верлена. 2. З іншых паэтаў". Але, на жаль, пажаданне аўтара не было ўлічана. І кампазіцыя "Вянка" ў "Выбраных творах" цалкам адпавядае выданню зборніка 1913 года.

Калі на пачатку працы над выданнем мы абмяркоўвалі кампазіцыю аднатомніка, Вы, паважаны Алесь Аляксандравіч, прапанавалі наогул разбурыць зборнік "Вянок", зыходзячы з Вашых асабістых эстэтычных меркаванняў. З Вашай прапановай не пагадзіліся не толькі складальнікі, але і галоўны рэдактар К. Цвірка і аўтар уступнага артыкула Н. Гілевіч. Яны ў адрозненне ад Вас адносяцца з павагай да асноўнага тэксталагічнага правіла: творы заўсёды друкуюцца паводле апошняга прыжыццёвага выдання, калі адсутнічаюць дакладныя звесткі пра рэдактарскія парушэнні ці аўтарскія пажаданні. Такім чынам, Ваша заўвага пра "святую карову", як Вы называеце зборнік "Вянок", мякка кажучы, не вытрымлівае ніякай крытыкі.

Катэгарычная заява пра тое, што змест "Вянка", 1913 г. у "вялікай ступені ўклаў В. Ластоўскі," патрабуе, па-першае, доказаў. Па-другое, напрошваецца лагічнае пытанне: чым лепей прапанаваная Вамі кампазіцыя "Вянка" ад зробленага В. Ластоўскім варыянта?

Далей. Заўвага наконт верша "Змяіны цар" уяўляецца і зусім беспадстаўнай. Справа не ў тым, на якой старонцы кнігі змешчаны верш, а ў храналагічным прынцыпе, якім мы кіраваліся і які Вы так з'едліва параўноўваеце з яздой "на возе па выбітным бруку — дыр, — дыр, — дыр". Аднатэмнасць твораў, якой Вы аддаяце перавагу, ніколі не вызначала кампазіцыю выдання. Гэта вядома кожнаму дасведчанаму літаратуразнаўцу. Верш "Змяіны цар", змешчаны на с. 48, датуецца годам апублікавання (17 лют. 1911 года) і ўключаны аўтарам у зб. "Вянок", які ўмоўна датуецца 1909—1912 гг. Другі верш пад той жа назваю хаця і датуецца 1910 годам, але змешчаны ў раздзеле, які ідзе за зб. "Вянок".

Што датычыцца верша "Касцёл св. Анны ў Вільні", дык дастаткова зазірнуць у каментарыі акадэмічнага выдання, каб даведацца: гэты верш на беларускай мове адсутнічаў нават у архіве М. Багдановіча, якім карыстаўся І. Замоцін, і твор быў надрукаваны толькі ў 1927 г. у газеце "Беларускі дзень" з архіва Р. Зямкевіча. І да гэтага часу не знойдзены матэрыялы, якія б сведчылі пра жаданне М. Багдановіча ўключыць яго ў зб. "Вянок" у раздзел "Места", як прапануеце Вы.

Можна спрачацца наконт мастацкай вартасці рускамоўных твораў М. Багдановіча, але нельга выкрасліць са спадчыны паэта даволі значны раздзел, нават у колькасных адносінах (17 асобных вершаў і 22 у зб. "Зеленя"). Творы, напісаныя на рускай мове, — неад'емная частка мастацкай спадчыны М. Багдановіча. І з гэтым нельга не лічыцца.

Параўнанне з польскамоўнымі творамі Я. Купалы зусім няўдалае, бо для Я. Купалы гэтыя творы — першая спроба пачынаючага паэта. У М. Багдановіча так званыя "паэтычныя практыкаванні" з'яўляліся на працягу ўсёй творчай дзейнасці.

Вам, спадар А. Бяляцкі, як нікому іншаму, павінна быць вядома, што большую частку свайго жыцця М. Багдановіч пражыў у Расіі, і руская мова была для яго такой жа блізкай, і ў яе стыхіі паэт адчуваў сябе дастаткова свабодна. Вядома, што М. Багдановіч менавіта праз рускую літаратуру засвойваў класічныя паэтычныя формы.

Публікацыя некаторых вершаў ("О, как уютно, чисто, мило...", "Городская любовь", "В горячем споре возражая..." і "Осенью") у рускамоўных выданнях сведчыць аб жаданні аўтара ўбачыць свае творы і ў рускай перыёдыцы.

Уключаючы ў "Выбраныя творы" рускамоўныя творы, мы кіраваліся не палітычнай кан'юнктурай, як гэты факт трактуеце Вы, а імкненнем паказаць багатыя творчыя магчымасці беларускага паэта, яго выключныя здольнасці ў галіне мастацкага перакладу.

Недапушчальным падалося нам Ваша меркаванне з нагоды "недарэчнага" ўключэння ў "Выбраныя творы" артыкулаў пра М. Ламаносава і М. Лермантава. Ці не да гонару М. Багдановіча трэба аднесці жаданне выйсці за рамкі нацыянальнай тэматыкі, што яскрава пацвярджае разнастайнасць яго творчых інтарэсаў і эрудыцыю.

І не зусім этычна гучыць Ваша абвінавачванне ў надзвычайнай талерантнасці, угодлівасці складальнікаў, якіх Вы называеце "беларускімі працаўнікамі" і якія ўжо доўгі час добрасумленна працуюць над выданнямі беларускіх класікаў, уносячы свой пасільны ўклад у скарбонку нацыянальнай культуры.

Напрыканцы хачу заўважыць, што калі кампазіцыйная пабудова "Выбраных твораў" М. Багдановіча не адпавядала Вашым поглядам на тое, як трэба выдаваць спадчыну паэта, было б больш сумленным адмовіцца ад удзелу ў падрыхтоўцы дадзенага выдання.

Нягледзячы на тое, што "Выбраныя творы" М. Багдановіча не пазбаўлены некаторых недахопаў, выхад дадзенай кнігі ў серыі "Беларускі кнігазбор" з'явіўся значнай падзеяй у літаратурным жыцці.

**Э. ЗОЛАВА,**
**навуковы супрацоўнік аддзела выданняў і тэксталогіі Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАН**

УГОДКІ

# Хто ж ён, Эдвард Вайніловіч?

Сёння Эдварда Вайніловіча памятаюць нямногія. Хіба што толькі тыя, хто часта наведваецца ў так званы Чырвоны касцёл у Мінску, што на плошчы Незалежнасці. А яшчэ, як вядома, ён называецца касцёлам святых Сымона і Алены. А Сымон (1885—1897) і Алена (1884—1903) — дзеці Э. Вайніловіча, якія нечакана памерлі пасля цяжкай хваробы. Бацька ў памяць аб іх і пабудаваў гэты касцёл. А будаваць у Э. Вайніловіча было за што, бо ён з'уляўся адным з багацейшых памешчыкаў Мінскай губерні, валодаў многімі маёнткамі, у тым ліку і Савічамі, Пузавым, што знаходзіліся ў Цімкавіцкай воласці Слуцкага павета (цяпер Капыльскі раён).

А яшчэ Э. Вайніловіч — вядомы гаспадарчы і палітычны дзеяч Беларусі. Нарадзіўся 150 гадоў назад, 13 кастрычніка 1847 года. Скончыў Слуцкую гімназію і Пецярбургскі тэхналагічны інстытут. Атрымаў прафесію інжынера-механіка. Працаваў на вядомым Пуцілаўскім заводзе, праходзіў стажыроўку ў Германіі і Бельгіі. Але ў хуткім часе з прамысловасцю развітаўся і вырашыў заняцца сельскай гаспадаркай. З 1878 года быў членам, віцэ-старшынёй, старшынёй Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі, у 1906 годзе выбраны ад памешчыкаў Мінскай губерні членам Дзяржаўнага Савета Расійскай імперыі, дзе з'яўляўся старшынёй так званага "Кола Польскага Каралеўства, Літвы і Русі". На працягу 35 гадоў быў ганаровым суддзёй Слуцкага павета.

У 1917 годзе Э. Вайніловіч працаваў разам з А. Смолічам і Р. Скірмунтам у земскіх арганізацыях, падтрымаў утварэнне БНР, удзельнічаў у пасяджэннях яе Рады. У 1918 годзе, калі пачалася нямецкая акупацыя, ад імя мясцовых памешчыкаў выступіў з планам аднаўлення Вялікага княства Літоўскага. У маі 1919 года стаў адным з ініцыятараў стварэння ў Варшаве "Польска-беларускага таварыства для палітычнага і культурнага супрацоўніцтва на Беларусі". У канцы жніўня 1919 года выехаў у Мінск, а ў верасні перабраўся ў свой маёнтак Савічы. Працягваў грамадскую дзейнасць у Слуцку, выязджаў у Мінск і Варшаву. У доме Э. Вайніловіча ў Слуцку праходзіў беларускі з'езд Случчыны, які ўзняў Слуцкі збройны чын 1920 года. Памёр Э. Вайніловіч 16 чэрвеня 1928 года. У 1931 годзе ў Вільні выйшлі яго "Успаміны".

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

ПАГІНАЦЫЯ

# Яго ідэяй была Крывія

## ЗАЎЧАСНЫ НЕКРАЛОГ ПРА ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА

Гэты матэрыял планаваўся да юбілейнага — 10-га — выпуску "Пагінацыі". Але падаспеў на нейкія два нумары раней. Ён выходзіць да чытача практычна разам з "Выбранымі творамі" В. Ластоўскага. Гэтая кніга, пасля аднатомнікаў твораў Яна Чачота і Максіма Багдановіча, стала трэцяй у прэстыжнай бібліятэчнай серыі "Беларускі кнігазбор". Зазначым, што гэта наогул першае выданне "выбранага" В. Ластоўскага на Бацькаўшчыне. Зборнік склалі не толькі проза, паэзія, публіцыстыка, эпісталярная спадчына, але таксама і невялікі дадатак, куды ўвайшлі дакументы пра самога пісьменніка. Адзін з матэрыялаў (некралог) і прапануе "Пагінацыя" на знаёмства шырокаму чытачу.

У некралагічным жанры, здаўна пашыраным на Беларусі, знайсці штосьці роўнае, аналагічнае гэтаму пранікнёнаму развітальнаму слову пра аднаго з піянераў беларускага Адраджэння цяжка. Мо таму, што сама постаць была ні з кім не параўнанай. Ці таму, што Слова гэта паўстала пад пяром святара?..

Заўчасны некралог пра няўрымслівага даследчыка, пісьменніка, палітыка, апублікаваны быў... пры жыцці Ластоўскага. Толькі пазнаёміцца з ім Власт наўрад ці мог. У далёкім Саратаве 1930-х гадоў, закінутым на беразе Волгі, куды саслалі яго па справе Саюза Вызвалення Беларусі, нават перапіска са сваякамі лічылася небяспечнай. Не кажучы пра перасылку старонак газет "буржуазнай Польшчы".

Успамін пра В. Ластоўскага напісаў хтосьці Адам Саладух. Прозвішча гэтае я неаднаразова сустракаў у архіўных паперах В. Ластоўскага і доўгі час атаясамліваў з рэальнай асобай. Аднак, як падказаў даследчык Янка Саламевіч, гэта — адзін з псеўданімаў ксяндза, рэлігійнага дзеяча Уладзіслава Талочкі (1887—1942).

"Пасмяротнае" слова, на жаль, прароча спраўдзілася: некралог апярэдзіў трагічную вестку толькі на год: Вацлаў Ластоўскі быў расстраляны 23 студзеня 1938 года.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ**

Вацлаў ЛАСТОЎСКІ

# Успамін

Застаюся пад свежым уражаннем весткі пра смерць Вацлава Ластоўскага. Бо ён належаў да людзей, паўз якіх не пройдзеш абыякава. Меў ворагаў, але меў і сяброў, злосна ігнаравалі яго адныя, тым болей цанілі другія. Чалавек ідэі. Праз усё жыццё верны ёй адной. Стала і бескарысна служыў ёй. Той ідэяй была Беларусь, яе адраджэнне. Служыў ёй у двух іпастасях: як адзін з найвыдатнейшых культурных дзеячаў і як палітык, поўны тэмпераменту, фантазіі і нязломнасці. Бясспрэчна, што яговыя заслугі на культурным абшары значна перавышаюць плён палітычнай дзейнасці. Сёння трэба пачаць падсумоўваць і адны, і другія, каб стварыць нарэшце сінтэтычны вобраз чалавека, імя якому было Вацлаў Ластоўскі.

Шмат яму давялося перажыць, бо працаваў у Вільні, у Коўне, у Рызе, у Менску, на высылцы, нават хіба ў зняволенні, і так аж да катастрафічнага фіналу — страты, бо праца дзеля Беларусі была для яго сардэчнай любоўю, унутранай патрэбай і штодзённым абавязкам. Чалавек шырокіх абсягаў думкі, крылатай і смелай, напэўна, здзейсніў у жыцці хіба ледзь бачную частку сваіх задум, планаў, праектаў, нават толькі літаратурных і выдавецкіх. Калі я азіраюся навокал, сёння сярод беларусаў не бачу анікога, хто мог бы параўнацца Власту ў яговым пафасе ды энтузіязме на ніве культурнай працы. Сам гарэў тым агнём і натхняў іншых, таму ўсіх захапляў.

Самародак і самавук, начытаны, з развітымі здольнасцямі і таленавіты, сваімі дасягненнямі і ведамі ён толькі ў невялікай ступені быў абавязаны школе, дзе, зрэшты, зусім нядоўга выціраў лавы. Аднак вучыўся заўсёды, пакуль жыў. Яговым даследаванням крытык з лёгкасцю кіне папрок у нейкіх метадалагічных недахопах, пэўную недапрацоўку тэхнікі навуковага стылю, аднак вымушаны будзе прызнаць каласальнае багацце сабранага матэрыялу, неардынарнае асэнсаванне тэмы, арыгінальныя, часам су-б'ектыўныя высновы, але заўсёды вартыя ўвагі і запраўднаму цікавыя. Часам мог узляцець, задалёка сягнуць, высоўваючы гіпотэзы або робячы высновы, толькі не ведаю, ці не гэтак жа часта робяць памылкі прафесійныя навукоўцы, прафесары універсітэтаў, дыпламаваныя акадэмікі, калі пішуць гісторыю старажытных часоў...

Я сустрэўся з Ластоўскім на старонках варшаўскага "Swiata", які звычайна свае першыя бачыны адводзіў перад вайной гутаркам з выразнікамі самых розных плыняў этнічных, палітычных, грамадскіх, літаратурных, мастацкіх. У гэтай нізцы аднойчы з'явілася размова з літоўскімі і беларускімі прадстаўнікамі ў Вільні. Папулярны, але вольны ад эндэцкіх тэндэнцый варшаўскі штотыднёвік падаў тады авальны здымак Власта і некалькі калоначак размовы з ім, з якіх можна было даведацца, што робіцца ў беларусаў у Вільні і на правінцыі і да чаго яны імкнуцца.

Асабіста ж я пазнаёміўся з Ластоўскім ў Вільні падчас сусветнай вайны, калі акрэслілася шчаслівая магчымасць пашырыць беларускую палітычную платформу, заахвочваючы да супрацоўніцтва нават далёкіх ад беларускага руху найбольш актыўных асоб і груповак.

Потым я не раз бываў у "Беларускай кнігарні" пры вуліцы Завальнай, 7, добра знаным беларусам месцы для гутарак і прыватных сходак, дзе было шмат розных старасвецкіх помнікаў і заўсёды лунала непагасная аўра, прасякнутая прыемным для кожнага бібліяфіла старажытным водарам аплецены пергаментам або скурай фаліянтаў і рукапісаў. Колькі ж тут адбылося дыскусій! Колькі прынесена з места і з правінцыі навін ды плётак, якія будзілі надзею або зноў неспакой!

Власт быў добрым, сардэчным чалавекам. Другой рысай Власта была яго далікатнасць і паслугаванне. Няма нічога прасцей, як на заранку нацыянальнага руху наклікаць абвінавачванне ў шавінізме. Не чуў, каб калі такі закід прагучаў па адрасе гэтага незвычайнага беларуса. Так, я ведаю нават пра яговую блізкасць з палякамі, пра цесныя кантакты з д-рам Басановічам і інш. Да нікога ён не адчуваў крыўды ці горычы, за выключэннем, можа, пару асоб.

З'яўляючыся прыхільнікам сацыялістычна-рэвалюцыйнага накірунку, В. Ластоўскі тым не менш быў вольны ад усялякай дактрыны, партыйнай абмежаванасці, затое меў глыбокі розум і такія ж шырока адкрытыя на свет вочы даследчыка і мысляра. Разумеў усіх і ўсё. У гэтым трэба бачыць прычыны нештодзённай з'явы, бо так палітычна заангажаваны Власт жыў у сяброўстве з некалькімі ксяндзамі, між іншым, са шваграм б[ылога] прэзідэнта Вайцяхоўскага, вядомым у Вільні гімназічным выкладчыкам катэхізму, св[ятой] п[амяці] кс. Каз[імірам] Кярсноўскім і з сучасным беларускім паэтам кс. Я. Семашкевічам ды і з іншымі быў заўсёды ў найлепшых адносінах. Таксама ён надаваў значэнне рэлігійнаму элементу як у выхаваўчай працы ("Золак"), так і ў выдавецкай ("Крывічанін"), выдатна разумеў гіпатэтычную значнасць ідэі уніі, якая добра праводзілася на Беларусі. Сваёй жалобнай прамовай шчыра развітаўся ў Коўне з вядомым яму яшчэ па Вільні св. п. арцыбіскупам Матулевічам. Я не хачу гэтым сказаць, што ў асабістым жыцці і палітычнай дзейнасці Власта не было часам пэўных адхіленняў з той дарогі, але тлумачыліся яны ў значнай ступені шчырымі парывамі і жывым уяўленнем, якое не раз штурхала яго да неадкладнай рэалізацыі або да ўстанаўлення ненадзейных саюзаў і недастаткова прадуманых канцэпцый. Пры ўсім тым гэта быў палітык з чыстымі рукамі. Ён нідзе не шукаў і не зрабіў ніякага асабістага інтарэсу. Якім быў у Варшаве, гэткім жа ў Коўне і Рызе, не іншым у Берліне ці ў Парыжы. Відавочна, верны гэтаму застаўся і ў Менску, за што заплаціў заўчасна згаслым жыццём.

Быў рознабакова адораны. У нейкім сэнсе, калі гаварыць пра аматарскае захапленне, нават універсальны. Аднак нідзе не быў партачом, працаваў добра і згодна. Ратавала яго тое, што ён не пераацэньваў канчаткова свае сілы. Узнёсшыся паднебна на крылах свайго ўяўлення, ён потым зніжаўся, каб прыгледзецца да бітага гасцінца і зробленых на ім памылак, адкуль жадаў чэрпаць навуку на будучыню. Хіба ніхто не назаве Власта рэальным палітыкам, адкуль жадаў чэрпаць навуку на будучыню. Хіба ніхто не назаве Власта рэальным палітыкам, аднак заўважым, ці мог быць ім беларус, які памкнуўся да адраджэння? На пачатку свайго шляху беларускі рух меў усё супраць сябе, анічога за сабой. Аднак нават і ў такіх варунках Ластоўскі заставаўся рэалістам, пра што сведчыць хоць бы тое, як не раз ганьбіў прыярост эфемерных беларускіх арганізацый словамі "хвасты на лік..." (у даўнія часы гіцлі бралі аплату ў магістраце паводле колькасці прад'яўленых сабачых хвастоў, якія маглі часам быць несапраўднымі).

Власт лічыў неабходным удасканальваць сябе ўсё жыццё. Пісаў вершы, зразумела, асанансныя. Быў у іх палёт ці пэўнае рамесніцтва? Напэўна, не меншае, чым у сучасным польскім паэтычным авангардзе, што выдаецца ўжо ў незлічоных дадатках да газет, а часам нават у "Wiadomosciach Literackich". Быў летапісцам гісторыі беларускага народа, яго пісьменства, культуры, фальклору... Быў таксама выдатным знаўцам беларускага слоўніцтва, лексічнага запасу мовы, праўдзівым радовішчам, аднак не здолеў апрацаваць свае веды, бо ў выдадзеным ім слоўніку не хапае абавязковых каментароў.

Па меры неабходнасці займаўся таксама практычнымі справамі і арганізаваў дзіцячыя прытулкі, летнікі, удалы дзіцячы тэатр, дэбютам і каронным публічным выступленнем якога быў паказ старабеларускай захаляльнай містэрыі. Беззваротна пераробліваў людзей у сваю рэлігію, а таму настаўнікі і іншая прыслуга прытулкаў надоўга прасякалася духам, якім жыў Власт і яго найбліжэйшыя.

Я заўсёды сардэчна жадаў Власта, каб ён вярнуўся ў Вільню, каб дзенебудзь, тут ці там, яму было дадзена яшчэ папрацаваць перад смерцю на карысць беларускай культуры, дзеляючыся з намі тым, што ў такой шчодрай колькасці сабраў у галіне беларускага фальклору, непараўнаным даследчыкам якога ён быў цяпер, пасля адыходу з гэтага свету цэлай былой генерацыі як польскіх, так і расійскіх даследчыкаў.

Хто ведае, мо гэта ахвярная смерць Власта ад рук непрыяцеляў ці не сталася для яго стакроць годным канцом зямнога жыцця, чым павольнае згніванне знямажанага хваробай чалавека ў ложку, які, паводле выказвання Гётэ, не для аднаго становіцца месцам апошняга прыпынку.

Жальба і сум з выпадку смерці Вацлава Ластоўскага павялічвае яшчэ тая акалічнасць, што яговыя багатыя зборы і ўвесь архіў, напэўна, былі расцярушаны і знішчаны.

Смерць Власта, падобна як і Івана Луцкевіча, з'яўляецца межавым каменем, кінутым там, дзе канчаецца перыяд нашаніўскага беларускага руху. Так адышоў яго другі прадстаўнік.

**Адам САЛАДУХ**

*"Przeglad Wilenski". 1937, N 1. C. 1—2. Пераклад з польскай.*

# Пляткарня

***Той таму тое сказаў, тая тое ад той пачула, тыя з тымі на свае вочы тое бачылі, а гэтыя тых на свае вушы чулі... Нарэшце ўцяміўшы, што асноўны жанр сённяшняга часу не запаволеныя паэма, раман ці п'еса, а дынамічныя плётка з чуткай, адкрываем на апошняй старонцы "ЛіМа" пляткарню. Досыць творчай інтэлігенцыі пляткарыць па завугольлях, прапануем адкрытую трыбуну.***

***Пляткарыць можна па тэлефоне 233-22-04 ці па любым іншым тэлефоне рэдакцыі з любым супрацоўнікам, а таксама па пошце.***

●

Па чутках з апарату Савета Міністраў, віцэ-прэм'ер Уладзімір Пятровіч Заматалін збіраецца з панядзелка ў цалкам заслужаны адпачынак, так што ў сацыяльна-культурнай сферы нашай краіны амаль месяц могуць назірацца перабоі і, як казаў Піліп Пястрак, нечаканыя неспадзяванкі.

●

Па чутках з Міністэрства культуры, дырэктара Купалаўскага тэатра Івана Іванавіча Вашкевіча сабралі на пенсію, а ў вызваленае дырэктарскае крэсла сядзе акцёр Генадзь Давыдзька, што безумоўна сведчыць пра яговы творчы рост. Адначасова з гэтым Валерый Раеўскі нібыта стаміўся быць галоўным рэжысёрам купалаўцаў, быццам бы абрыдлі яму бясконцыя патрабаванні ствараць сцэнічныя дзеі, дастойныя эпохі. Мяркуецца, што ў самым хуткім часе гэткія дзеі давядзецца ствараць Мікалаю Пінігіну, які заматляўся паміж Мінскам і Піцерам і ўжо амаль забыўся на тое, што ён з тутэйшых.

●

Па чутках з Рускага тэатра імя М. Горкага, галоўнаму яговаму рэжысёру Барысу Луцэнку, які ў 60 гадоў нават і не думае пра пенсію, амаль удалася спроба перабіць нядаўні рэкорд Іосіфа Кабзона. Юбілейны бенефіс Барыса Іванавіча доўжыўся на сцэне да поўначы, а ў буфетах, якія заліў дармавым півам вольны літаратар Яўген Будзінас, — да світання. Юбіляр у белым шаліку ва ўсіх месцах выглядаў блiскуча, таму ўсім, хто быў побач з ім, моцна пашчасціла.

●

Па звестках з "ЛіМа", рэдактару аддзела тэатра Жане Лашкевіч далучыцца да жыцця і творчасці Барыса Іванавіча і пасмакаваць піва Яўгена Дамінікавіча ў гэтую вечарыну не давялося.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Юрась СВІРКА,**
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 2332-461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 2332-525, 2331-985 |
| АДДЗЕЛЫ: | |
| публіцыстыкі — | 2332-525 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 2331-985 |
| літаратурнага жыцця — | 2332-462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 2331-985 |
| паэзіі і прозы — | 2332-204 |
| музыкі — | 2332-153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 2332-153 |
| выяўленчага мастацтва, ахова помнікаў — | 2332-462 |
| навін — | 2332-462 |
| мастацкага афармлення — | 2332-204 |
| фотакарэспандэнт — | 2332-462 |
| бухгалтэрыя — | 2682-667 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 5647
Нумар падпісаны ў друк 16.10.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 6140/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12